

Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС

Address: P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World
Published by the Belarusan American Ass'n Inc.

№ 491 Сьнежань 2003 г.
Год выданьня 54

# Беларусіка на зьезьдзе Таварыства Амэрыканскіх Славістаў

У канадзкім горадзе Таронта адбыўся 20-23-га лістапада 2003-га году гадавы зьезд Таварыства Амэрыканскіх Славістаў (American Association for the Advancement of Slavic Studies). У зьезьдзе ўзялі ўдзел больш за дзьве тысячы навукоўцаў. Усе даклады адбываліся ў адным вялікім гатэлі Ёрк Роял. На працягу чатырох дзён адбылося больш за 300 дзьвюхгадзінных сэсіяў (па тры даклады на сэсіі). Некаторыя сэсіі праходзілі ў форме "круглых сталоў". Тры сэсіі былі поўнасьцю прысьвечаныя беларускім тэмам: літаратуры й музыцы, мовазнаўству ды беларускаму нацыяналізму. Беларускія пытаньні закраналіся і на некаторых іншых сэсіях (тэмы: бібліятэчны абмен, беларусізацыя 1920-х гадоў, украінска-беларускія традыцыі XУІ-XVII-га стагодзьдзяў, жаноцкае пытаньне ды іншыя).

На сэсіі пра беларускую літаратуру і музыку, на якой старшыняваў праф. Курт Ўулгайзэр, прачыталі даклады: праф. Зіна Гімпелевіч пра пакладзеную на музыку паэзію (псальмы) Рыгора Барадуліна; праф. Арнольд Макміллін пра літаратурнае сяброўства Васіля Быкава й Рыгора Барадуліна; праф. Паўліна Сурвілла пра ролю беларускае рок-музыкі ў будаваньні музычнае грамады. Камэнтатарамі дакладаў былі сябры Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва Івонка Сурвілла і Янка Запруднік.

У пытаньнях моваведы выступілі з дакладамі (старшыняваў праф. А. Макміллін): праф. Аліцыя Барута-Садкоўская пра беларускую мову 1920-х-1930-х гадоў і сучасныя моўныя стандарты; праф. Юлія Верхалянцава пра мову раньніх стагодзьдзяў Вялікага Княства Літоўскага; праф. Вінцук Вячорка пра трансьлітарацыю лацінкаю беларускіх імёнаў і назоваў. Камэнтавалі даклады прафэсары Рэйманд Г. Міллер і Курт Ўулгайзэр.

На "круглым стале" на тэму беларускага нацыяналізму (старшыняваў др. Вітаўт Кіпель) прачыталі даклады: журналістка Віялета Кавалёва, кандыдат гістарычных навукаў Ірына Лысенка, праф. Вінцук Вячорка і др. Янка Запруднік.

У часе зьезду адбылося паседжаньне сяброў управы й запрошаных гасьцей Паўночна-Амэрыканскага Беларусазнаўчага Таварыства (North American Association for Belarusian Studies), на чале якога стаіць праф. Гарвардзкага ўнівэрсытэту Курт Ўулгайзэр, які, дарэчы, валодае беззаганным беларускім вымаўленьнем.

Была нагода ў часе зьезду пабачыцца і пагутарыць са сп. Станіславам Шушкевічам, які, прыбыўшы з Вашынгтону, выступаў у гэтым часе зь лекцыяй у Тарантаўскім унівэрсытэце.

**(Я.З.)**

# "Расейцы не датрымалі дагавору"

## З матар'ялаў да гісторыі пераходу беларускага япіскапату ў расейскае зарубежніцтва.

Рэлігійнае жыцьцё беларускай эміграцыі багатае на імёны, падзеі й факты. Адныя зь іх па сваёй значнасьці застаюцца ў памяці на імгненьні, іншыя - на гады.

У жніўні 1947-га году мюнхэнскі часапіс "Церковная Жизнь" на адной са сваіх старонак зьмясьціў асьведчаньне Архіярэйскага Сыноду Расейскай Праваслаўнай Зарубежнай Царквы наступнага зьместу: "Пастановаю ад 10 (23) лютага 1946 г., заслухаўшы Сабор праваслаўных япіскапаў зь Беларусі й просьбу аб прыняцьці іх з духавенствам і вернікамі ў поўную брацкую і малітоўную лучнасьць ды адміністратыўнае абьеднаньне, зацьверджана:

Вітаючы рашэньне Сабору праваслаўных япіскапаў зь Беларусі ў справе далучэньня іх да Расейскай Праваслаўнай Зарубежнай Царквы, прыняць іх у склад такой, уключыўшы ў Архіярэйскі Сынод, у якасьці іх прадстаўніка, прэасьвяшчэннага япіскапа Сьцяпана і, па меры практычных магчымасьцяў, рэалізуючы іншыя пажаданьні, пададзеныя ў заяве япіскапаў зь Беларусі (выдзелена - А. Ю.), аб чым паведаміць на бліжэйшым Агульным Архіярэйскім Саборы, перадаўшы копію дадзенага асьведчаньня ў Саборную канцэлярыю, а ўсім, хто падпісаў заяву Прэасьвяшчэнным выслаць пастановы".

Як сёньня ведаем, такой практычнай магчымасьці для ажыцьцяўленьня інтарэсаў і пажаданьняў беларускай часткі япіскапату ўлады Расейскай Праваслаўнай Зарубежнай Царквы ніколі не знайшлі.

Гэтаю пастановаю была пастаўленая апошняя кропка над "і" ў справе пераходу ярархіі БАПЦ у расейскае зарубежніцтва. Рашэньне япіскапаў ад пачатку беларуская эміграцыя справядліва акрэсьліла актам нацыянальнай здрады. Ягоныя наступствы прывялі да рэлігійнага і палітычнага падзелу, аб чым на эміграцыі пісалі й гаварылі палітыкі, культурныя дзеячы й гісторыкі.



**На здымку: Япіскапат БАПЦ на эміграцыі. Сасновіцы, ліпень 1944 г. Сядзяць (зьлева): арх. гарадзенскі і беластоцкі Бэнэдыкт, мітрапаліт усяе Беларусі Панцялейман, арх. палескі і берасьцейскі Іаан. Стаяць (зьлева): яп. гомельскі і мозырскі Грыгор, яп. віцебскі і полацкі Апанас, яп. смаленскі і бранскі Сьцяпан, іераманах Юліян, арх. магілёўскі і мсьціслаўскі Філафей (З кнігі І. Касяка "З гісторыі Праваслаўнай царквы беларускага народу", Нью Ёрк 1956, с. 138)**

Нашая публікацыя ня ставіць на мэце рэабілітацыю былога япіскапату БАПЦ і яго паасобных царкоўных дзеячаў. Яна мае іншую задачу - у сьвятле новых, малаведамых фактаў убачыць неадназначнасьць прынятага рашэньня і ягоныя трагічныя вынікі для саміх беларускіх япіскапаў. Падставу да гэтага далі дзёньнікавыя запісы Ўладыкі Мікалая (М. Мацукевіча), што захаваліся ў архівах БАПЦ у Таронта.

Зь іх вынікае, што ўвосені 1971-га году ў Аўстраліі дайшло да неардынарнага спатканьня двух беларускіх царкоўных ярархаў архіяпіскапа Апанаса і япіскапа Мікалая. Ягоны фрагмэнт, аднатаваны ў форме дзёньнікавага запісу, падаём ніжэй:

*"17 лістапада 1971 года, Сыднэй.*

*Роўна на дзесятую гадзіну сп. К. Хаванскі завёз мяне да архіяпіскапа Апанаса на адрас 92 Burlington Homebush, N.S.W. 2140, Australia.*

*Хаванскі астаўся ў аўце, а я падыйшоў да дзьвярэй і як толькі пазваніў - чую пабеларуску: "Вітаю, вітаю!". Мы прывіталіся пацалункам, як належыцца архіярэям, і Ўладыка запрасіў мяне ў хату. Гэта ўпершыню я бачыў Уладыку Апанаса. Ен быў высокі, аскэтычнага выгляду і рухавы.*

*З гутаркі архіяпіскапа Апанаса было відна, што ён сочыць за ходам нашае БАПЦ, бо добра паінфармаваны пра нашыя царкоўныя справы. У гутарцы ён*

**Заканчэньне на бач. 11**

# Дзень Сьв. Еўфрасіньні ў Саўт-Рывэры

Паміж беларускаю грамадою Саўт-Рывэру (штат Нью-Джэрзі) і гарадзкою ўправаю гораду (16.000 жыхароў) заўсёды былі вельмі добрыя дачыненьні. Некалі, на пачатку 1970-х гадоў, калі беларускі актыў задумаў будаваць сваю царкву імя Сьв. Еўфрасіньні Полацкай, гарадзкая ўправа паспрыяла набыцьцю адпаведнага пляцу ня толькі пад царкву, але і пад вялікі грамадзкі будынак, а таксама дом для сьвятара. Зямлі хапіла нават, каб насадзіць дрэваў, што выраслі ў прыгожы парк.

Ад часу пабудовы каля царквы вялікага будынку Беларуска-Амэрыканскага Грамадзкага Цэнтру (БАГЦ) гарадзкая ўправа карысталася пры розных сваіх патрэбах заляю БАГЦ задарма. Сваю ўдзячнасьць за такую шчодрасьць управа гораду выказала 10-га лістапада сёлета адмысловай урачыстасьцю, на якую была запрошаная дэлегацыя ад прыходу Сьв. Ефрасіньні Полацкай. Узначаліў дэлегацыю а. Стаўрас, настаяцель царквы, пры якой адбываецца найбольш рэлігійных і грамадзка-культурных падзеяў. У дэлегацыю сярод іншых увайшлі сп. сп. Уладзімір Літаровіч і Міхась Сенька ад царкоўнай рады, спн. Елізавета Літаровіч ад царкоўнага хору, спн. Анастасія Мэцгер ад групы моладзі ды спн. спн. Марыя Мэцгер і Анна Робэртсан ад прыхаджанаў.

Мэр гораду Робэрт Сэгеты ў прысутнасьці сяброў гарадзкой рады ўручыў настаяцелю прыходу а. Стаўрасу грамату, у якой ад імя жыхароў гораду выказаная ўдзячнасьць прыхаджанам царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай за надзвычайную шчодрасьць у даваньні магчымасьцяў карыстацца заляй БАГЦ. Граматай дзень 10-га лістапада 2003-га году быў абвешчаны Днём Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай.

Айцец Стаўрас у словах падзякі спаслаўся на словы псалому (70/71:18), у якім выказаная просьба да Бога, каб той даў змогу старэйшым людзям пераказаць мудрасьць Божую наступнаму пакаленьню. Гэта тое, сказаў а. Стаўрас, чым займаецца царква Сьв. Еўфрасіньні Полацкай. Ён зазначыў, што Беларуска-Амэрыканскі Грамадзкі Цэнтар стаўся месцам перахоўваньня і культываваньня беларускіх традыцыяў, праваслаўнай веры й культурнай спадчыны.

У Саўт-Рывэры й ваколіцах апошнімі гадамі пасяліліся новыя таленавітыя людзі зь Беларусі. Яны далучаюцца да сваё грамады, узбагачаюць яе, шчыра працуюць і узмацняюць надзею, што лучнасьць пакаленьняў будзе забясьпечаная на далейшую будучыню. Шмат спрыяе гэтаму самаахвярная праца новага душпастыра прыходу а. Стаўраса.

*(Я.З.)*



*Беларуская дэлегацыя падчас уручэньня Граматы мэрам Робэртам Сэгеты.*

# Сьвяткаваньне ў Лёндане

Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі адсьвяткавала 83-ю гадавіну Слуцкага Паўстаньня. Імпрэза пачалася а 1-й гадзіне папаўдні. Айцец Аляксандар Надсон у царкве Сьв. Апосталаў Пятра і Паўла адслужыў Багаслужбу за ўсіх ахвяраў, якія загінулі ад рук ворагаў у змаганьні за незалежнасьць Беларусі. У сваёй рэлігійна-патрыятычнай пропаведзі а. Надсон адзначыў важнасьць гэтае падзеі, якая сёньня павінна служыць прыкладам патрыятызму для маладога пакаленьня беларусаў.

Пасьля Багаслужбы прысутныя сабраліся ў залі рэлігійна-культурнага цэнтру, дзе Старшыня ЗБВБ спн. Лёля Міхалюк афіцыйна адкрыла акадэмію, прысьвечаную гадавіне Слуцкага Збройнага Чыну. Ад імя Ўправы яна правітала вялікую грамаду, якая прыбыла з усіх куткоў Англіі, а таксама паважаных гасьцей зь Беларусі ў асобах гісторыка і пісьменьніка Ўладзімера Арлова і барда і пісьменьніка Зьміцера Бартосіка. Спн. Міхалюк папрасіла прысутных ушанаваць хвілінаю цішы памяць тых, хто аддалі свае жыцьці за Беларусь.

Наступным слова ўзяў сакратар ЗБВБ сп. М. Пачкаеў. Ён прачытаў прывітаньне ад Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы, беларускіх арганізацыяў з Аўстраліі, Амэрыкі й сяброў з паўночнай Англіі, якія з асабістых прычынаў не змаглі прыехаць на сьвяткаваньне.

Рэфэрат пра Слуцкае паўстаньне прачытаў сп. У. Арлоў. Як гісторык, ён дакладна распавёў пра гістарычныя фарты, якія прымусілі случчакоў устаць на збройнае змаганьне з расейскімі бальшавікамі. Сп. Арлоў сказаў, што ў месцах баёў ўвосень на Дзяды гэтую гадавіну адзначаюць.

Урачыстая частка закончылася адсьпяваньнем прысутымі нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", а потым пачаўся канцэрт барда Зьміцера Бартосіка, які прасьпяваў шмат песьняў на гістарычныя тэмы й пра сёньняшняе жыцьцё ў Беларусі. Кожную песьню віталі воплескамі. У канцы спн. Міхалюк ад імя прысутных падзякавала сп. сп. Арлову і Бартосіку за іх чынны ўдзел у сьвяткаваньні й уручыла ім абодвым падарункі. Сп. Арлоў у сваю чаргу ўручыў падарунак спн Міхалюк сваю кніжку.

Спн. Міхалюк паведаміла, што 23-га лістапада спаўняецца 45 гадоў сьвятарства а. Надсона. Ад імя ЗБВБ яна павіншавала сьвятара і дала яму падарунак.

Сяброўкі ЗБВБ падрыхтавалі багаты пачастунак. Пры чарцы віна і добрай закусцы хутка праляцеў час, і трэба было разьяжджацца дахаты.

***Сыльвестар БУДКЕВІЧ***

# Падзеі ў Тароньце

Сёлета, 22-га лістапада, у гатэлі Ёрк Роял у Тароньце адбыўся зьезд Таварыства Амэрыканскіх Славістаў. Як я даведаўся, там ішла гаворка пра беларускую мову, як яна, гэтая цяперашняя мова нашая, пануе ў сьвеце іншых, суседніх славянскіх моваў.

Як сябра канадыйскага Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, я апынуўся між актыўных людзей навукі, пераважна філялёгіі: нашых амэрыканцаў - спадароў Янкі Запруднікa, Вітаўта Кіпеля; нашай Зіны Гімпелевіч, старшыні канадыйскага БІНіМу; Івонкі Сурвілла з Аттавы, яе дачкі Паўліны, якая жыве цяпер дзесьці ў ЗША.

Паўліну бачыў я апошні раз тады, як яна была яшчэ незамужняя ды нам у Тароньце на Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, наш канадыйскі гімн пафранцузку прыгожым галаском сьпявала.

Ня памятаю, фактычна, ня ведаю прозьвішчаў іншых удзельнікаў зьезду.

У наступны дзень, 23-га лістапада, пасьля малітвы й абедні ў царкве ў залі БРГЦ сабралася нашая грамада на абед, нарыхтаваны спн. Марыяй Ганько і нашымі руплівымі гаспадынямі. Нашая таронцкая парафія Сьв. Кірылы Тураўскага пасьля сьмерці архіяпіскапа Мікалая, Першага Ярарха БАПЦ, яшчэ ня мае свайго сьвятара. Помач нам патрэбная.

Пасьля абеду старшыня таронцкага аддзелу ЗБК Надзея Дробіна запрасіла Старшыню Рады БНР Івонку Сурвіллу крыху паінфармаваць пра зьезд. Усе ўважліва слухалі таксама пра апошнія падзеі ў Канадзе, дзе сп. Вінцуку Вячорку зь Менску ў асысьце Івонкі Сурвіллы давялося ў Аттаве спаткацца з прадстаўнікамі замежнага дэпартаманту. Як ведаем, канадыйскі ўрад падтрымлівае апазыцыю ў Беларусі. Сп. Вінцук Вячорка шырака паінфармаваў нас пра палітычную сытуацыю ў Рэспубліцы Беларусь, адказаў на шматлікія пытаньні. Мы ўдзячныя яму за гэта.

Пры нагодзе мне давялося паінфармаваць прысутных, што ў тым самым гатэлі ў 1950-м годзе адбывалася сусьветная канфэрэнцыя Чырвонага Крыжа. Даведаўшыся, што там будуць і прадстаўнікі БССР, мы ад Згуртаваньня Беларусаў Канады пратэставалі супраць дэлегацыі БССР, якая, як ведама, служыла тады тырану Сталіну, а не вольнай Беларускай Народнай Рэспубліцы.

***Кастусь АКУЛА, Таронта***

## Новая кніга

*Станкевіч Ян.* **Гістарычныя творы.**

У том увайшлі гістарычныя творы Яна Станкевіча (1891-1976), напісаныя паміж 1930 і 1976 гадамі. Бальшыня апублікаваных твораў раней была недаступная беларускаму чытачу. 776 с., цьвёрдая вокладка.




### Зьмест



# Весткі зь Сібіры

29-30-га лістапада у мястэчку Ташара Навасібірскай вобласьці прайшлі дні беларускай культуры. Арганізатарамі гэтага сьвята сталі абласны камітэт культуры, Беларускі культурны центар імя Еўфрасіньні Полацкай, кансулянт Рэспублікі Беларусь у Навасібірску.

Спачатку прайшло дзіцячае сьвята "Адзінае сонейка над намі зіхаціць". У ім падвялі вынікі й узнагародзілі вучняў Ташары, прыняўшых удзел у конкурсах сачыненьняў, малюнкаў, а таксама конкурсе "Ташарынскія беларусы".

Потым адбылася імпрэза пад назваю "Пад белым крыльлем Беларусі". На плошчы ў ДК "Обь" разгарнулася выстава вырабаў беларускай прамыславасьці, нацыянальнай вопраткі, прайшлі гуляньні.

Пасьля гэтага выступілі мастацкія калектывы "Кросны" й "Белыя Росы". І ў канцы Дзён беларускай культуры адбыўся вечар адпачанку для удзельнікаў.

***ЛЮТЫ***

# Беларуская дыяспара ў сьвеце

*(Слова "дыяспара" ўзятае з грэцкае мовы й абазначае частку народу, якая жыве разцярушана па сьвеце па-за межамі сваёй айчыны.)*

Беларуская дыяспара жыве па цэлым сьвеце, у некаторых краінах вялікімі грамадамі, у іншых - амаль адзінкамі. Яна цяпер знаходзіцца ў большай колькасьці ў наступных краінах сьвету: ЗША, Канадзе, некаторых краінах Паўднёвай Амэрыкі, Аўстраліі, Вялікабрытаніі, Францы, Бэльгіі, Галяндыі, Гішпаніі, Італіі, Швайцарыі, Нямеччыне, Аўстрыі, Чэхіі, Польшчы, Баўгарыі, Летуве, Латвіі, Эстоніі, у краінах Скандынавіі, Расеі, Украіне і шэрагу іншых краінаў былога СССР.

У 16-ці з гэтых краінаў беларуская дыяспара мае свае арганізацыі й установы. У 14-ці зь іх жывуць сябры Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Існуе 7 Сэктараў Рады БНР і прадбачыцца заснаваньне яшчэ некалькіх.

У гэтых краінах праводзяць сваю дзейнасьць дзесяткі розных арганізацыяў і ўстановаў. Сярод іх ёсьць грамадзкія, палітычныя, культурна-асьветныя, навуковыя, выдавецкія, камунікацыйныя, арганізацыі моладзі й студэнтаў, розныя фонды й фундацыі, рэлігійныя ўстановы розных веравызнаньняў і юрысдыкцыяў, дабрачынныя ўстановы ды дзесяткі, калі ня сотні, прадпрыемстваў, уласьнікамі якіх альбо кіраўнікамі зьяўляюцца прадстаўнікі беларускай дыяспары.

Гэта магутны чалавечы й арганізацыйны рэсурс. Часткі яго розьняцца сваёю важнасьцю, сваімі поглядамі, даўжынёю свайго існаваньня, некаторыя нават варожыя між сабою, аднак лучыць іх адное - гэта жаданьне бачыць Беларусь незалежнаю і свабоднаю дзяржаваю. Гэта тыя людзі й арганізацыі, якія патрэбныя, каб выканаць так пільныя цяпер заданьні вакол незалежнасьці Беларусі. Хоць гэткія арганізацыя часта фармальна не зьвязаныя паміж сабою, яны здольныя да кантактаў і супрацоўніцтва, каб дасягнуць тую агульную мэту - захаваньне незалежнасьці Беларусі.

Цяперашняе актуальнае заданьне Рады БНР - гэта ведаць аб іх, інфармаваць іх ды трымаць сталую сувязь з імі.

(На мінулай Сэсіі Рады БНР была прынятая пастанова скласьці як найшырэйшую сусьветную базу дадзеных беларускага замежжа. Просім прысылаць такія дадзеныя на адрас газэты.)

*Вячка СТАНКЕВІЧ*

# Беларускае жыцьцё ў Сыднэі

Беларусы Сыднэю і ваколіцаў сабраліся ў нядзелю 9-га лістапада, каб адзначыць 83-я ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну. Пачалося сьвяткаваньне ў гомэбушскай праваслаўнай царкве, дзе пасьля Сьв. Літургіі а. Ігар Хлябіч распавёў парафіянам пра геройскі чын случчакоў у той жорсткі й страшны час. Была адслужаная паніхіда па ўсіх загінуўшых за Волю свайго народу. З царквы перайшлі ў залю Беларускага Клюбу, дзе працягвалася ўрачыстасьць. Акадэмію адкрыў Старшыня Клюбу Міхась Лужынскі, які прывітаў сяброў і гасьцей і зрабіў даклад на тэму дня. Дакладчык распавёў пра пастановы Рады Случчыны, пра цесную сувязь з Радаю БНР, пра няроўнае змаганьне, а потым ганебнае інтэрнаваньне беларускіх вояроў польскімі ўладамі. Бальшыня случчакоў вярнуліся на родныя палеткі й надалей змагаліся з чырвонаю навалаю аж да 1925-га году, што пацьвярджаецца савецкаю прэсаю таго часу.

Уставаньнем і хвілінаю маўчаньня была ўшанаваная памяць слуцкіх герояў.

Тады дакладчык пазнаёміў прысутных з сучасным палітычным і эканамічным становішчам на Бацькаўшчыне. Маючы сувязь зь Менскам і доступ да ўсіх беларускіх выданьняў, дакладчык паказаў адносіны лідэраў беларускай апазыцыі да лукашызму ды выказаў спадзяваньне, што ўсе палітычныя партыі аб'яднаюцца, каб на выбары 2006-га году пазбыцца хворага нягеглага "першага прэзыдэнта".

Пасьля гэтага гаспадынькі прапанавалі абед. А. Ігар блаславіў сталы малітваю. Выбар страваў і закусак быў надзвычайны, было чым і "памачыць сьвісток", на дадатак - тарты й ласункі. Шкада толькі, што час не чакае нікога. Разыходзіцца пачалі, калі сонца ўжо зрабіла сваё дзённае падарожжа і хавалася за суседнімі будынкамі цераз вуліцу. Разьвіталіся да наступнай сустрэчы, якая заплянаваная на 14-га сьнежня, калі беларуская грамада будзе абходзіць 30-я ўгодкі рэгістрацыі Беларускага Клюбу.

*М. Л*

# Весткі зь Вільні

Месяц лістапад сёлета выдаўся "ураджайны "на знаменальныя даты нашай гісторыі: 120 год Вацлаву Ластоўскаму (8/XI) і Язэпу Лёсіку (6/XI), 110 гадоў Леаніле Чарняўскай, пісьменьніцы, настаўніцы Віленскай беларускай гімназіі (жонцы Максіма Гарэцкага), Кастусю Езавітаву (17.XI), 65 гадоў з дня сьмерці Браніслава Тарашкевіча ды шмат іншых угодкаў.

Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве штомесячна праводзіць імпрэзы, прысьвечаныя тым ці іншым славутым імёнам Гэтым разам сябрам ТБК прапанавалі выступы др. Сяргея Карабача і Аляксандра Трусава, прысьвечаныя памяці Вацлава Ластоўскага і Язэпа Лёсіка. Павал Саўчанка распавёў пра літаратурную спадчыну беларускага гісторыка Міколы Шкялёнка, закатаванага НКВД у 1946-м годзе, а Андрусь Старавойтаў гаварыў пра найважнейшую падзею ў Беларускім руху першай паловы XX-га стагодзьдзя - Слуцкім збройным чыне.

Хочацца нагадаць , што ўжо 83-ці раз адзначаюцца беларусамі, і ня толькі імі, ўгодкі Слуцкага збройнага чыну - вайны з бальшавіцкай Расеяй за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі, абвешчаную Актам 25-га сакавіка 1918-га году. Дзень 27-га лістапада называюць Днём Герояў.

Сёньня Слуцкі збройны чын - гэта ня толькі гераічная старонка нашай гісторыі, але і напамін для аб'еднаньня, сымбаль барацьбы беларусаў за самастойную, сапраўды вольную і заможную дзяржаву.

Такія імпрэзы на гістарычныя, літаратурна-гістарычныя і культурныя тэмы заўсёды выклікаюць зацікаўленасьць у прысутных. ТБК лічыць сваім абавязкам, сваёй задачай задавальняць гэтую цікавасьць, запрашаючы часта навукоўцаў , літаратараў, дзеячоў культуры зь Беларусі ці з замежжа.

Гэта імпрэза прагучала на літоўскім радыё і была паказаная па тэлебачаньню

*Павал САЎЧАНКА*

# Ангельскія газэты аб Беларусі

У газэце "The Times" ад 09.09.03 быў доўгі артыкул аб А. Лукашэнку і Беларусі названы "Моладзь утрымлівае жывою іскру супраціву супраць апошняга дыктатара Эўропы".

Ужо па назве артыкула можна здагадацца, што нічога суцяшальнага аб Беларусі там няма. Аўтар Роджэр Бойс піша аб тым, што да будынку закрытага Лукашэнкам беларускага ліцэю імя Якуба Коласа прыйшлі настаўнікі й вучні, каб далей прадаўжаць навуку, але ўжо... пад голым небам. У той самы час гарадзкія работнікі запусьцілі маторы сваіх машынаў, каб нашкодзіць вучням і настаўнікам. Агенты КГБ фільмавалі натоўп, але ад нападу з палкамі ўстрымаліся. Аўтар піша, што гэты ліцэй адважыўся вучыць дзяцей на беларускай мове - што Лукашэнка ўспрымае як зьнявагу, бо імкнецца яшчэ больш зрусыфікаваць сыстэму навучаньня. Самога Лукашэнку сп. Бойс называе апошнім і найэксцэнтрычнейшым дыктатарам Эўропы.

Паводле артыкула, Беларусь мала зьмянілася ад савецкіх часоў: закрываюць газэты й часапісы, выкідваюць непажаданых іншаземцаў і т. п. Паводзіны Лукашэнкі становяцца ўсё больш і больш дзіўнымі (bizarre) сьцьвярджае журналіст, пералічваючы выбрыкі дыктатара пачынаючы ад рэквізіцыі дыпламатычных сядзібаў да падзеяў апошніх гадоў.

Зноў у газэце "The Times" успаміналася Беларусь 19.09.03. У артыкуле ўзгадваецца гадавы рапарт брытанскага міністэрства замежных справаў па правах чалавека ў сьвеце, Беларусь пералічваецца сярод краінаў, дзе гэтыя правы парушаюцца найбольш.

Сумнае паведамленьне было 13.10.03, у якім пісалася аб сьмерці трыццаці асобаў падчас пажару ў псыхіятрычным шпіталі на Горадзеншчыне. Аб гэтым здарэньні перадавалі таксама ангельскія тэлевізыйныя каналы.

У сваіх артыкулах я ўжо ня раз успамінаў польскую газэту ў Англіі "Dziennik Polski", якая заўсёды шмат піша пра Беларусь. 12.07.03 гэтая газэта аналізавала вынікі перапісу насельніцтва ў Польшчы. Аказалася, што толькі 48,7 тыс. чалавек запісаліся беларусамі. А дзе рэшта? Апалячыліся? Нізкая нацыянальная сьведамасьць? А можа памылка ў разуменьні польскіх словаў "obywatelstwo" і "narodowosc"? На маю думку, дакладнейшую колькасьць беларусаў даў-бы перапіс паводле рэлігіі.

"Dziennik Polski" ад 18.07.03 паведаміў, што 15.07.03, у 593-ю гадавіну бітвы пад Грунвальдам, патрыятычная моладзь вывесіла бел-чырвона-белыя сьцягі ў Менску і ваколіцах. Газэта ўспамінае, што ўшанаваньне бітвы павінна было адбыцца ў Горадні, аднак, мясцовыя ўлады не далі на гэта згоды, спасылаўшыся на тое, што мост паміж Старым і Новым замкамі, дзе плянавалі сьвяткаваньне, знаходзіцца ў дрэнным стане.

19.07.03 газэта паведаміла, што ў 2004-м годзе пачнецца рэстаўрацыя Радзівілаўскага палацу ў Нясьвіжы, дэтальна пералічыўшы, якія працы ўжо зробленыя каля гэтага палаца.

У нумары ад 22.07.03 было аж два паведамленьні аб Беларусі. У першым гаворыцца, што там жыве найменш 200 асобаў, якія маюць гадавы прыбытак у мільён даляраў ці больш. У Беларусі ёсьць 455 тыс. людзей, якія плацяць падаткі. У другім паведамленьні з праваканцыйным назовам "Зь Лёндану шпацырам па Крэсах..." апісваецца група аматараў з Англіі, якая паехала ў Польшчу, каб адтуль там канцэрты аб Заходняй Беларусі, Заходняй Украіне і Віленшчыне. Натуральна, з польскага пункту гледжаньня. Варта ўзгадаць, што арганізатарка гэтай вандроўкі Мар'я Б-нец, дачка лясьніка з-пад Луцына каля Луніна.

23.07.03 газэта піша аб тым, што ў Івянцы быў адкрыты чарговы Польскі Дом, які каштаваў польскай дзяржаве 280 тыс. даляраў. Старшыня Таварыства Польскай Садружнасьць у Польшчы піша, што "гэты дом ёсьць знакам таго, што на гэтых землях як фэнікс з попелу адраджаецца дух польскасьці." У Івянцы, паводле газэты, жыве 7 000 чалавек, зь якіх аж 60% палякі.

У нумары ад 26.07.03 газэта зьмясьціла інтэрв'ю з дактарам Тадэвушам Кручкоўскім, Старшынём Саюзу Палякаў у Беларусі (СПБ). Ужо ў самым пачатку др. Кручкоўскі гаворыць, што ў Беларусі жыве 400 тыс. палякаў, а неафіцыйна гавораць ад мільёне ці нават двух палякахжыхарах Беларусі.

Калі ўспомніць аб тым, што Саветы вывезлі зь Беларусі тысячы палякаў у 1939-41 гадох, што ня менш зь іх уцяклі ў этнічную Польшчу ў 1944-м годзе, што па вайне ізноў тысячы й тысячы былі вывезеныя ў Сібір ці рэпатрыяваліся ў Польшчу, дык лягічна паўстае пытаньне. Адкуль у Беларусі магло застацца ажно два мільёны палякаў? І чаму колькасьць палякаў у Беларусі расьце як грыбы пасьля дажджу?

Цікавым падалося выказваньне Старшыні ад беларускай апазыцыі й аб адносінах СПБ да яе. Паважаны доктар ставіць рытарычныя пытаньні: "Як далей мы можам быць саюзьнікамі зь беларускай апазыцыяй, якая ў сваёй пераважнай бальшасьці ўважае, што палякаў у Беларусі няма, а што ёсьць беларусы-каталікі? Дык як можна быць саюзьнікам тым, хто адмаўляе нашае існаваньне?"

Камэнтаром на вышэйзгаданы артыкул быў злосна-іранічны ліст нейкага Ф. Нядзьвецкага 09.08.03, які закідае беларусам, што яны лічаць беларусамі Манюшку і Касьцюшку. Далей аўтар ліста піша, што ў прэзыдэнцкіх выбарах бальшасьць палякаў галасавала за Лукашэнку. Цікава, адкуль ён ведае такую статыстыку?

*Апрацаваў Міхась ШВЭДЗЮК*

# Лаўры Маўзола

Калі Аляксандар Македонскі (з прыжыцьцёвым дыягназам "эпілепсія і хвароба душы") адчуў набліжэньне сьмерці, ён сеў пісаць спадчынную. Адным з галоўных запаветаў валадара быў загад пахаваць ягоныя парэшткі ў 100 месцах усіх правінцыяў ягонай неабсяжнай імпэрыі. Запавет выканаць не пасьпелі, таму што адразу пасьля згону тырана пачалася барацьба паміж военачальнікамі-дыядохамі. Як сабакі, яны рвалі на кавалкі тэрыторыі й народы, забыўшыся пра труп свайго гаспадара...

Славацкі дасьледчык Войцэх перайшла ў хрушчобны стыль (дасьціпная багема назвала гэтую зьяву "пераходам ад позьняга рэпрэсансу да раньняга рэабілітансу"). Калі (функцыянальна бессэнсоўныя) піраміды, муры й мінарэты ўсё-ж пакінулі сьлед у гісторыі мастацтва як праявы самарэалізацыі творцаў і народаў, калі ад македонскіх заваёваў засталіся Александрыя і арыгінальная плынь элінізму ў культуры, то саўдэпія доўга яшчэ будзе ўражваць сваім дзікім экзатызмам і антыгуманнай духоўнасьцю, сваёй антыкультурай і дапатопным сатанізмам.

Калі па замове Крамля архітэктар Шчуко крэсьліў мадэль канцы 30-х гадоў на конкурсе ў Маскве перамог праект гіганцкага палацу саветаў. Крэмль падлягаў амаль поўнаму зьнішчэньню. На ягоным месцы павінны былі пабудаваць пралетарскі палац на 300 тысячаў глядачоў, па ягонай сцэне падчас спэктакляў маглі-б езьдзіць танкі. На даху палаца была запраектаваная статуя Леніна ў 400 мэтраў вышыні. Унутры яе прадугледжваліся ліфты, а ва ўказальным пальцы па-праўдзівому ўзьнятай рукі меркавалася размясьціць музей "крамлёўскі кабінэт Леніна". Ага, такое і Хеопсу ня сьнілася! Аж нехта з генэральнага штабу падказаў Ста-

прафэсыйна жагнаюцца, сьпяваюць многае лета, кланяюцца - цяжка глядзець на маштабную прафанацыю ўсходняй традыцыі хрысьціянства.

Менскі сатрап са сваёй шклоўскай камарыльяй імкнецца не спазьніцца паўтараць усе кічавыя выбрыкі сваіх крамлёўскіх гаспадароў. Але ведама, што правінцыйная копія заўсёды нясе ў сабе непаўторны характар аўтара-капіісты. Яны пачалі са "сьветламузыкі". Фасады ў цэнтры Менску заблішчэлі ад моцных ліхтароў. У суседнія, счарнелыя ад цемры вуліцы цяпер страшна зайсьці без пісталета. Потым узяліся за разбурэнь-

дынкі й кніжныя фонды знаходзяцца ў катастрафічным стане. Але на ўскраіне сталіцы, каля маскоўскай шашы расьце бессэнсоўны помнік антыадукацыі, на які шляхам дзяржаўнага рэкету адабралі грошы ў кожнага (!) грамадзяніна краіны.

Улетку сёлета антыбеларускі рэжым выдаў яшчэ адзін агульнадзяржаўны загад - будуем сваю касьмічную ракету, мы ім пакажам маць Кузьмы! Не пасьпелі, аднак, выбраць, на якой плянэце будуць уздымаць лукашыцкі сьцяг, як нядаўна ў кастрычніку абнародвалі бабілёнскі праект. Тэлевежа мясцовага тэлебачаньня (якое брыдка гляд-


*Грабніца галікарнаскага цара Маўзола.*


*Адзін зь лядовых палацаў, пабудаваных у Беларусі пры Лукашэнку.*

Замароўскі згадвае фараона-рэкардсмэна, які пабудаваў не адную, а ажно 13 пірамідаў у стражытнастаханаўскім імпэце самазамілаваньня. Гісторыя дае нам нізку прыкладаў мэгалітычнага шаленства, якое час ад часу ўспыхвае на прасторах зямлі. Можна нават прасачыць перыяды будаўнічага збачэнства, калі мільёны людзей, часам цэлыя этнасы працавалі, задавальняючы вычварныя прыхамаці нездаровых асобаў. Вялікі кітайскі мур (яго будавалі на працягу тысячы гадоў), як ведама, не выканаў сваёй функцыянальнай задачы, намады ня раз прарываліся і грамілі кітайскую цывілізацыю. Вінтападобны мінарэт каірскага мячэту Ібн Тулуна быў пабудаваны дойлідамі, якія пасьля візыту да хворага на трасцу каліфа паслухмяна ўвасобілі ягоныя дрыготкія "рэкамэндацыі" у сваім праекце.

Расейска-бальшавіцкая імпэрыя ведамая ўпартым "наватарствам" у розных галінах дзейнасьці. Савецкая імпэрыя зьнішчыла найбольшую ў гісторыі колькасьць людзей, культураў і народаў, захапіла найбольшыя абшары зямлі й мора, стварыла "новую супольнасьць людзей" і "новага чалавека" (які, праўда, узяў ды сьпіўся). Асобная зьява - гэта артэфакт пад назваю "шматнацыянальнае савецкае мастацтва". Там быў і сацыялістычны рэалізм, і чырвоная дорыка сталінізму, якая рэзка надмагільля для муміі Леніна, то шукаў натхненьня не ў клясычнай Грэцыі або рэвалюцыйнай Францыі. Усходне-дэспатычныя штучкі былі значна больш роднаснымі бальшавіцкаму густу і сэнтымэнту. У агульных рысах ленінскі маўзалей проста паўтарае грабніцу галікарнаскага сатрапа Маўзола (IV ст. да н. э.). Наагул, ленінцы "ўзялі лепшае" ад шэрагу тыранічных эпохаў. За эгіпецкай муміфікацыяй настала чарга рымскага тыражаваньня. Археолягі са зьдзіўленьнем знаходзілі ў Гішпаніі, Брытаніі й Сірыі скульптурныя выявы рымскіх імпэратараў, якія кіравалі лічаныя месяцы перш чым іх скідвалі легіёны. Аказваецца, па ўсёй імпэрыі працавалі дзесяткі скульптурных майстроўняў, якія прадукавалі па канвэеры галовы паноўнікаў. Вельмі апэратыўна гэтыя галовы прыстаўлялі да атлетычных торсаў, якія ўзвышаліся ва ўсіх правінцыях, не падлягалі замене і служылі шэрагу антычных "каліфаў на гадзіну". Ленініяна (таксама як і сталініяна) заслугоўвае на адмысловае псіхіятрычнае дасьледваньне - такіх маштабаў ня ведалі эгіпцяне з рымлянамі. Фігура і галава лысага чалавека з мангольскімі вочкамі апанталі жыцьцё савецкіх грамадзянаў ад калыскі да апошняга ўздыху, навязьлівая распаўсюдзіліся па ўсім сьвеце, касманаўты завезьлі гэтыя выявы ў сусьветную прастору. У ліну, што скульптура можа быць добрым арыенцірам пры магчымым артабстрэле сталіцы. Жудасны праект ня быў рэалізаваны. Але роднасныя яму праекцікі, як аскелкі вядзьмарскага люстра, рассыпаліся па ўсёй саўдэпіі, паўсталі тысячы бальшавіцкіх ідалаў. Цывілізаваныя народы імгненна пазбавіліся ад іх пасьля набыцьця незалежнасьці й развалу савецкай імпэрыі ў канцы 80-х - пачатку 90-х гадоў. А ў Расеі, на Украіне і ў Беларусі дагэтуль стаяць сатанінскія знакі, пад якімі немагчымае шчасьце і дабрабыт для хрысьціянскага народу. Часта можна пачуць ад задураных ахвяраў прамаскоўскай прапаганды: "Но ведь это же наша история..!"

Вычварныя будыніны, разбуральныя для прыроды плаціны, каналы на касьцях мільёнаў вязьняў - гэта, здаецца, мінуўшчына маскоўскай імпэрыі. НКВД перакваліфікоўваецца (мяркуем, перш за ўсё таму, што бракуе грошай на супэррасьстрэлы). Палкоўніка Пуціна нядаўна прымалі ў Рыме. Гэты мастацтвазнаўца ў цывільным прывёз туды "Мадону Літа" пэнзля Леанарда да Вінчы. Усе вохкалі: які эстэт, а яшчэ і каратэ ведае... Забыліся, праўда, згадаць, што палатно ў свой час маскоўцы вывезьлі з палацу Паскевіча ў Гомлі. Адною зь відавых рысаў ельцынізму-пуцінізму зьяўляецца таксама кэгэбоўскае "праваслаўе" (як са шпаргалкі, садранае з царскай мадэлі "самодержавие, православие, народность"). Афіцэры ў сутанах і без сутанаў не асфальту (зноў- жа ў цэнтры сталіцы й некалькіх абласных гарадох). Узьніклі гранітна-мармуровыя комплексы зь ліхтарамі, плітачнымі маставымі, парапэтамі, прафілямі, шарамі. Чырвоная дорыка з калгасным прысмакам трыюмфе, марнуюцца і раскрадаюцца мільёны дзяржаўных грошай. У той самы час замежныя госьці шчыра кажуць: "У вас дзьве краіны - Менск і ўсё астатняе". За сталічным фасадам рэжым хавае жудасны краявід нашай краіны: руіны помнікаў мінуўшчыны, разьбітыя дарогі, абшарпаныя будынкі, шпіталі, у якіх можна вывучаць гісторыю сярэднявечнай мэдыцыны. Мільёны людзей пакутуюць у атручаных Чарнобылем раёнах. А сатрап загадвае будаваць лядовыя палацы, у якіх толькі асьвятленьне каштуе астранамічныя лічбы, і якімі могуць пакарыстацца ўсяго некалькі тысячаў чалавек. Летась падкінулі новы фараонскі лёзунг - "прэзыдэнт любіць чытаць!" Разьвесілі паўсюль рэклямкі з чарцёжыкам нейкага НЛА (ведама, што распрацаваная праекта не было яшчэ на пачатку 2003 г.) і заклікам усенародна будаваць "национальную библиотеку". Беларусам адразу стала ясна, што шматпавярховую будыніну (калі яе наагул скончаць) зьбіраюцца запоўніць расейскаю макулатураю. Гэта ясна на фоне разгрому беларускіх часапісаў, тэатраў, школаў і ліцэяў. Па ўсёй краіне бібліятэкары працуюць за жменю медзякоў, бібліятэчныя бузець) павінна ўзьняцца на 420-430 мэтраў. Галоўны прараб краіны не забыўся строга падкрэсьліць, каб тэлегігант быў вышэй за ўсіх, але хаця-б на 10 мэтраў ніжэй за астанкінскую тэлевежу ў Маскве...

Шызафрэнічнае спаборніцтва распасьціраецца ў прасторы й часе. Адносна нядаўна правадыр усіх румынаў Чаўшэску граміў сярэднявечныя кляштары, старыя кварталы, зьнішчаў цэлыя вёскі, каб на вачах жабрацкага насельніцтва рэалізаваць свае дракулаўскія архітэктурныя фантазіі. Як памятаем, бухарэсцкі прараб кепска скончыў. Давялося ўцякаць з краіны Хонэкэру, бальшавіцкаму барду бэрлінскага мура. Партрэты Мао на плошчы Цяняньмэнь прыйшлося ратаваць ад абуджанай моладзі з дапамогаю кулямётаў і танкаў.

Шклоўскі ідал па законах жанру кінажахаў навязьліва лезе ў жыцьцё кожнага паасобку і ўсёй краіны, ён хацеў-бы пакінуць пасьля сябе помнікі сваёй пачварнай эпохі. Хацеў-бы, каб уся Беларусь стала ягоным маўзалеем, а ягоная ўсюдыпрысутнасьць працягнулася-б пасьля фізічнага фіналу. Аднак, гісторыя вучыць, што экспэрымэнты над народам працягваюцца роўна столькі, колькі народ цярпіць экспэрымэнты над сабою. Цярпеньне рана ці позна канчаецца.

*Nil inultum remanebit.*

*Нішто не застанецца беспакараным.*

**Валеры БУЙВАЛ**

# Беларусь за месяц

## Спроба вярбоўкі

Кіраўніка Менскай абласной філіі партыі БНФ Алеся Міхалевіча спрабаваў завербаваць КДБ. Пра гэта сам Алесь распавёў на абласной канфэрэнцыі Партыі БНФ, што адбылася 15-га лістапада. Днём раней да Міхалевіча зьвярнуўся супрацоўнік КДБ з прапановаю "ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва". Малады чалавек адкінуў гэтыя прапановы.

Дарэчы, на згаданай канфэрэнцыі Міхалевіча якраз абралі кіраўніком абласной арганізацыі Партыі БНФ, а ягонымі намесьнікамі - Паўла Батуева, Юрася Зянковіча, Сяргея Мудрачэнку. 20 - 21-га сьнежня мяркуецца чарговы зьезд Партыі БНФ і руху БНФ "Адраджэньне", і канфэрэнцыя рэкамэндавала перааабраць кіраўніком партыі Вінцука Вячорку, а намесьнікамі абраць Алеся Міхалевіча, Галіну Сямдзянаву і Аляксея Янукевіча.

## Севярынца прагналі

На пасяджэньні Сойма БНФ "Адраджэньне"(ня блытаць з Партыяй БНФ) з шэрагаў руху выключылі некалькі былых актывістаў, сярод іх - Павал Севярынец, Вячаслаў Сіўчык, Яўген Скочка, Аляксей Шэін.

Севярынец заявіў журналістам, што выключэньне нелегітымнае і прайшло з грубымі парушэньнямі статуту арганізацыі, бо выключыць з шэрагаў "Адраджэньня" можа толькі зьезд арганізацыі. На думку Паўла, усё гэта робіцца дзеля таго, каб не дапусьціць яго ніякім чынам на зьезд партыі й руху БНФ "Адраджэньня".

## Плешчанку аштрафавалі

Сябра віцебскай суполкі КХП-БНФ Уладзімер Плешчанка быў аштрафаваны на 150 базавых велічыняў (2 млн. 475 тыс. рублёў ці 1150 амэрыканскіх даляраў). Плешчанка і Аляксандар Салаўян былі затрыманыя міліцыяй падчас правядзеньняў "Дзядоў" у Віцебску. Праз два тыдні адбудзецца суд, Салаўяна папярэдзілі, а Плешчанку аштрафавалі.

## "Народную волю" таксама

У №489 "Беларус" пісаў пра тое, што газэту "Народная воля" аштрафавалі на 2 тысячы даляраў, аўтараў матэрыялу ў газэце журналістку Марыну Коктыш і былую супрацоўніцу Беларускае тэлевізіі Элеанору Язерскую на 500 даляраў.

Падстава - абраза гонару і годнасьці уіраўніка Белтэлерадыёкампаніі Ягора Рыбакова за артыкул надрукаваны яшчэ ў 2001-м годзе, у якім спн. Язерская звінаваціла кіраўнікоў БТ, сярод іх і Рыбакова, у развале тэлебачаньня, а таксама ў тым, што яны спрычыніліся да сьмерці некаторых супрацоўнікаў. Рыбакоў праз два гады вырашыў пакрыўдзіцца і падаў у суд, патрабуючы з "Народнай волі" 100 тысяч даляраў, а з аўтарак матар'ялу 10 тыс. даляраў. Суд зьменшыў цану ў 50 разоў. Рыбакова гэта не задаволіла і ён падаў скаргу ў Менскі гарадзкі суд, настойваючы на ранейшай цане. Гэтым разам суд падвысіў штраф, абавязаўшы газэту сплаціць 50 млн. рублёў (прыкладна 23,3 тыс. даляраў), а Язерскую і Коктыш на 3 мільёны руб. (каля 1400 амэрыканскіх даляраў).

## Акцыя...

Яшчэ ў пачатку мінулага месяцу было абвешчана, што 24-га лістапада "Малады фронт", у сёмыя ўгодкі антыканстытуцыйнага лукашэнскага плебісцыту, плануе зладзіць акцыю пад лёзунгам "Не - трэцяму рэфэрэндуму". Яна мелася быць шырокаю, сваю падтрымку нават выказалі шэраг палітыкаў. На нейкі момант падалося, што дэманстрацыя будзе некалькітысячнай. Але не атрымалася.

На акцыю на плошчы Якуба Коласа сабралося 150 чалавек, зь іх - 90 міліцыянтаў, каля 40 апазыцыянераў-маладафронтаўцаў, астатнія - журналісты. Палітыкі, што прадэклaравалі сваю падтрымку, не прыйшлі.

Некаторых дэманстрантаў пачалі арыштоўваць яшчэ на падыходах да плошчы. Прайсьці па праспэкце Скарыны ў бок Плошчы Перамогі таксама не ўдалося. Амонаўцы пачалі хапун. Усяго затрымалі 17 чалавек, зь іх - 9 непаўнагадовых. Затрыманая таксама была барацьбіт-адзіночка Аксана Новікава. Няпоўнагадовых і тых, хто адшукаў у кішэні журналісцкае падсьведчаньне адпусьцілі. На наступны дзень адбыліся суды, трох дэманстрантаў асудзілі на 15 сутак, аднаго - на пяць.

2-га сьнежня "маладафронтаўцы" вырашылі распачаць акцыю салідарнасьці з асуджанымі. Штодня а 18-й гадзіне яны зьбіраюцца стаяць са сьвечкамі каля спэцпрыёмніку-разьмеркавальніку (на Акрэсьціна), дзе знаходзіліся маладафронтаўцы Артур Фінькевіч і Зьміцер Дашкевіч, а таксама актывіст Беларускае партыі свабоды Васіль Парфянкоў. Так, Артур Фінькевіч сядзіць на Акрэсьціна 30 сутак за распаўсюд улётак аб акцыі 24-га лістапада (двойчы асуджаны). Як заявіла сакратарка Маладога фронту Вольга Куўшынава "Сьвечкі ёсьць сымбалем сьвятла і свабоды. Гэтым мы хочам засяродзіць увагу грамадзтва на тым, што адбываецца. На тым, што за памкненьні да дэмакратыі моладзь саджаюць і паступаюць зь ёй вельмі жорстка. Гэтым мы хочам прадэманстраваць сябрам нашых арганізацыяў, што мы на іх не забыліся".

## "Крыніцы" ня будзе

З наступнага году адное з самых папулярных і перадавых выданьняў канца 80-х пачатку 90-х часопіс "Крыніца" спыняе існаваньне. Пасьля таго, як "Крыніца" разам з газэтаю "Літаратура і мастацтва", часапісам "Полымя" была ўключана ў сумнавядомы холдынг "Літаратура і мастацтва", часапіс страціў лепшых супрацоўнікаў, а наклад пачаў імкліва падаць. Не дапамагла і падназва "Славянскі сьвет" ды арыентацыя на панславізм і "восточнославянское братсво". Наклад зьнізіўся да 100 асобнікаў, але і тыя не разыходзіліся. І вось цяпер прынята рашэньне пра закрыцьцё "Крыніцы".

Памяняўся рэдактар у газэты "Літаратура і мастацтва". Віктара Шніпа замяніў Анатоль Казлоў.

## Івашкевічу амністыю не далі

Рэдактару газэты "Рабочы" Віктару Івашкевічу, які за абразу прэзыдэнта адбывае "хімію" ў Баранавічах, адмовілі ва ўмоўна датэрміновым вызваленьні. Цікава, што ініцыятыва аб умоўна датэрміновым вызваленьні сыходзіла ад адміністрацыі Баранавіцкай папраўчай установы адкрытага тыпу, аднак Берасьцейскі абласны камітэт выкананьня пакараньняў пакінуў заяву не задаволенай.

Праўда, Івашкевіч не бядуе, заявіўшы, што невядома як складзецца жыцьцё і раптам зноў давядзецца сесьці за палітыку. Наступным разам скарыстацца ўмоўна датэрміновым вызваленьнем ужо ня зможа. І тут ужо не прынцыпова: выходзіць на волю ў лістпадзе ці сьнежні - тэрмін Івашкевіча заканчваецца 16-га сьнежня.

## Супраць рэфэрэндуму

29-га лістапада на Камароўскім рынку беларускае сталіцы ў часе правядзеньня акцыі "Грамадзкае галасаваньне "Трэці тэрмін", затрымалі васьмёх прадстаўнікоў ініцыятыўнае групы "Наша альтэрнатыва".

Акцыя на Камароўцы доўжылася 10 хвілінаў - удзельнікі распаўсюдвалі ўлёткі з заклікам ня браць удзелу ў меркаваным рэферэндуме па трэцім прэзыдэнцкім тэрміне Лукашэнкі. Міліцыянты ў цывільным затрымалі ўдзельнікаў акцыі "за несанкцыянаваны распаўсюджваньне друкаванай прадукцыі бяз выходных зьвестак". Затрыманых пратрымалі ў пастарунку некалькі гадзін і адпусьцілі, склаўшы пратаколы (распаўсюд незарэгістраванай друкаванай прадукцыі).

Цікава, каб удзельнікі мерапрыемства раздавалі мінакам улёткі за трэці прэзыдэнцкі тэрмін, ці затрымала-б іх міліцыя?

## Завадзкага прызналі памерлым

28-га лістапада суд Фрунзенскага раёну Менску прызнаў апэратара расейскага тэлеканала ОРТ Зьмітра Завадзкага памерлым. Зроблена гэта па ініцыятыве ўдавы журналіста - Сьвятланы Завадзкай. Па словах Сьвятланы, гэтую заяву яна падала дзеля таго, каб вырашыць некалькі маёмасных праблемаў.

Нагадаем, што Зьміцер Завадзкі зьнік 7-га ліпеня 2000-га году, ягоную машыну знайшлі ў аэрапорце "Мінск-2". Мяркуецца, што ў сьмерці апэратара ОРТ вінаватыя сумнавядомыя лукашэнскія "шvадроны сьмерці".

## Помнік Геніюш

У Зэльве ля Траецкай царквы ў канцы лістапада быў адкрыты помнік Ларысе Геніюш, беларускай паэтцы, шматгадоваму вязьню сталінскіх лягероў.

Аўтар праекту - менскі скульптар Міхась Інькоў. На высокім пастамэнце - серабрыстая выява паэткі, якая вырастае з крылаў.

Помнік зроблены на ахвяраваньні тутэйшых беларусаў і беларусаў ЗША і ўрачыста асьвячоны праваслаўным сьвятаром.

## "Выпадковы прэзыдэнт"

У лістападзе ў Менску адбылася прэзэнтацыя за зачынемымі дзьвярыма кнігі "Выпадковы прэзыдэнт". Аўтары Сьвятлана Калінкіна і Павал Шарамет (галоўная рэдактарка "Белорусской деловой газеты") і былы карэспандэнт расейскага канала ОРТ у Менску).

У кнізе апісваецца мэханізм прыходу Лукашэнкі да ўлады, ягонае атачэньне, будучыя пэрспэктывы, праліваецца сьвятло на выкраданьне вядомых беларускіх палітыкаў і апэратара ОРТ Зьмітра Завадзкага (гэта падцьвярджаецца дакумэнтамі КДБ) і іх знішчэньне лукашэнскімі "шvадронамі сьмерці". Асобным раздзелам друкуецца дзёньнік Паўла Шарамета падчас ягонага знаходжаньня ў гарадзенскай турме (журналіст правёў тры месяцы ў турме за нелегальны пераход літоўскай мяжы і паказ гэтага лёгкага пераходу па тэлебачаньні).

*Уласны карэспандэнт*

# Закрываюць шапікі

Паводле рашэньня Менгарвыканкаму, зьнесены кіёскі, а цяпер ад пачатку сьнежня і да сакавіка забаронены яшчэ і гандаль садавінай, гароднінай і кветкамі з вулічных латкоў і адкрытых пляцовак. Сваё рашэньне чыноўнікі патлумачылі намерам абараніць пакупнікоў ад нізкаякаснай прадукцыі ды жаданьнем надаць вуліцам прывабнейшы выгляд. Аднак не сакрэт, што гэткім чынам улада намагаецца прымусіць людзей карыстацца крамамі.

Там, дзе шчэ ўчора ўдзень і ўвечары прадавалі й куплялі, сёньня тырчаць пянькі ад зьвезеных шапікаў. Паспаліты люд ціха абураецца. Чаму-ж не чуваць змаганьня мікракамэрсантаў? Дзе яна, нацыянальная буржуазія?

Адказ на паверхні: наколькі яна не нацыянальная, настолькі-ж не буржуазія. Шапікі й рынкі ў Беларусі па сутнасьці зьяўляюцца канцавым зьвяном таваrapраводнай сыстэмы, вытворчая база якой знаходзіцца ў Кітаі, Турцыі й Расеі. Над плыняй гэтых пераважна нізкаякасных рэчаў і прадуктаў раяцца перакупшчыкі рознага рангу. Большасьць зь іх — выхадцы з Каўказу і Азіі. Беларусы ў гэтай сыстэме — ня ўласьнікі, а пара тысяч наёмных работнікаў — прадаўцоў і грузчыкаў, ды яшчэ колькі сотняў тых, хто выбіўся крыху вышэй, каб самому арандаваць і наймаць.

Каму-каму, а нацыянальнаму руху тутака лавіць няма чаго.

*Наша Ніва*

# Нашыя хлопцы - у Эўропе!

**Беларуская маладзёвая зборная - у фінале чэмпіянату Эўропы па футболу!**

Гэтай падзеі айчынныя аматары спорту чакалі доўгія дзесяць гадоў. Якраз столькі, колькі ў Беларусі існуе сувэрэнны футбол. Забіўшы чатыры безадказныя галы ў вароты польскіх аднагодкаў на іх полі ў Вронках, беларускія гульцы дамагліся права ўдзелу ў фінальнай стадыі першынства кантынэнту сярод маладзёвых камандаў (узрост гульцоў не перавышае 21 год). Цікава, беларусы адзіныя з усіх былых савецкіх краінаў трапілі ў васьмёрку мацнейшых, якая з 27-га траўня па 8-га чэрвеня 2004-га году разыграе эўрапейскія ўзнагароды й ліцэнзіі на XXVII-я летнія Алімпійскія гульні ў Атэнах.

Узгадаем таксама, што сёлета на шляху да вырашальнага супрацьстаяньня з нашымі заходнімі суседзямі зборная Беларусі ўжо атрымала пяць перамогаў запар, у тым ліку над камандамі такіх традыцыйна футбольных нацыяў як Галяндыя, Аўстрыя і Чэхія. Прычым апошнім беларусы саступілі першае мейсца ў адборачнай групе толькі па даных паказніках.

Справядліва будзе адзначыць і галоўных герояў вялікага посьпеху. Гэта, перш за ўсё, узыходзячая зорка эўрапейскага футболу Аляксандр Глеб, які зараз бароніць колеры нямецкага "Штутгарту", і лепшы гульнец ныцыянальнага чэмпіянату Цімафей Калачоў - лідар салігорскага "Шахцёру".

Прыемна, што на стадыёне ў Вроцлаве панад сэктарам зь беларускімі амтарамі луналі нацыянальныя бел-чырвона-белыя сьцягі. На радзіме ўявіць сабе гэта сёньня проста немагчыма.

*Кастусь ЛАШКЕВІЧ*

# Беларуская замежная прэса і радыё

Пад гэтым загалоўкам вы зможаце даведацца пра цяперашнюю прэсу і радыёпраграмы, якія выдаюцца або рыхтуюцца па-за межамі Рэспублікі Беларусь. У сэрыі артыкулаў самыя выдаўцы або рэдактары раскажуць пра свае выданьні й праграмы, згадаюць цікавейшыя моманты із свайго існаваньня і паведамяць аб плянах на будучыню.

Некаторыя з гэтых газэтаў або часапісаў выходзяць цяпер рэгулярна, іншыя больш-менш стараюцца гэта рабіць. Прадбачваюцца артыкулы пра наступныя выданьні: з Паўночнай Амэрыкі - "Беларускі Дайджэст", "Беларускае Слова", "Беларускі Час", з Эўропы - "Ніва", "Czasopis", "Ведамасьці", "Годнасьць", "Рунь" і адное міжкантынэнтальнае выданьне "Belarusian Review". Таксама артыкулы пра наступныя радыёпраграмы: "Свабода", "Рацыя", "Радыё Палонія", "Радыё Ватыкан", "Аўстралійскае Радыё", "Ангельскае Радыё"...

Запрашаем выдаўцоў, рэдактараў або прадстаўнікоў, якія дасюль гэтага не зрабілі, прыслаць артыкул пра дзейнасьць сваіх выданьняў і ўстановаў.

У гэтым нумары пачынаем з найстарэйшай беларускай газэты ў Эўропе - беластоцкай "Нівы". (Пра крыху старэйшага амэрыканскага "Беларуса" мы стала друкуем артыкулы пад аўтарствам Лявона Юрэвіча.)

У "Ніве" найчасьцей друкуюцца артыкулы наступных аўтараў і карэспандэнтаў: Яўгена Мірановіча, Аляксандра Максімюка, Міколы Ваўранюка, Ганны Кандрацюк, Міры Лукшы, Аляксея Мароза. Доўгатэрміновым рэдактарам зьяўляецца Віталь Луба, які падрыхтаваў наступны матар'ял. Газэту можна таксакма прачытаць і на Інтэрнэце: ***www.niva.iig.pl***

## Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

Тыднёвік беларусаў у Польшчы "Ніва" выходзіць у Беластоку з 1956-га году. Асноўнымі яго чытачамі зьяўляюцца беларусы, якія кампактна насяляюць паўднёва-ўсходнюю частку Падляшскага ваяводзтва, а таксама выхадцы зь беларускіх вёсак у гарадох. Мэты, якія ставіць сабе тыднёвік гэта: дапамога ў захаванні нацыянальнай сьвядомасьці сярод беларусаў і прапагандаваньне беларускай мовы. Тыднёвік выконвае інфармацыйна-адукацыйную ролю, асьвятляючы падзеі з жыцьця беларусаў Беласточчыны. На старонках "Ніва" зьмяшчаюцца весткі з паўднёва-ўсходніх гмінаў Падляшша, апісваюцца мерапрыемствы, арганізаваныя мясцовымі беларускімі суполкамі, публікуюцца артыкулы з галіны культуры, асьветы, гісторыі, палітыкі, гаспадаркі, рэлігіі.

На працягу сарака сямі гадоў вакол тыднёвіка гуртуецца беларуская інтэлігенцыя, якая на ягоных старонках мае магчымасьць публікаваць папулярныя, навуковыя, публіцыстычныя артыкулы й літаратурныя творы.

На старонках "Нівы" дэбютавалі вядомыя сёньня беларускія літаратары, што жывуць у Польшчы: Надзея Артымовіч, Аляксандар Баршчэўскі, Ян Чыквін, Віктар Швед, Сакрат Яновіч і іншыя. Кола згуртаваных вакол "Нівы" літаратараў стварыла ў 1958-м годзе Беларускае літаратурнае аб'яднаньне, якое пазьней прыняло назву "Белавежа". З таго часу штомесяц у "Ніве" зьяўляецца літаратурная старонка. Ад сямі гадоў рэдакцыя супольна з Беларускім саюзам у Рэчы Паспалітай арганізуе Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі й прозы, мэтаю якога зьяўляецца выяўленьне таленавітай моладзі й стварэньне ёй магчымасьці публікаваньня і дасканаленьня творчага майстэрства.

Тыднёвік шмат увагі адводзіць навучаньню беларускай мовы. На старонках "Нівы" публікуюцца тэксты, якія выкарыстоўваюцца на ўроках беларускай мовы. Калі не было падручнікаў, "Ніва" друкавала матар'ялы, прыгодныя настаўнікам і вучням. З думкай пра дзяцей, якія вучацца роднай мовы, у кожным нумары на двух старонках друкуецца дадатак "Зорка". Пад патранатам рэдакцыі вяліся цыклічныя курсы для дзяцей, якія пішуць у "Зорку".

"Ніва", пачынаючы з 1980-х гадоў, апублікавала шэраг гістарычных артыкулаў аб дзеячах, зьвязаных зь Беларускай Народнай Рэспублікай. Тады яны афіцыйнай гістарыяграфіяй прызнаваліся за ворагаў. Дзякуючы "Ніве", чытачы маглі пазнаёміцца зь дзейнасьцю Браніслава Тарашкевіча, Івана і Антона Луцкевічаў, кс. Адама Станкевіча, Інгата Дварчаніна, творчасьцю Алеся Гаруна, Ларысы Генюш, Францішка Аляхновіча, Казіміра Сваяка і іншых. З 1990-х гадоў папулярна-навуковыя артыкулы публікуюць такія даследчыкі беларускай гісторыі, як Яўген Мірановіч, Алег Латышонак, Лена Глагоўская, а. Рыгор Сасна, Дарафей Фіёнік.

З 1992-га году выдаўцом "Нівы" зьяўляецца Праграмная рада тыднёвіка "Ніва", якую складаюць прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў. Апрача выдаваньня "Нівы" Праграмная рада выдае таксама кніжкі (гістарычныя, мемуары, літаратура). Глядзіце пералік ніжэй.

Спонсарам "Нівы" зьяўляецца Міністэрства культуры Польшчы.

## У пачатку 2004-га году пабачыць сьвет новы выпуск Запісаў БІНІМ, №27.

### In memoriam

*Ядвігін Ш.* Раны

*Янка Запруднік.* Зора Кіпель (1927-2003)

*Зора Кіпель.* Знаёмствы ў Нью Ёрскай Публічнай Бібліятэцы (урыўкі з успамінаў).

Бібліяграфія Зоры Кіпель.

### Тэксты

*Ірына Багдановіч.* Беларуская паэзія 20-х гадоў як зьява літаратурнага авангардызму.

*Юры Гарбінскі.* Беларускі рэлігійны друк на эміграцыі

*Натальля Гардзіенка.* Беларусы ў Аўстраліі: аповяд пра сябе

### Публікацыі

*Вацлаў Пануцэвіч.* Рэлігія й царква на Беларусі. (Архіў БІНІМ). Прадмова, падрыхтоўка да друку й камэнтары А.і Н. Гардзіенкаў.

*Лявон Юрэвіч.* Нашыя магілкі.

### *Архівы*

*Лявон Вашко.* Ліст.

Лісты Зоські Верас да Апалёніі Савёнак.

*Крыніца. Факсымільная публікацыя.* Прадмова І. Багдановіч

### Літаратура

*Янка Юхнавец.* Запіскі і зацемкі, напісаныя ў працягу некаторых гадоў прад траўнем 1996 году.

### Пераклады

*Віталь Зайка.* Мэнке Кац - амэрыканскі гэбрайскі паэт зь Міхалішак

### Кнігапіс

*Максім Шчур.* Каб не стварыць сабе куміраў.

## Пералік кніжак, выдадзеных Праграмнаю радаю тыднёвіка "Ніва":

1. *Міра Лукша*, "Дзікі птах верабей" (апавяданні), Беласток 1992.
2. *Sokrat Janowicz*, "Dolina pelna losu" (проза), Беласток 1993.
3. *Sokrat Janowicz*, "Terra incognita: Bialorus" (публіцыстыка), Беласток 1993.
4. *Юрка Генію*ш, "З маёй званіцы" (фельетоны), Беласток 1993.
5. *Міра Лукша*, "Выспа" (Mira Luksza, "Wyspa" - opowiadania), Беласток 1994.
6. *Янка Целушэцкі*, "Панарама гмін усходняй Беласточчыны" (давелнік), Беласток 1995.
7. *Дзядзька Квас*, "Роздумы" (проза), Беласток 1995.
8. "Лёс аднаго пакалення" (успаміны), Беласток 1996.
9. "Словы ў лабірынтах" (плён І Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы), Беласток 1996.
10. "Плыву морам майго жыцця" (плён II Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы), Беласток 1997.
11. *Сакрат Яновіч*, "Дзённікі" (1987-1995), Беласток 1997.
12. *Віктар Ярмалковіч*, "Кароткі нарыс гісторыі Беларусі да 1914 года", Беласток 1997.
13. "Za niebokresem Europy. Antologia nowej poezji bialoruskiej 1987-1997", Беласток 1998.
14. *Георгій Валкавыцкі*, "Белая вязь" (успаміны), Беласток 1998.
15. *Алена Анішэўская*, "Смак жыцця" (вершы, апавяданні), Беласток 1998.
16. *Уладзімір Саўчук*, "Што ў сэрцы" (вершы), Беласток 1998.
17. "Зноў чуеш словы" (плён III Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы), Беласток 1998.
18. *Яўген Мірановіч*, "Навейшая гісторыя Беларусі", Беласток 1999.
19. *Надзея Артымовіч*, "Адплывае спакойнае неба" (паэзія), Беласток 1999.
20. "Вобразы думак" (плён IV Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы), Беласток 1999.
21. *Георгі Валкавыцкі*, "У каменным крузе" (успаміны), Беласток 2000.
22. "Бежанства. 1915" (успаміны), Беласток 2000.
23. "У кроплях дажджу" (плён V Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы), Беласток 2000.
24. "Сваякі" (вершы), Беласток 2001.
25. *Барыс Руско*, "Прасейванне імглы" (паэзія), Беласток 2001.
26. "У новай айчыне. Штодзённае жыццё беларусаў Беласточчыны ў міжваенны перыяд", Беласток 2001.
27. *Георгі Валкавыцкі*, "Ашчэпкі" (фельетоны), Беласток 2002.
28. *Hanna Kondratiuk*, "W strone Tarasiewicza", Беласток 2002.

# Беларусіка ў Ратгерскім унівэрсытэце

З амэрыканскіх вышэйшых вучэльняў Ратгерскі ўнівэрсытэт бадай самы старэйшы. Заснаваны напрыканцы XVIII-га стагодзьдзя, ён і сёньня актыўна служыць разьвіцьцю амэрыканскай ды сусьветнай навукі. Паводле акадэмічнага ўзроўню гэты ўнівэрсытэт займае сёньня 8-9-е месца сярод усіх вышэйшых вучэльняў у ЗША. Варта адзначыць, што на ягоны навуковы прэстыж працавалі, між іншым, і беларусы. Адным з найбольш выдатных трэба лічыць Аўгена Вярбіцкага, які закончыў тут біялягічны факультэт, а пазьней зрабіў дактарат. Дарэчы, яго навуковым кіраўніком быў ведамы амэрыканскі вучоны Ваксман, які ў першай палове 40-х гадоў вынайшаў пэніцылін. Пасьля абароны дактарату Аўген Вярбіцкі пераехаў у штат Аёву і пачаў сьпэцыялізавацца на хіміі мясной прадукцыі. Пазьней атрымаў пасаду галоўнага навукоўца ў ваеннай лябараторыі дасьледаваньняў ежы ў ЗША. Ён - адзін з выдатных навукоўцаў, вынікі працы якога былі выкарыстаныя ў касьмічных палётах амэрыканскіх астранаўтаў. Выдатнасьць навукоўца-беларуса была адзначаная, калі амэрыканскія астранаўты вярнуліся зь Месяца і прывезьлі адтуль месяцавую пароду - кавалачак яе быў ўручаны таксама і др. А. Вярбіцкаму.

Зь іншых ведамых беларусаў у Ратгерскім унівэрсытэце студыявалі сп-ня Зора й сп. Вітаўт Кіпелі. З маладзейшага пакаленьня - Юрка і Ірэна Азаркі, Нона Махнюк, Павал Рамана, Ліля Касьцюк, Людміла й Натальля Русак, Кастусь, Валянтына й Галіна Вайцяхоўскія, Натальля Кіркевіч ды іншыя. Дарэчы, у Ратгерскім унівэрсытэце беларусы ня толькі вучыліся. Тут працавалі ў бібліятэцы Галіна Русак і Людміла Махнюк. Як вынікае з падлікаў доктара мэдыцыны Юркі Кіпеля, для якога тутэйшы ўнівэрсытэт - таксама Alma Mater, гэтую вучэльню закончыла каля 120 беларусаў. Дарэчы, у Ратгерскім унівэрсытэце напрыканцы 90-х гадоў была зарганізаваная беларуская канфэрэнцыя, на якую меўся прыехаць ведамы беларускі пісьменнік Васіль Быкаў. Нажаль, здароўе не дазволіла яму адведаць землякоў у ЗША і прыняць удзел у гэтым навуковым форуме.

Добрым знакам часу сталася тое, што менавіта Ратгерскаму ўнівэрсытэту др. Янка Запруднік не так даўно перадаў сваю багатую калекцыю беларусікі - каля пяці тысячаў кнігаў. Паасобныя беларускія кніжкі, безумоўна, тут былі й раней. Сярод іх - фундамэнтальная праца Я. Карскага "Беларусы", некалькіх тамоў беларускай энцыкляпэдыі першага выданьня. Пры ўнівэрсытэце ўжо некалькі дзесяткаў гадоў існуе таксама і аддзел славянскіх студыяў. Але беларусіка да нядаўняга часу фігуравала тут разрозьнена, а не як камплектная бібліяграфічная адзінка. Таму кніжную калекцыю др. Я. Запрудніка прынялі зь вялікай прыемнасьцю. Гэткім чынам кнігазбор беларускага навукоўца фактычна распачынае сыстэматычную разбудову беларускай калекцыі ў Ратгерскім унівэрсытэце. На думку др. Вітаўта Кіпеля, дырэктара Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку, гэтая кніжная калекцыя якраз "трапіла ў належнае месца, дзе беларусіка з часам пачне разьвівацца".

Беларусіку сваю др. Я. Запруднік зьбіраў праз цэлае жыцьцё, пачынаючы яшчэ ад студэнцкіх гадоў. У кнігазборы навукоўца і грамадзкага дзеяча ёсьць кніжкі зь Лювэну і з часоў славутай "Дванаццаткі". Вось як пра гісторыю кніжнай калекцыі распавядае яе былы ўладальнік:

"У сувязі з журналістычнай і навуковадасьледніцкай працай я заўсёды хацеў мець кніжкі "пад рукой". Прыехаўшы ў 1957-м годзе ў Нью Ёрк, рэгулярна наведваў кнігарню 'Чатыры кантынэнты', дзе прадаваліся таксама і кніжкі зь Беларусі. Мяне ў асноўным цікавіла беларусіка. Кніжкі гэтыя былі даступныя сваёю цаною і так вось я "аброс" сваімі кніжкамі. У той маёй хаце, дзе я раней жыў, увесь падвал быў застаўлены кніжнымі паліцамі, і там мне хапала месца, бо хата была вялікая. Поруч з кнігамі там былі камплекты часапісаў з Бацькаўшчыны - такіх як "Полымя", "Маладосьць", "Весці Акадэміі Навук", "Нёман" ды іншыя. У сувязі з маім пераездам у 1995-м годзе ў Самэрсэт паўстала патрэба перагледзець сваю хатнюю бібліятэку. Тамчасам "канчына" Савецкага Саюзу ператварыла частку набытага кніжнага матар'ялу ў макулятуру і ў нейкай ступені падказала, што рабіць з усім гэтым. Аднак большасьць выданьняў, асабліва беларусіка, ня страціла сваёй вартасьці і па сёньня. Мяне заўсёды турбавала думка, калі ня знойдзеш тагo або іншага выданьня ў сябе ўдома, то трэба будзе бегаць і шукаць па бібліятэках. Таму я трымаў пад рукою максымальную колькасьць кніжак, а перш-наперш перыядычныя выданьні. Пасьля, адсартаваўшы тое, што на маю думку, было патрэбнае, я перавёз яго ў Самэрсэт. Ну, і тут надалей "абрастаў" кніжкамі, бо кожны год і кожныя адведзіны Беларусі суправаджаліся вялікім багажом кніжак. І вось, нарэшце, дасягнуўшы "сталага веку", я пачаў думаць, што будзе далей з гэтай калекцыяй. І так зрадзілася думка перадаць яе ў Ратгерскі ўнівэрсытэт. Зь некаторымі рэчамі прыйшлося разьвітвацца з болем у сэрцы. Напрыклад, з калекцыяй тых жа часапісаў "Полымя", "Маладосьць" і "Нёман". І гэта лёгка вытлумачыць, бо ў кожным зь іх было нешта карыснае, нешта цікавае. Нью Джэрзі, як ведаем, штат шматэтнічны. Нямала жыве тут і беларусаў. Супрацоўнікі бібліятэкі Ратгерскага ўнівэрсытэту прыйшлі, пагледзелі, прыгледзеліся. Пабачылі, што гэта вартасны матар'ял і сказалі "окэй". Ну, і я тады пачаў калекцыю пакаваць. Атрымалася дзесьці каля сотні скрынак. Пры перадачы кніжнай калекцыі быў падпісаны кантракт з унівэрсытэтам. Мне паабяцалі ня толькі ўпарадкаваць кніжкі, але і пусьціць іх на міжбібліятэчны абмен, а таксама паставіць кніжныя выданьні на інтэрнэт. Ну, і гэта мяне задаволіла. Я зь вялікай удзячнасьцю аддаў калекцыю і з палёгкаю, што можа там яна ня толькі захаваецца, але і яшчэ паслужыць беларускай эміграцыі."



Трэба адзначыць і тое, што на ўпарадкаваньне беларускай кніжнай калекцыі др Я. Запруднік ахвяраваў пэўную суму грошай. Цяпер на ўнівэрсытэце робіцца каталягізацыя ўсяго перададзенага матар'ялу.

Кніжную калекцыю навукоўца складаюць у асноўным выданьні, зьвязаныя зь літаратурай, гісторыяй і культурай Беларусі. Сюды таксама ўвайшоў бадай што ўвесь англамоўны матар'ял пра Беларусь. Ёсьць там кніжкі ў нямецкай мове, ёсьць у францускай, і нават у гішпанскай ды італійскай, хоць такіх там няшмат. Англамоўная сэкцыя перададзенай кніжнай калекцыі даволі вялікая. Бальшыня перададзеных кніжак пазначана своеасаблівымі "аўтографамі", якія сьведчаць аб тым, што навуковец ня проста чытаў кніжку, але працаваў зь ёю - раскрэсьліваў, падкрэсьліваў, рабіў на старонках выданьня свае заўвагі й пазнакі.

Апрача гэтага, вельмі шмат у калекцыі кніжак з аўтографамі аўтараў ды прысьвятаю др. Янку Запрудніку. З англамоўных дэдыкацыяў варта згадаць аўтографы праф. Арнольда Макмілліна, Джэймса Дынглі, а таксама ведамай ангельскай перакладчыцы Веры Рыч. Зь беларусаў добрыя словы-прысьвячэньні пакінулі пісьменьнікі Уладзімер Арлоў, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, навукоўцы праф. Аляксандар Баршчэўскі, др. Генадзь Кісялёў, др. Адам Мальдзіс ды іншыя.

Можна з упэўненасьцю сьцвердзіць, што кніжная калекцыя др. Янкі Запрудніка ня згубіцца ў Ратгерскім унівэрсытэце і яшчэ дзейсна паслужыць новым пакаленьням беларускай эміграцыі ды прапагандзе беларусікі ў англамоўным сьвеце. Як і ўсё тое, што гэты выдатны гісторык і грамадзка-палітычны дзяяч зрабіў і напісаў на працягу ўсёй сваёй навуковай ды грамадзка-палітычнай дзейнасьці на эміграцыі.

***Ю. КАМІНСКІ***

***На здымку: др. Янка Запруднік на сваім працоўным месцы ў Беларускай рэдакцыі радыё"Свабода" на Брадвэі. Нью Ёрк, пачатак 80-х гадоў.***

**За два апошнія дзесяцігодзьдзі ў БІНіМе выйшлі наступныя кнігі:**

у "Бібліяграфічнай сэрыі":

№1. **Янка Купала й Якуб Колас на Захадзе**. Нью-Ёрк, 1985. - 350 с.
№2. **Byelorussian Statehood. New York**. 1988. - 398 p.
№3. **Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны**. Нью-Ёрк, 1989. - XXVIII+283 с.
№4. **Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі**. Том I. Кн. 1-2. Вільня-Нью-Ёрк-Менск-Прага, 1998. - 1721 с.
№5. **Беларускія слоўнікі й энцыкляпэдыі**. Нью-Ёрк - Менск, 2002. - XXXIII+570 с.
№6. **Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе**: Асобныя выданьні. Бібліяграфія. Нью-Ёрк - Менск, 2003. - XXII+582 с.

рыхтуецца да друку:

№7. **Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе**. Перыядычныя выданьні. Бібліяграфічнае дасьледаваньне.

у сэрыі "Гісторыя эміграцыі":

№1. *Ян Максімюк*. **Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне (1945-1950)**. Нью-Ёрк-Беласток, 1994. - 196 с.
№2. *Янка Запруднік*. **Дванаццатка**: Аповесьць пра дванаццацёх беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі й Бэльгіі (1946-1954 гг.). Нью-Ёрк, 2002. - 510 с.

рыхтуецца да друку:

№3. *Зьміцер Саўка*. **Гісторыя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (1949-99)**.
№4. *Лявон Юрэвіч*. **Сусьвет чалавека сьведамага, або паўсядзённае жыцьцё дыяспары на бачынах газэтаў "Бацькаўшчына" й "Беларус" (1947-2000)**.
№5 *Юрась Гарбінскі*. **Рэлігія і царква на эміграцыі**.

у сэрыі "Беларускія паэты й пісьменьнікі":

№1. *Натальля Арсеньнева*. **Між берагамі: Выбар паэзіі**. Нью-Ёрк-Таронта, 1979. - XXXIX+350с.
№2. *Алесь Салавей*. **Нятускная краса**: Збор твораў. Нью-Ёрк-Мэльбурн, 1982. - XVI+373с.
№3. *Аляксандра Саковіч*. **У пошуках праўды**: Апавяданьні й аповесьці. Нью-Ёрк-Кліўленд, 1986. - 254 с.
№4. *Міхась Кавыль*. **Міжагнёўе**: Выбраныя творы. Нью-Ёрк, 1990. - XXI+344 с.
№5. *Уладзімер Дудзіцкі*. **Напярэймы жаданьням**: Збор твораў. Нью-Ёрк, 1994. - XXIX+312 с.
№6. *Мікола Цэлеш*. **Хмары над Бацькаўшчынай**: Апавяданьні. Нью-Ерк, 1995. - XXXV+299 с.
№7. *Юрка Віцьбіч*. **Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі**. Нью-Ерк, 1996. - XVI+397 с.
№8. **Архіўная кніга**. Аўтар-укладальнік *Лявон Юрэвіч*. Нью-Ёрк, 1997. - 446 с.
№9. *Лявон Крывічанін*. **Беларусізацыя пад №...** Нью-Ёрк, 1998. - 164 с.
№10. **Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі**. Нью-Ёрк, 1999. - 360 с.
№11. *Антон Адамовіч*. **Творы**. Нью-Ёрк, 2003. - XXXIV+764 с.

# Гісторыя газэты "Беларус"

Калі з палітыкаю газэты ў справах, датычных Беларусі, усё было зразумела (нацыянальная, незалежніцкая, дзяржаўніцкая), дык пытаньне палітыкі ў амэрыканскім жыцьці заслугоўвае больш пільнай увагі й асэнсаваньня. Здаецца, ніколі ніводная беларуская арганізацыя ці перыядычнае выданьне на выгнаньні не прымалі афіцыйных пастановаў адносна ўдзелу ў амэрыканскай нутраной палітыцы. Выява прыхільнасьці да тае ці іншае палітычнае плыні, рэспубліканцаў або дэмакратаў, адбывалася ў пэўнай ступені стыхійна, калі арганізацыю ўзначальвау беларус з пэўнай пазыцыяй. Адчувала падобныя зьмены й газэта "Беларус". Прыкладам, за рэдактарам М. Міцкевічам яна была "дэмакратычнаю". Рэдактары Янка Запруднік і Зора Кіпель імкнуліся захоўваць парытэт. Стась-жа Станкевіч і Вітаўт Кіпель рэдагавалі газэту з пазыцыяў рэспубліканцаў.


БЕЛАРУС
ЧАСАПІС БЕЛАРУСАЎ У З.Г.А. BYELARUS — BYELORUSSIA
Год I, № 1 20 верасьня, 1950 NEW YORK 29, N. Y. U. S. A.

Як пачыналіся адносіны газэты з Рэспубліканскаю Партыяй, расказвае Ст. Станкевіч у лісьце ад 4-га лістапада 1969-га году:

"Вельмі паважаная й дарагая спадарыня!

Некалькі словаў пра маю паездку ў Вашынгтон. Гэта была скліканая Галоўнай Кватэраю Рэспубліканскае Партыі першая канфэрэнцыя нацыянальных рэспубліканскіх лідэраў. Усіх запрошаных удзельнікаў было каля 80 чалавек, якія рэпрэзэнтавалі аж 29 нацыянальных групаў. Ад Беларусаў паводля прынцыпу "на бязрыб'і й рак рыба" за такога "лідэра" вызнаны амэрыканскімі й партыйнымі ўрадавымі коламі я ("ня ўмею ні пісаць, ні чытаць, а на караля выбіраюць"). Аказваецца, канфэрэнцыя гэтая адбылася, як кажацца ў дыпляматычнай мове, "на найвышэйшым узроўні". У чацьвер 30 кастрычніка рана нас завезьлі ў Белы Дом, напаілі прэзыдэнцкай кавай, і там нас прыняў Прэзыдэнт Ніксан ды Віцэ-Прэзыдэнт Агню, сказаўшы да нас прыязную й вымоўную з палітычнага гледзішча прамову. Тады кажны з нас асабіста, і я, бедны, у тым ліку, былі па чарзе прадстаўляны Прэзыдэнту й Віцэ-Прэзыдэнту, якія трэсьлі нам рукі й казалі па некалькі цёплых словаў, а мы адказвалі тым самым. Гэтага-ж дня па абедзе Цэнтральны Камітэт Рэспубліканскай Партыі наладзіў нам пышны банкет, а ягоны старшыня (а не "сакратар", як у бальшавікоў) Р. Мортон сказаў нам даўжэзную прамову, пасьля чаго ўручыў кожнаму, у тым ліку й мне, беднаму, ганаровую грамату Рэспубліканскай Партыі ў знак прызнаньня й ўдзячнасьці за супрацоўніцтва. Пазаўтра, у пятніцу, 31 кастрычніка, цэлага першага паўдня былі ў Дэпартамэньце Дзяржаўным (міністэрстве замежных справаў), дзе з прамовай быў выступіў сам Сецеретары оф Стате (міністра на людзкай мове) ды адказаў на зададзеныя яму пытаньні. ў высокай палітычнай матэрыі. Пасьля гэтага на абед былі мы запрошаныя ў Дэпартмент оф Транспортатіон, дзе Джон Волпі сказаў нам асабліва цёплую прамову й шмат кампліментаў. Наапошку адведалі Департмент оф Хоусінг анд Урбан Девелопмент, дзе сакратар гэтага дэпартмэнту былы губэрнатар штату Мічыган Ромні прыймаў нас. Дык, як бачыце, канфэрэнцыя ўзаўпраўды была на найвышэйшым партыйным і дзяржаўным узроўні. Мне асабіста яна дала шмат: удалося навязаць шмат новых кантактаў ды замацаваць старыя, а таксама шмат зрабіць для папулярызацыі нашае справы. Лішні раз пераканаўся, што гэтак лёгка часамі адчыняюцца перада мною дзьверы высокіх установаў і людзей не дзякуючы якімсьці маім заслугам, якіх, фактычна, для Рэспубліканскай Партыі няма, а дзякуючы гэтай сьціплай, куртатай і ўсяго адзін раз у месяц выдаванай газэтцы "Беларус". Страціць гэткую газэту будзе абазначаць страціць ня толькі ганараваньне мяне як ейнага рэдактара і як Беларуса, але й страціць шмат што іншае ў розных галінах нашага нацыянальнага жыцьця. Аказваецца, што Амэрыканцы ў сто разоў лепш разумеюць значаньне й дацэньваюць наяўнасьць, хоць і нейкай, прэсы, чымся бадай што ўсе нашыя".

*Рубрыку вядзе Лявон ЮРЭВІЧ*

# Ваяўнічыя і прыгожыя

Бібліятэка графа Аўгуста ў прыгожым нямецкім гарадку Вольфэнбютэль, дзе ўдалося папрацаваць мінулым летам, на ўсю Эўропу славіцца найбагацейшымі зборамі старадрукаў. Як выявілася, шмат сабраных там выданьняў самым непасрэдным чынам тычыцца і беларускай гісторыі, так што нас яшчэ можа чакаць нямала адкрыцьцяў. З вынікаў першай разьведкі мяне найбольш уразіла малюткая кніжачка "Праўдзівае грунтоўнае апісанне Русінаў...", напісаная Паўлам Одэрборнам у 1581-м годзе і потым неаднакроць выданая ў Нямеччыне на лацінскай ды старанямецкай мовах.

Паўл Одэрборн быў памеранскім немцам, які пасьля атрыманьня ступені магістра філязофіі прыехаў у Коўну, дзе працаваў лютэранскім сьвятаром. Летам 1581-га года ён апынуўся на Полаччыне, толькі што вызваленай ад маскоўскай акупацыі войскам Стэфана Баторыя. Пакуль на памежжы было ціха, Одэрборн з часткаю найманых прускіх кнехтаў знаходзіўся ў Дзісьне, дзе кватараваў у хаце мясцовага бурмістра - "чыстакроўнага русіна" Аляксея Цэзарына. Каб не марнаваць час, дапытлівы немец узяўся пазнаваць новы для яго край, запісваючы пачутае і пабачанае - так і нарадзілася кніжачка.

Одэрборн наведваў праваслаўнага сьвятара, у якога праз перакладчыка знаёміўся з рэлігіяй і звычаямі русінаў, шмат распытваў у гаспадара, хадзіў па людзях, бываў у іншых гарадах і мястэчках. У кожным разе, як сам аўтар сьцьвярджае ў прадмове, запісваў ён толькі тое, што бачыў сваімі вачыма, а не па чутках ці чужых кніжках. Сапраўды, у шэрагу месцаў апісаньне мясцовых рэаліяў настолькі дакладнае і канкрэтнае, што адразу адчуваецца - так перадаць мог толькі відавочца! Тым больш каштоўным трэба лічыць зьвесткі пра Паўночную Беларусь, пакінутыя Паўлам Одэрборнам, бо ў іх ня толькі дэталёва зафіксаваныя рытуалы й звычаі нашых продкаў, але зьберагліся ўяўленьні аўтара пра самых беларусаў, яго асабістыя ўражаньні ад мясцовых людзей. Ніжэй прапаную некаторыя вытрымкі з Одэрборнавага "Праўдзівага грунтоўнага апісаньня Русінаў", каб чытач сам ацаніў запісы немца.

Натуральна, эўрапейца найперш уражвалі пушчы: "Яны [людзі - Г.С.] атачаныя тут густымі, непраходнымі лясамі, так што ваўкоў, лісаў і куніцаў упалёўваюць часам проста ў горадзе". Дзівіла і тое, як людзі зжыліся зь лесам, і якім жывучым было паганства: "У лясах яны маюць асаблівыя дрэвы, дзеля малітваў пасаджаныя іх бацькамі, з тых дрэваў здымаюць кару, дробяць яе і лечаць ёю ня толькі калецтва, але гояць таксама раны ды ўсялякі боль...", а ў хатах многія трымаюць "асаблівых зьмей". Зьвярнуў увагу і на прыроднае багацьце края. "У мірныя часы іх палі добра родзяць і тут не бракуе нічога, што-б магло спатрэбіцца для сілкаваньня чалавечага цела. Яны па-майстэрску ловяць розных глушцоў, цецярукоў, рабчыкаў і падобных ды прадаюць іх па мізэрных цэнах. Удосталь і каштоўнай рыбы, якую яны здабываюць у рэках Дняпры, Дзьвіне, Дзісьне, Дрысе, Палаце, а таксама ў нялічаных азёрах ды рыбных затоках".


*Вызваленьне Полацка вялікім князем і каралём Сьцяпанам Батурам. Дрэварыт XVI-га ст. Малюнак узяты з кнігі "Краіна Беларусь".*

Мімаходзь гаворачы пра лад, Одэрборн адзначыў, што мясцовыя кіраўнікі ("старасты") "выдатна валадараць над народам", які "застаўся пры сваім Статуце". Што да культуры, то аўтар бачыў, як беларусы "гуляюць ня толькі ў карты, але бавяцца таксама ў косьці ці ў шашкі, аднак асабліва спрытна гуляюць у шахматы". Больш за тое: "У шахматах яны такія майстры, што ня ведаю, ці зможа які іншы народ зраўняцца зь імі ў гэтай гульні!", - напісаў зьдзіўлены памеранец.

Кранаючы зьнешні выгляд беларусаў, немец назваў іх "файнымі людзьмі добрай фігуры", а потым дадаў: "У бальшыні гэта народ моцны, добрага целаскладу, і жанчыны тут зусім нябрыдкія, так што іншы-б і захапіўся іхнай прыгажосьцю. Аднак свой прыгожы вобраз яны хаваюць і псуюць... ".

Урэшце, здаецца, зусім нечаканая характарыстыка, якую мог даць праваслаўным беларусам прадстаўнік самага ваяўнічага народу Эўропы: "Увесь гэты народ ад прыроды схільны да абароны. У сутычках яны выкарыстоўваюць мячы, даўгую колючую зброю і выгнутыя шаблі...". Пры адзначанай ваяўнічасьці, аднак, немец не заўважыў у беларусаў закрытасьці й дзікасьці. "Да чужынцаў яны ставяцца дастаткова дружалюбна", - заўважыў Одэрборн, і ў хатах "гасьцей прымаюць вельмі прыязна".

Калі параўнаем уражаньні Одэрборна пра Беларусь з апісаньнем Масковіі, якое раней пакінуў Жыгімонт Герберштайн або пазьнейшыя эўрапейскія падарожнікі, то пабачым сапраўды розныя народы. Нават вызнаючы аднае праваслаўе, яны былі больш розныя, чым цяпер. Выходзіць, у XVI-м стагодзьдзі продкі нашыя зусім годна выглядалі ў вачах эўрапейца, шмат чым выклікалі сымпатыі. Іх вобраз зьмяніўся пазьней, калі край перажыў войны сярэдзіны XVII-га стагодзьдзя, пасьля якіх беларусаў больш не называлі моцнымі й ваяўнічымі.

*Генадзь САГАНОВІЧ*



# Весткі й Паведамленьні

нью ёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня
Viestki j Paviedamlenni
Belarusan American Association, Inc.
✉ 166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае павуціньне: http://baza-belarus.org №12 (455)

# Лістападаўскі сход аддзелу БАЗА

Чарговы сход нью ёрскага аддзелу БАЗА адбыўся 8-га лістапада. Напачатку сходу старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка выступіў з паведамленьнем аб падзеях у Беларусі за апошні месяц. У прыватнасьці прысутныя былі паінфармаваныя пра візыт пасланца Рады Эўропы ў Беларусь у справе зьніклых палітыкаў, пра пікет у Гомлі супраць трэцяга тэрміну прэзыдэнцтва Лукашэнкі й апытаньне апініі людзей адносна гэтага, пра сытуацыю вакол Нацыянальнага Гуманітарнага Ліцэю і пра масавую ліквідацыю беларускіх недзяржаўных арганізацыяў.

Затым сп. Зайка выступіў з дакладам пра Слуцкі Збройны Чын, падаў кароткую гісторыю гэтай векапомнай падзеі беларускай гісторыі, 83-я ўгодкі якой сьвяткуюць сёлета ўсе беларускія патрыёты. Прамоўца цытаваў дакуманты, зьвязаныя са Слуцкім Збройным Чынам, што знаходзяцца ў Архівах БНР, па выдадзеным у 1998-м гадзе пад рэдакцыяй Сяргея Шупы зборніку "Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі, Том I". Сп. Зайка адзначыў важнасьць подзьвігу случчакоў як сымбаля ўзброенага арганізаванага змаганьня за свой край, ахвярнасьць і адданасьць беларускіх людзей сваёй бацькаўшчыне і беларускай справе, што павінны натхняць новыя пакаленьні змагароў за вольную незалежную Беларусь.

Затым з успамінам пра некатарых асобаў, якія бралі ўдзел у Слуцкім паўстаньні, выступіў старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. Антон Шукелойць. Ён узгадаў афіцэра Слуцкай брыгады, аўтара словаў беларускага нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" Краўцова Макара (Косьцевіча), старшыню маладзёвай арганізацыі Сяргея Бусла, кіраўнікоў паўстаньня Ўладзімера Пракулевіча (Старшыня Беларускай Рады Случчыны) і Васіля Русака (сябра Рады). Сустрэчы зь імі адбываліся падчас дзейнасьці ў беларускі партыях і арганізацыях на Віленшчыне (Заходняя Беларусь). У часы выбараў ад ганцавіцкай акругі на Ўсебеларускі Кангрэс у 1944-м годзе сп. Шукелойць пазнаёміўся з адным з вайсковых кіраўнікоў Слуцкага Збройнага Чыну Антонам Сокал-Кутылоўскім, які затым выехаў на Захад, і з францускай зоны акупаванай Нямеччыны быў выдадзены бальшавікам. Пасьля лягераў жыў у Слоніме, выехаў у Польшчу. Шмат хто з старэйшага пакаленьня эміграцыі ў Нью Ёрку памятаюць сьвятара а. Хведара Данілюка, які шмат зрабіў для разьвіцьця беларускага рэлігійнага і грамадзкага жыцьця ў Амэрыцы. Ня ўсе аднак ведаюць, што а. Данілюк быў лейтэнантам беларускіх узброеных сілаў Случчыны і падкамэндантам афіцэрскай школы, браў удзел у Слуцкім Збройным Чыне, а пазьней прысьвяціў сябе сьвятарскай працы.

Сп. Шукелойць адказаў на пытаньні аб працягласьці Слуцкага паўстаньня ў часе, і аб колькасьці случкіх паўстанцаў.

Затым сп. Антон Шукелойць выступіў з паведамленьнем пра выхад кнігі ўладыкі Юрага Рыжага і пра дзейнасьць Беларускай Аўтакефальнай (Народнай) Праваслаўнай Царквы (БАНПЦ), пад назовам "Мой крыж. Успаміны і разважаньні". Сп. Шукелойць адзначыў, што пасьля страты незалежнасьці старабеларускай дзяржавы людзі страцілі магчымасьць маліцца ў сваёй мове, і зьвяртацца да Бога пры пасярэдніцтве беларускіх сьвятароў. Жорстка перасьледваліся і перасьледуюцца цяпер спробы аб'явіць незалежную БАПЦ. Таму ўзьнікаюць новыя формы ўслаўленьня Творцы. Прыклад - Францішак Скарына, ягоная дзейнасьць па ўвядзеньні ва ўжытак народнай мовы ў царкве. Ягоныя пераклады біблійных кнігаў, дзе паўсюль напачатку - уступ аўтара перакладу, на той час не былі-б аўтарызаваны ані Ватыканам, ані Расейскай праваслаўнай царквой. Роля Скарыны - гэта роля пратэстантызму ва ўсходняй царкве. І гэта багатая традыцыя. Пасьля ўтварэньня БНР інтэлігенцыя стала думаць пра сваю царкву. У Празе эмігранты й навучэнцы ўнівэрсітэту шукалі шляхоў, каб абыходзіцца ў рэлігійным жыцьці без палякаў і расейцаў. Тамаш Грыб пісаў пра гэта ў перыёдыку "Іскры Скарыны". Уладыслаў Рыжы-Рыскі, што студыяваў пасьля вайны ў Рыме, даў пачатак кірунку Беларускай Аўтакефальнай Народнай Праваслаўнай Царквы. У Беларусі ў сёнешніх умовах дыктатуры й запраданства пад Расею ані аўтакефальная царква, ані нацыянальна скіраваная каталіцкая ня можа свабодна весьці душпастэрскую працу. Гэта патрабуе людзей сьмелых, баявых, ахвярных. І вось за гэтую патрэбную працу бярэцца Аўтакефальная Народная Царква, такія сьвятары, як уладыка Юры Рыжы.

Сп. Шукелойць затым падзяліўся сваімі ўспамінамі зь беларускіх народных традыцыяў, пра пастаўленыя на шнурах апошнія абжатыя снапы, што зваліся рай, або раёк. Супраць гэтых абрадаў выступалі каталіцкія сьвятары, што загадвалі нішчыць райкі.

Пасьля ў разьдзеле "Рознае" прысутныя пазнаёміліся з гасьцямі аддзелу, былі паінфармаваныя пра надыходзячыя імпрэзы, як сустрэча з дырэктарам Нацыянальнага Гуманітарнага Ліцэю сп. У. Коласам, і пра сьвяткаваньне Новага году.

**Віталь ЗАЙКА**

# Сустрэча з Уладзімерам Коласам

30-га лістапада у грамадзкай залі пры саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне адбылася сустрэча з дырэктарам Нацыянальнага Гуманітарнага Ліцэю сп. Уладзімерам Коласам. Сп. Колас зьяўляецца беларускім грамадскім і культурніцкім дзеячом, які фактычна стварыў першую ў найноўшай гісторыі Беларусі навучальную ўстанову, дзе беларуская мова стала мовай навучаньня і ўсе прадметы выкладаліся па-беларуску. Сп. Колас ачоліў змаганьне супраць ліквідацыі ліцэю рэжымам Лукашэнкі.

Напачатку сп. Уладзімер Колас прывітаў прысутных і адзначыў, што Ліцэй жыве, працягваюцца заняткі па розных прадметах і, дзякуючы адданасьці як навучэнцаў так і выкладчыкаў, вучэбны працэс працягваецца, нягледзячы на канфіскацыю ўладамі будынку ліцэю і ўсіх вучэбных матэр'ялаў і бібліятэкі. Сп. Колас сказаў таксама, што вельмі ўражаны падтрымкай, якую аказвае ліцэю грамадзкасьць, і гэта надае сілаў і аптымізму на далейшую дзейнасьць.

Далей выступоўца спыніўся на гісторыі стварэньня ліцэю. Гэты праект узьнік як асбістая ініцыятыва яшчэ ў савецкія часы, і быў задуманы як беларускамоўная навучальная установа, свабодная ад камуністычнага ідэалягічнага ўплыву. У савецкія часы беларуская мова была адзіным прадметам, ад якога, згодна з тагачаснымі правіламі, можна было адмовіцца. Перад тым дзесяцігодзьдзямі адбываўся генацыд беларускага народу, зьнішчэньне нацыянальнай інтэлігенцыі, што прывяло да масавага выцісканьня беларускай мовы з навучальнага працэсу і да цалкавітага зьнікненьня беларускай мовы са школаў у гарадах, дзе фактычна дзеці былі пазбаўленыя магчымасьці атрымліваць адукацыю на сваёй мове. Гэтую праблему і мусіў вырашыць ліцэй як першая з нацыянальных установаў новага тыпу. Да навучаньня былі далучаныя спэцыялісты высокага ўзроўню, якія адпаведна надалі высокі ўзровень Ліцэю. Пра гэта сьведчаць выдатныя вынікі, якія паказалі навучэнцы на разнастайных конкурсах, алімпіядах і сэмінарах як у краіне, так і за мяжою.

Сакрэт быў у жаданьні даць сапраўдныя веды, а не выконваць інструкцыі бюракратаў ад адукацыі. І атэстаты адпавядоюць ведам. Ліцэй ніколі не трымаўся хлусьлівай савецкай сыстэмы паказчыкаў ды імітацыі вірлівай дзейнасьці, што панавалі й сёньня скрозь пануюць ва ўсіх навучальных установах Беларусі. Намаганьні выкладчыкаў далі плён ня толькі ў сэнсе тэхнічна дасканалага навучаньня, але і ў выхаваньні грамадзянскіх і патрыятычных пачаткаў у навучэнцаў. Гэта можна пабачыць сёньня ў юнаках і дзяўчынах, якія самааддана працягваюць заняткі, зьбіраючыся з настаўнікамі па кватэрах у самых неспрыяльных умовах, якія выходзяць на пікеты й дэманстрацыі ў абарону свайго права навучацца на беларускай мове, якія рашуча адстойваюць права на годнае, чалавечае трактаваньне сваіх адукацыйных патрэбаў. У Ліцэі ўсе прадметы выкладаліся і сёньня выкладаюцца па-беларуску. Навучаньне на беларускай мове, дзякуючы высілкам выкладчыкаў і ўспрымальнасьці навучэнцаў, зрабілася прэстыжным. Падчас нармальнага функцыянаваньня Ліцэю залічэньне ў студэнты праводзілася па конкурсе, які дасягаў 20 чалавек на месца. Людзі імкнуліся ўладкаваць туды сваіх дзяцей, уключаючы людзей, якія працавалі ў адміністрацыі Лукашэнкі.

Немалую ролю ў гэтым адыграў новы зьмест адукацыі, эўрапейскія стандарты, што прыйшлі на зьмену хлусьні й догмам, асабліва ў сфэры гуманітарных навукаў улучна з мовазнаўствам. Былі выпрацаваныя новыя навучальныя праграмы, падрыхтавана больш за 50 падручнікаў. Самая форма выхаваньня была скіраваная на замену татлітарнага кантролю над вучнямі й настаўнікамі дэмакратычнымі мэтадамі ўзаемаадносінаў. Між тым ва ўсіх іншых школах захавалася савецкая сыстэма, па якой настаўнік застаецца рабом райана, вертыкалі, і рыхтуецца ня думаць, не выказваць ініцыятыву, а выконваць загады.

Дапамагло тое, што ўсё рабілі з нуля, шматлікія прапановы ўзяць гатовую школу адкідаліся. Пачыналі як кляса пры падрыхтоўчым факультэце пэдінстыту-

Працяг на бач. 14

**Уплаты ў аддзел дасылайце скарбніку на адрас:**
*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*
*Чэкі выпісвайце на* ***Belarusan American Association.***

**НАСТУПНЫ СХОД НЬЮ ЁРКАЎСКАГА АДДЗЕЛУ БАЗА АДБУДЗЕЦЦА 13-га СЬНЕЖНЯ 2003-га ГОДУ А 7-й ГАДЗІНЕ ВЕЧАРА Ў ФУНДАЦЫІ ІМЯ П. КРЭЧЭЎСКАГА ПА АДРАСУ:**
***166-34 GOTHIC DR., JAMAICA***
***Даезд цягніком падземкі F да 169th Street.***

# ЛІЦЬВІНКА - каралева польская

## Альдона, дачка Гедыміна

Вялікі князь Гедымін меў сем сыноў і шэсьць дачок. Адной з малодшых яго дачок была Альдона, якая пазьней стане жонкай славутага *польскага караля Казіміра III Вялікага*. Альдона не карысталася такой вялікай любоўю бацькі, як яе старэйшая сястра Бірута. Калі нарадзілася Альдона, Гедымін быў ужо сталым, зморанным жыцьцём і палітыкай чалавекам. У яго ўжо не хапала сілаў быць уважлівым нават да сваіх дзяцей. Альдона расла не зусім звычайнаю дзяўчынкаю для вялікакняжацкай сям'і. Яна не любіла быць навідавоку, часьцей сядзела дзе-небудзь у зацішным куточку бацькавага палацу і ад нечым думала. Сваіх патаемных думак і мараў Альдона не раскрывала нікому, нават сваёй лепшай сяброўцы - сястры Офцы. А мроіла яна аб прыгожым, незвычайным рыцары, які паланіць яе сэрца, і якога яна будзе кахаць гэтак, як кахала свайго Давыда Гарадзенскага яе старэйшая сястра Бірута. Альдона часта ўспамінала Біруту і Давыда. Зусім нядаўна ў дом яе бацькі князя Гедыміна дайшла жудасная вестка пра гібель Біруты і яе дзяцей. Альдона тады доўга плакала, шкадуючы сястру і пляменьнікаў. Але недзе глыбока ў душы яна гатовая была гэтаксама, як Бірута, загінуць, толькі каб у яе жыцьці надарылася такое-ж вялікае каханьне, як у сястры. Але ўласнага лёсу не мінеш.

Вялікаму князю Гедыміну патрэбна было ўмацаваць саюз паміж сваёю дзяржаваю ды Польшчаю. Дзеля гэтага ён вырашыў аддаць замуж ужо падрослую дачку Альдону за Казіміра, сына тагачаснага польскага караля Уладыслава Лакоткі. Жаданьне Гедыміна было даведзенае да польскага двара. Неўзабаве ў Вільню прыехалі пасланцы Уладыслава, а разам зь імі й юны каралевіч. І Альдоне, і Казіміру не было яшчэ і пятнаццаці гадоў. Альдоне адразу не спадабаўся пыхлівы, ганарысты каралевіч, які зусім не адпавядаў яе мроям пра добрага, незвычайнага рыцара. Не гарэў жаданьнем узяць у жонкі "барбарку-ліцьвінку" і Казімір, які ў тады быў заканы ў Юту Люксембурскую. Таму, калі на нейкі момант Альдона і Казімір засталіся адныя, дык змаглі толькі з дзіцячай непасрэднасьцю выказаць адзін аднаму сваю пагарду. Калі польскія госьці паехалі дамоў, Альдона кінулася ўпрошваць бацьку, каб не аддаваў яе замуж за нялюбага, але Гедымін быў непахісны. Тут мела значэньне не жаданьне дачкі, а дзяржаўны інтарэс. Таму ў вялікакняжацкім доме пачалі рыхтавацца да шлюбу Альдоны.

Вясною 1325-га году Альдона назаўжды разьвіталася з родным домам. Яна выправілася ў Кракаў, пакуль што толькі як нарачоная Казіміра. Праз некалькі дзён пасля таго, як Альдона прыехала ў Кракаў і не пасьпела яшчэ як сьлед прызвычаіцца да чужога гораду і да чужых людзей, яе ахрысьцілі ў каталіцкім касцёле і далі ёй імя Ганна. Альдона вымушаная была стаць каталічкай. Дзяўчына ўжо зразумела, што яна толькі невялікая шрубачка ў палітыцы. Таму рабіла ўсё, што ёй загадвалі, не спрачалася, а свае ўласныя думкі й жаданьні хаваць ёй было ўжо не ў навіну. Калі трэба прыняць чужую веру, што-ж - яна яе прыме, але ёй заставаліся вечары, калі да яе ў пакой ніхто не заходзіў, акрамя некалькіх дзяўчат-ліцьвінак, якіх яна прывезла разам з сабою зь Вільні. Вось зараз Альдона мела поўнае права заставацца сабою і пра гэта не магла ведаць нават *Ядзьвіга Вялікапольская*, маці Казіміра і яе, Альдоны, будучая свякроў. У Альдоны адразу не скласіся адносіны з свякроў'ю. Ядзьвіга не хавала сваёй пагарды да паганкі-ліцьвінкі. Яна лічыла, што там, дзе нарадзілася і вырасла Альдона, да гэтага часу яшчэ бегаюць напалову голыя людзі й пра нейкую культуру там не можа быць нават і гаворкі. Пры самай малой нагодзе Ядзьвіга рабіла ўсё, каб прынізіць Альдону. Не пасьпела ліцьвінская князёўна апынуцца *ў Кракаве, як ёй адразу паставілі* ўльтыматыў: калі яна не вывучыць польскую мову фактычна за некалькі тыдняў, дык вянчаньня з Казімірам не адбудзецца. А гэта азначала, што і замуж яна не выйдзе, і дамоў вярнуцца нельга. Але тут Альдону рашуча падтрымаў сам польскі кароль Уладыслаў І Лакотка. Ён знайшоў для дзяўчыны самых лепшых настаўнікаў, і ўжо праз тыдні два здольная, разумная ліцьвінская князёўна гаварыла па-польску зусім не горш за Ядзьвігу.

Шлюб паміж польскім каралевічам Казімірам ды дачкою вялікага князя літоўскага Гедыміна адбыўся. Альдона ўвайшла ў сямью польскіх каралёў. Сямья, куды яна без жаданьня і без любові вымушана была ўвайсьці, адносілася да старажытнага польскага княжацкага і каралеўскага роду Пястаў. Род быў такі старажытны, што меў нават сваю легенду. Паводле гэтай легенды, род быў заснаваны польскім селянінам Пястам, які выраблеў колы да вазоў. Безумоўна, на той час, калі Альдона стала жонкай каралевіча Казіміра, легенда гэтая ў доме Уладыслава Лакоткі не ўхвалялася, бо ў каралеўскай крыві не павінна было быць аніводнай кроплі халопскай крыві. Таму заснавальнікам роду лічыўся тут князь Мешка І, гады жыцьця якога датуюцца прыблізна каля 960-1025-га гадоў. Праўда, згодна летапісаў, гэты самы Мешка таксама быў нашчадкам таго самага селяніна Пясты.

Род Пястаў быў магутны ажно да XIV-га стагодзьдзя, калі ён страціў сваю каралеўскую карону. І да гэтага, сама таго не жадаючы, спрычынілася Альдона. Яна не нарадзіла спадкаемцу мужчынскага роду, і яе муж Казімір III Вялікі стане апошнім польскім каралём з роду Пястаў. Але пра гэтае далей. Пакуль што юная князёўна з Вялікага Княства Літоўскага вымушана была прызвычайвацца да чужой сямьі, да чужой веры, да чужых звычкаў.

Відаць, такі ўжо лёс быў у Альдоны: вытрымліваць адно выпрабаваньне за другім. Не пасьпела яна як сьлед агледзецца ў сваёй новай сямьі, як прыйшла жудасная вестка: яе сваяк, муж яе сястры і зяць яе бацькі Давыд Гарадзенскі паздраднiцку забіты польскім рыцарам Анджэем Гостам. Супольны паход на крыжакоў быў сарваны, а адносіны паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польшчаю сталі вельмі напружанымі. Князь Гедымін ня мог дараваць Польшчы гібель Давыда Гарадзенскага. І тут Альдона, зусім яшчэ маладая жанчына, амаль дзяўчо, паказала сапраўдны дыпляматычны талент. Ёй было надзвычай цяжка. Душою і сэрцам яна *была ў сваім віленскім доме, са сваім* бацькам князем Гедымінам. Яна плакала ад таго, што ня мела нават магчымасьці прысутнічаць на пахаваньні сваяка Давыда, якога вельмі любіла. Але Альдона адчувала, што ад яе вытрымкі, ад яе розуму будзе шмат у чым залежыць лёс дзьвюх краінаў: і Вялікага Княства Літоўскага, і Польшчы. Вось-вось магла распачацца вайна, якая на той час нікому не была патрэбная. Альдона апынулася паміж дзвюх агнёў. І яна з годнасьцю вытрымала сваё першае дзяржаўнае выпрабаваньне. Яна чула, як за яе сьпіною шапталіся прыхільнікі каралевы Ядзьвігі, як яе фактычна правакавалі, але Альдона ніяк не рэагавала на гэтыя правакаваньні. Яна маўчала, нічога не казала мужу, старалася быць як надалей ад свякрові. Каб нікому не мазоліць вачэй, яна выправілася ў падарожжа па Польшчы. І гэтае падарожжа прынесла ёй двайную ўдачу: яна міжволі згасіла спрэчкі паміж дзьвюма вялікімі дзяржавамі і адначасова паказала сябе польскаму народу, які з задавальненьнем вітаў яе. Кароль Уладыслаў І адразу ацаніў дыпляматычны падыход сваёй нявесткі да дзяржаўных справаў і ад гэтага часу ён заўсёды будзе падтрымліваць менавіта Альдону ў шматлікіх сямейных непаразуменьнях. Кароль Уладыслаў адзіны з нямногіх зразумее паэтычную ды тонкую душу Альдоны. І пакуль ён будзе заставацца гаспадаром польскага каралеўскага двара, Альдона, хоць яе жыцьцё ніколі не будзе азорана сямейным шчасьцем, але ўсё-ж будзе мець свайго абаронцу і прыхільніка. Бо і яе муж Казімір, і сьвякроў, каралева Ядзьвіга, ўсё-ж такі пабойваліся Уладыслава і стараліся пакрыўдзіць нялюбую ім абодвум ліцьвінку спадцішка, зьнянацку.

У 1326-м годзе Альдона нарадзіла дачку, якую назвалі Альжбетай у гонар цёткі, сястры Казіміра, якая зараз была жонкаю венгерскага караля Людовіка. Але адносіны паміж Альдонаю і Казімірам зусім не пацяплелі. Хутчэй, наадварот. Магчыма, калі-б Альдона нарадзіла хлопчыка, спадкаемцу каралеўскага роду, усё было-б трошкі інакш. Але яна нарадзіла дачку і атрымала новую порцыю папрокаў за тое, што нават у гэтай справе апынулася не на вышыні. Казімір увогуле забыў, што ён мае жонку і дачку.

У 1329-м годзе каралевіч Казімір вырашыў зьдзейсніць падарожжа ў Венгрыю ды наведаць сваю сястру, каралеву Альжбету. У Венгрыі яму гэтак спадабалася, што яго гасьцяваньне там задоўжылася. Каралевіч, які не адносіўся да людзей прыстойных у асабістых паводзінах, як кажуць, моцна загуляў. Паколькі юны Казімір меў даволі прывабнае аблічча і ў адносінах да чужых жанчын быў гжэчным кавалерам, то, безумоўна, карыстаўся вялікай прыхільнасьцю з боку слабога полу. І вось тут, у Венгрыі, надарылася бяда, якая вельмі моцна запляміла каралеўскі род Пястаў. Казімір пазнаёміўся з Клараі Зах, дачкою купца Фэліцыяна Заха. Клара была вельмі прыгожаю, і яна настолькі паланіла сэрца польскага каралевіча, што адносіны паміж імі зайшлі занадта далёка. Карацей, Клара зацяжарала. Гэта быў велізарны скандал. Але гэта яшчэ паўбяды. Ці мала па сьвеце хадзіла каралеўскіх байструкоў? Галоўнае, каб усе рабілі выгляд, што нічога не здарылася. Звычайна, каралеўскае дзіця і яго маці атрымлівалі нядрэнныя ўмовы жыцьця і ўсе былі задаволены. Але з Кларай, на жаль, атрымалася зусім не так. У траўні 1330-га году, калі Казімір усё яшчэ гасьцяваў у Венгерскім каралеўскім доме, нечакана ў палац уварваўся Феліцыян Зах, бацька Клары. Карыстаючыся ўсеагульнай разгубленасьцю, ён накінуўся на караля Людовіка і каралеву Альжбету і моцна параніў абодвух. Казімір-жа, як апошні баязьлівец, проста зьбег і схаваўся недзе ў адным з аддаленых пакояў. Безумоўна, Феліцыяна забілі там-жа, у каралеўскім палацы. Адразу-ж схапілі і Клару. Ёй адрэзалі нос і вусны і правезьлі па ўсяму гораду. Пасьля забілі і яе. Род Захаў па каралеўскаму загаду быў вынішчаны ажно да трэцяга калена.

Гэты скандал атрымаў вядомасьць па ўсіх суседніх краінах. Такую ганьбу польскі каралеўскі дом дагэтуль яшчэ ня ведаў. І ў першую чаргу ганьба тычылася Альдоны, як жонкі няўдалага шукальніка прыгодаў. Альдона і на гэты раз паказала велізарную вытрымку. Яна нават не папракала мужа, хоць мела на гэта поўнае права, але надзеі на нейкае ўрэгуляваньне сямейнага жыцьця былі канчаткова пахаваны. Маладая каралеўна цалкам аддалася выхаваньню дачкі Альжбеты. Пра тое, што ў яе яшчэ ёсьць муж, будучы кароль Польшчы, яна старалася неяк не ўспамінаць.

Настае 1333-ці год. Паміраe кароль Уладыслаў. На трон узыходзіць Казімір. Штучнае зацішша ў доме Пястаў зноў выбухае сямейнымі спрэчкамі, якія зараз мелі вялікае дзяржаўнае значэньне. Ядзьвіга, каралева-маці, якая засталася ўдавою, але яшчэ была даволі маладою і поўнаю сілаў, вырашыла каранавацца на польскі трон. Гэта не адпавядала законам, бо дзейны кароль меў законную жонку Альдону, або Ганну пасьля хрышчэньня. І менавіта яна павінна была каранавацца разам з Казімірам. Але Казімір падтрымліваў сваю маці. У рэшце рэшт каранавалі на польскі трон усё-ж Альдону. У краіне ўсталявалася гэтак званае двухкаралеўе. Ядзьвіга мела шмат прыхільнікаў, але ня менш іх было і ў Альдоны. Краіна зноў апынулася на парахавой бочцы. Безумоўна, усяго гэтага не адбылося-б, калі Казімір, які, дарэчы, пасьля пакажа сябе *як вельмі нядрэнны палітык, нездарма-ж* ён будзе названым Вялікім, быў не супраць каранаваньня сваёй жонкі Альдоны. Цяжка сказаць, чаму Казімір тады паводзіў сябе гэтак неабачліва. Магчыма, ён быў занадта маладым і не змог устрымац-

Заканчэньне на бач. 15




*Панарама Кракава на гравюры XVI-га ст. Малюнак з кнігі "Краіна Беларусь".*

# Япіскапат БАПЦ

*Заканчэньне з бач. 1*

*некалькі разоў падчыркваў, што яму ўжо няма месца ў Зарубежнай Расейскай Царкве. Уладыка Апанас праз увесь час ужываў толькі беларускую мову. Ён у гутарцы, хоць сам стараўся гаварыць, але меў меру, заваёваў да сябе прыхільнасьць. Я да яго гаварыў, у большасьці, у форме пытаньняў. Ці ён адчуваў тое, што я стараюся даведацца ягонай думкі, ня ведаю.*

*З гутаркі архіяпіскапа Апанаса я даведаўся пра некалькі здарэньняў, пра якія мала хто ведае. (...). Хутка перад сваім зьліцьцём з Расейскай Зарубежнай Царквой адбыўся Сабор Япіскапаў Беларускае Праваслаўнае Царквы (БПЦ). На гэтым Саборы разглядалася справа далучэньня беларускага япіскапату да расейскага зарубежжа. На саборы прысутнічала шэсьць япіскапаў, і яны ў сваім паглядзе падзяліліся на дзьве палавіны - тры на тры. Мітрапаліт Панцялейман, архіяпіскап Бэнэдыкт і япіскап Сьцяпан былі за поўным злучэньнем, без ніякіх засьцярогаў, да Расейскае Зарубежнае Царквы. Архіяпіскап Філафей, япіскап Апанас і япіскап Ян былі за тым, каб затрымацца пры цяперашнім статусе, гэта ёсьць застацца незалежнымі. Расейцы пайшлі на ўступкі (магчыма гэта былі іхныя хітрыкі, як пасьля выявілася) і дагаварыліся на злучэньне на аснове аўтаноміі, і што яно мае быць часовым. Паводле дагавору беларускаму япіскапату давалася права на самастойнае вырашэньне спраў унутранага парадку БПЦ. У часе галасаваньня ў справе аўтаноміі япіскапы падзяліліся на тыя самыя палавіны. Паколькі першы ярарх мітрапаліт Панцялейман галасаваў "за", дык другая палавіна: архіяпіскап Філафей, япіскап Апанас і япіскап Ян ужо не працівіліся й пагадзіліся з мітрапалітам на аўтаномію. Расейцы аднак не датрымалі дагавору. Каб перашкодзіць у дзейнасьці беларускаму япіскапату, яны пачалі назначаць беларускіх япіскапаў паводле сваіх меркаваньняў. У выніку чаго амаль усе беларускія япіскапы аказаліся вікарнымі расейскіх япіскапаў на расейскіх япархіях. На вусны пратэст некаторых беларускіх япіскапаў расейцы не зьвярталі ўвагі. (...)*

*З архіяпіскапам Апанасам было вельмі лёгка гутарыць пра царкоўныя справы, бо ён добра ведаў, што азначаюць юрысдыкцыя, каноны й правільна іх разумеў.*

*Я не адчуў таго, каб Уладыка Апанас выявіў сябе беларускім патрыётам, і каб ён мог пасьвяціць самога сябе для беларускай справы. Ён выказвае любоў да беларускага народу, і ён гатовы яму служыць, але ў яго не выяўляецца адданасьці яму. Мне здаецца, што архіяпіскап Апанас ня ёсьць настойлівым, але мяккага характару. Ён не пераважвае падзелу нашае эміграцыі й яшчэ цяпер не адчувае віны, што прычынаю гэтага падзелу ёсьць іхны пераход у расейскае зарубежжа. У гутарцы ён надалей ужываў "група крывічаў і беларусаў". Архіяпіскап Апанас ня ёсьць сьведамы таго, што мянушкі "крывічы й зарубежнікі" ўжо выйшлі зь лексыкону беларускай эміграцыі.*

*Пры канцы нашай гутаркі Ўладыка падарыў мне мэдаль Сьв. Юрыя ў форме Панагіі ручной работы, з матар'ялу, мне здаецца, з марскіх скарлупін. Я прасіў у Ўладыкі Апанаса ягоную кніжку "Матар'ялы да Гісторыі Беларускай Праваслаўнай Царквы", выданай на ратататары ў Нямеччыне ў 1947-м годзе. Ён выбачыўся і сказаў, што ў яго астаўся толькі адзін экзэмпляр гэтай кніжкі. Але, за тое ён даў мне сваю кніжку "Беларусь". Я казаў Уладыку, што маю гэтую кніжку, але ён сказаў "вазьмі й дасі яе таму, хто яе яшчэ ня мае". Ужо выходзячы я папрасіў Уладыку Апанаса, каб ён падпісаў ахвяраваную кніжку. Адразу ён браўся падпісаць, а пасьля нечага збаяўся, а чаго мне няведама. Магчыма ён пабаяўся, каб я часам, калі-небудзь, не выкарыстаў ягоны подпіс. А магчыма ён прыпомніў, што два месяцы таму, у верасьні, Сабор Япіскапаў Расейскае Зарубежнае Царквы ў Монтрэалі, Канада, забараніў распаўсюджваць гэтую кніжку.*



Bishop Athanasius
Administrator of the
Greek-Orthodox Church
in North and North-West
Germany

Hamburg
den 3 красавіка 1947
Harvestehuder
Weg 27

SA ZBORU
LEANIDA HALAKA

Да
Рэдакцыі часопісу „Шляхам Жыцьця" Ватэнштэт.

Паважаны Спадар рэдактар!

Вельмі прашу надрукаваць у Вашым часопісе наступнае:

У сакавіковым нумары часопісу „Шляхам Жыцьця" Nr. 3(15) 25.III.1947 была надрукаваная інфармацыя з царкоўнага жыцьця, [illegible] Беларускага Праваслаўнага Япіскапату на чужыне. Паводле свайго зьместу гэтая інфармацыя зьяўляецца тэндэнцыйнай і фальшывай. Відаць што аўтару не хочацца [illegible] Праваслаўны беларускі япіскапат у [illegible] вернікаў беларусаў. [illegible] трэба зазначыць, што ў апошнім часе у вышэйназваным часопісе публікуюцца артыкулы [illegible] аўтарытэт праваслаўнай ерархіі, хочацца думаць што [illegible] больш не паўторыцца і беларуская грамадзкасьць супольна з беларускім праваслаўным духавенствам возьмецца дружна да працы над [illegible] сваёй долі на чужыне.

Япіскап Апанас

**На здымку: ліст япіскапа Апанаса ад 3-га красавіка 1947-га году да рэдакцыі часапісу "Шляхам Жыцьця" (З архіва БІНІМ)**

*У самым канцы нашай гутаркі архіяпіскап Апанас запрапанаваў мне каву. Паколькі чаю не было я пагадзіўся на каву. Калі ён даведаўся, што мой "хурман" сп. К. Хаванскі чакае на мяне ў аўце, папрасіў яго ў хату, і мы разам сілкаваліся. Хутка перад другой гадзінай папаўдні мы развіталіся ізноў пацалункам-абыймамі й пажадалі адзін аднаму добрага здароўя і шчасьця.*

*Ці Ўладыка Апанас даведаўся ад мяне чаго-небудзь я ня ведаю. У бальшыні я яго слухаў і ставіў яму пытаньні. Сп. К. Хаванскі паводле свайго погляду "зарубежнік", таму я не хацеў, каб ён быў прысутным пры гутарцы з архіяпіскапам Апанасам. А галоўнае, я кіраваўся меркаваньнем, што Ўладыка Апанас будзе свабадней гутарыць, ня маючы сьведкаў".*

Па рознаму склаліся лёсы былых ярархаў БАПЦ на эміграцыі. На пачатку 50-х гадоў у Нямеччыне адыйшлі ў вечнасьць галоўныя ініцыятары далучэньня беларускага япіскапату да Расейскай Праваслаўнай Зарубежнай Царквы - мітрапаліт Панцялеймон (у сьнежні 1950 г.) і архіяпіскап гарадзенскі й беластоцкі Бэнэдыкт (у 1951 г.) Абодва пахаваныя ў мясцовасьці Фельдмохэн каля Мюнхэну. Япіскап Павал перайшоў у каталіцтва і ў хуткім часе памёр у манастыры ў Бэльгіі. Архіяпіскап пінскі Аляксандар знаходзіўся ў перасыльных лягерох у Нямеччыне. У паразуменьні зь беларускім грамадзкімі й палітычнымі дзеячамі меўся ачоліць працэс аднаўленьня Беларускай Аўтакефаліі на чужыне. Зьвяртаў увагу на тое, што недастаткова япіскапаў, але ў першую чаргу "трэба мець дзесятак сьвецкіх беларусаў і абсадзіць імі сьвятарскія пасады ў беларускіх перасыльных лягерох". Дастаткова скептычна падыходзіў да высілкаў некаторых беларускіх сьвецкіх дзеячаў у справе вяртаньня беларускіх япіскапаў з РЗПЦ. Памёр ён у лютым 1948-га году ў Мюнхэне ў выніку цяжкіх цялесных пашкоджаньняў, пасьля таго як быў скінуты зь лесьвіцы каля сваёй кватэры. Паводле беларускіх эміграцыйных крыніцаў забойства архіяпіскапа Аляксандра было арганізаванае агентамі савецкіх спецслужбаў у Нямеччыне. Аўтару публікацыі, нажаль, не ўдалося пакуль яшчэ высьветліць лёсы трох іншых ярархаў БАПЦ - Іаана, архіяпіскапа палескага і берасьцейскага, Грыгора япіскапа гомельскага і мозырскага, Сьцяпана япіскапа смаленскага і бранскага, а таксама яраманаха Юльяна.

Дастаткова няпроста склаўся лёс архіяпіскапа Апанаса. У другой палове 40-ых гадоў ён браў актыўны ўдзел у арганізацыі рэлігійнага жыцьця ў беларускіх лягерох ДП у Нямеччыне. Вучыў рэлігіі ў беларускай гімназіі ў Ватэнштэце. Апрацаваў і выдаў два школьныя падручнікі па навучаньню рэлігіі, а таксама гісторыю праваслаўнай Царквы ў Беларусі у часе нямецкай акупацыі. У 1950-м годзе з Гамбургу выехаў у Аўстралію, а пазьней - у Аргентыну, дзе атрымаў годнасьць архіяпіскапа. Там-жа напісаў на расейскай мове гісторыю палітычнага і царкоўнага жыцьця ў Беларусі. Кніжка выклікала нападкі з боку расейскага духавенства і вернікаў і ў верасьні 1971-га году была забароненая царкоўнымі ўладамі. Рашэньнем Сыноду РЗПЦ быў пазбаўлены пасады й адпраўлены на адпачынак. У 60-ыя і 70-ыя гады падтрымліваў ідэю аднаўленьня аўтакефаліі беларускай праваслаўнай царквы на эміграцыі пад юрысдыкцыяй Канстанцінопальскага Патрыярхату. Ажыцьцяўленьне гэтага пляну зьвязваў з царкоўным актывам беларускіх парафіяў Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры (ЗША) і ў Тароньце (Канада). У сувязі з гэтым у лісьце да сп. Віталя Цярпіцкага ад 13-га сакавіка 1973-га году з Буэнос Айрэсу ён пісаў: "...усёю душою і ўсім сэрцам я хацеў-бы быць з Вамі зь беларусамі, сваімі суродзічамі й таму над гэтым даўно ўжо думаю, як зрэалізаваць гэта, бо не ад мяне цалкам гэта залежыць, а ад двух важных фактараў: прыхільнае становішча Сыноду Зарубежнай Царквы да майго адыходу, і прыхільнае становішча Сыноду ў Канстантынопалі да мяне. Я не магу самавольна нічога зрабіць, знаходзячыся на службе, як япархіяльны архіярэй. Як я быў у Аўстраліі на пакоі, дык тагды першы фактар мною быў-бы залагоджаны, а другі залежыў ад Канстантынопаля. Я чакаю магчымасьці й аказыі выйсьці ізноў на пакой, а тагды ўзяцца да зрэалізаваньня нашага супольнага пажаданьня адносна мяне. Трэба чакаць. Іншага выхаду няма. Сынод ніякай адпускной граматы мне ніколі ня дасьць, ды яшчэ цяпер. А калі Канстантынопаль упрэцца на гэтую фармальнасьць, дык я магу павіснуць у паветры".

Нажаль з прычынаў кананічных гэтых задумаў па аднаўленьню аўтакефаліі беларускай праваслаўнай царквы на эміграцыі зрэалізаваць не ўдалося. Архіяпіскап Апанас адыйшоў у вечнасьць 3-га лістапада 1984-га году ў Буэнас Айрэсе (Аргентына). Пахаваны на могільніку пры манастыры Сьвятой Тройцы ў мясцовасьці Джорданвіль (штат Нью Ёрк, ЗША). Здаецца больш-менш шчасьліва склаўся толькі лёс адной асобы з былога япіскапату БАПЦ - архіяпіскапа Філафея. У свой час ён займаў высокія пасады ў Расейскай Праваслаўнай Зарубежнай Царкве ў Эўропе і да выхаду ў 1982-м годзе на адпачынак кіраваў Германскай япархіяй. Аднак і архіяпіскап Філафей паводле сьведчаньняў сп. Надзеі Касмовіч, беларускай грамадзкай дзячкі ў Нямеччыне, праз увесь час свайго пастырскага служэньня так і ня стаўся "сваім" для расейскага зарубежжа. Пры сустрэчах у вузкім коле суродзічаў у Штутгарце падкрэсьліваў, што тут, сярод сваіх - можа хоць на нейкі час уцячы ад расейшчыны й адчуць сябе беларусам. Са сьмерцю архіяпіскапа Філафея (Гамбург, 26 верасьня 1986 г.) адыйшло ў гісторыю яшчэ адное імя і яшчэ адная дата.

***Алекс ЮРГ***



# "Каб жыла Беларусь!"

Сапраўднае імя Кастуся Акулы Аляксандар Качан. Ягоныя вочы ўпершыню пабачылі сьвет 16-га лістапада 1925-га году. Па волі Госпада нарадзіўся ён у невялічкай вёсачцы Верацеі, якая цяпер у Докшыцкім раёне Віцебскай вобласьці. Ягоны бацька Ігнат, просты селянін, быў рэпрэсаваны бальшавікамі й ня змог вярнуцца на сваю зямельку. Баразна ягонага жыцьця закончылася ў далёкім ГУЛАГУ.

Кастусь вычыўся ў польскай, а затым у расейскай школах. У 1942-м годзе скончыў настаўніцкія курсы ў Глыбокім, вучыў дзетак у поплішчанскай сямігодцы. Праз год паступіў у Віленскую беларускую гімназію, а праз год у афіцэрскую школу Беларускай Краёвай Абароны (БКА), пераехаў у Менск. Адтуль і пачаўся ягоны шлях выгнаньніка.Спачатку быў Эльзас, потым францускае Супраціўленьне, затым 2-гі польскі корпус генэрала Андэрса 8-й Брытанскай арміі. Узнагароджаны медалём "За вайну", "Залатой Зоркай Італіі". У 1946-м годзе скончыў Брытанскую афіцэрскую школу і ў чыне капрала зноў вярнуўся ў Італію. Посьля дэмабілізацыі эміграваў у Канаду.

Кастусь актыўны грамадзкі дзеяч, празаік, паэт драматург. Супрацоўнічаў зь беларускай газэтай "Бацькаўшчына", друкаваўся ў розных эмігранцкіх выданьнях. Прыехаўшы ў Канаду сп. Акула арганізуе беларускія суполкі, садзейнічае заснаваньню царквы ў Таронта, наладжвае сувязі зь землякамі, якія жывуць у іншых краінах, рэдагуе часапіс "Зважай". Зьяўляецца адным з арганізатараў Згуртаваньня Беларусаў Канады (ЗБК) і ягоным першым старшынём. Кастусь нязьменны ініцыятар і ўдзельнік нацыянальных сьвятаў, фэстаў, сходаў з нагоды палітычных падзеяў на Бацькаўшчыне, змагар супраць камуністычнага рэжыму, які панаваў на Радзіме. Іншы раз, калі не пасьпяваў сам, туды далятала ягонае слова - голас прамоўцы, барацьбіта, пісьменьніка.

Кастусь Акула - аўтар аповесьці "Змагарныя дарогі" (1962), рамана ў трох кнігах "Гараватка" (1965, 1974, 1981), кнігі прозы, паэзіі "Усякая ўсячына", а таксама раману на ангельскай мове "Tomorrow is yesterday" (1968).

## Думкі з нагоды Кастусю Акулу - 78

"Каб жыла Беларусь!" - гэтыя словы я часта чую тут, у Беларусі. Яны зацёрліся ад ужытку тых, хто пад Беларусьсю мае на ўвазе сябе. Гэтымі жывымі шчырымі словамі пачалі грашыць і "апазыцыянэры", і "дэмакраты", якія, як некалі камуністы, мараць аб адным - пабудаваць сьветлае, цёплае і сытае грамадзтва для сябе і пад сябе.

"Каб жыла Беларусь!" Раней гэтыя словы зрываліся з вуснаў, ішлі з сэрцаў актывістаў, патрыётаў, якія гатовыя былі легчы на плаху, але абараніць Радзіму.

Каляіну, па якой крочылі ногі беларусаў-змагароў, нажаль, размывае час. Ледзь прыкметны сьлед, які вядзе до волі, сёньня старанна-апантанна затоптвае ўлада, яе паслугачы, нямыя і глухія, якія дзеля прывілеяў, такога-сякога заробку сьцелюцца дыванком пад яе ногі, учарашнія "абаронцы" незалежнасьці, якія, нібы сабакі, цкуюць ледзь прыкметны рух да прагрэсу і ўзамен за папку пад пахаю прадаюць душу лукаваму.

"Каб жыла Беларусь!" Гэтыя словы, на шчасьце, да сёньняшняга дня сьвятая сьвятых для беларусаў, нашых суайчыньнікаў за мяжою. За даўгія гады на чужыне яны прызвычаіліся і да іхняга "о'кей", і да годнага жыцьця. Яны толькі не захацелі вырваць са сваё душы, са свае памяці сьветлы вобраз Беларусі.

Ня верце таму, хто сьцьвярджае, што пажыўшы за мяжою тры-пяць гадоў, забываеш сваю мову; што праз дзесятку гадоў зусім ня цягне на бацькаўшчыну, што праз дваццаць ня хочацца і думаць пра краіну, дзе зьведаў толькі беды й нядолю. Той, хто сьцьвярджае падобнае, ня ведае, што значыць быць грамадзянінам свае краіны. Той быў звычайным прыжывальцам тут і стаў такім-жа кватарантам там.

*

"Каб жыла Беларусь!" - бо там закапаная пупавіна, там пачатак разрыву зь бяспамяцтвам і пачатак асэнсаванага жыцьця. "Каб жыла Беларусь!" - бо спакутаваная, яна павінна быць і шчасьліваю.

"Каб жыла Беларусь!" - гэта наш дэвіз, нашая сьвятая сьвятых усякіх пачынаньняў на чужыне, - піша наш зямляк зь Верацеяў у сваёй кнізе "Усякая ўсячына". Я не пішу "мой зямляк", а сьцьвярджаю "наш", бо Кастусь Акула народжаны й хрышчаны ў Беларусі, сумленьне нашай нацыі, гонар усяго народу. Ён - наш шлях да ачышчэньня, пакаяньня і новага жыцьця. Ён - ня Бог, а праклад, як трэба жыць у суладзьдзі духоўным і як, ня гледзячы на цяжкасьці, не згубіць Бога ў душы. Празь ягоны лёс вядзе сьцяжынка да разуменьня і ўсьведамленьня месца і лёсу беларускага грамадзянства. Ягонае жыцьцё - гэта абагульнены вобраз жыцьця Беларусі ў розныя эпохі. Гэта адказ на спрадвечныя пытаньні: "Што рабіць?", "У чым сэнс жыцьця?", "Для чаго нараджаемся на сьвет?".

Праз ягоную асобу мы прыйдзем да сутнасьці Чалавека і, можа, зразумеем, нарэшце, што словы "Каб жыла Беларусь!" - гэта і лёс, і грэх; гэта і сэнс жыцьця і прароцтва будучыні; гэта боль і слодыч; гэта спрадвечны шлях і вечная пакута; гэта ідэал і пошук самога сябе...

Перад будучыняй нашай, перад родным краем
Прысягаю аж да сьмерці служыць роднай справе.
Працай, сілай маладою буду памагаці,
Каб на папеле нязгоды лёс наш будаваці.

Калі-ж здарыцца патрэба бараніць краіну,
Я для волі, для народу пракладу сьцяжыну.
Бяда, гора мне ня страшны, бо нядолю знаю.
Дык змагацца за свабоду жыцьцём прысягаю!

Гэтыя радкі Кастуся Акулы, які падпісваўся псэўдонімам Міхась Казыр, былі надрукаваныя ў "Беларускай газэце" ў чэрвені 1943-га году. Словы прысягі сталі сутнасьцю жыцьця сапраўднага беларуса, які ніколі ня здрадзіў сваёй краіне.

*

Час карэктуе нашае жыцьцё, уносіць зьмены ў грамадзтва, лад і ў прыроду, ён выпраўляе паводзіны, зьмяняе думкі. Час толькі ня можа паўплываць на волю чалавека, які прысягнуў Госпаду і сваёй Радзіме. У шэлесьце дзесяцігодзьдзяў мы чуем натхнёны, поўны моцы духу, сьмеласьці й аптымізму голас Паэта-Беларуса Кастуся Акулы:

Бярыся за справу! Ня трэба чакаць!
І дружна прыкіньсь за справу сваю!
Аб шчасьці прыпомні! Жыцьця не жалей!
Мей гонар палегчы за вольнасьць дзяцей!

Вось радкі - прыклад для пераймання і захаваньня. Чалавек ня думае пра сябе, ён згодзен згарэць для вольнасьці дзяцей - будучыні Беларусі. Паэтычнаю моваю Кастусь тлумачыць: "У мяне была радзіма, няхай пакрыўджаная, скалечаная і прыніжаная. Такой яна жыве ў маёй памяці й вымушае не шкадаваць сябе. Але ў марах жыве іншая Бацькаўшчына - прыгожая, паважная, сьпешчаная увагай і ўдзячнасьцю сваіх грамадзянаў, заможная і ... адная адзіная на цэлым Божым сьвеце зямелька. Я хачу падарыць дзецям і ўнукам сваім менавіта такую Радзіму."

Сталее зямляк. Як плады зямныя пад восень наліваюцца сокам, так наліваюцца мудрасьцю і словы, і творы, і дзеяньні Кастуся: "І такім чынам, і мы, людзі. Здаецца, што даўно скарылі ўсю прыроду сьвету, заляцелі на Месяц, розныя свае цацы на Марс, Юпітэр і Вэнэру выслалі. Ого, героі! Непераможныя! Але вось нейдзе бура, нейкае тарнадо. Параскідае людзям змайстраваныя будынкі, як недарэчныя дзіцячыя цацкі... Чалавек-гігант. Сябе побач, а то і вышэй Бога паставіў. Адно забыўся, што зямля, дый цэлая Сонечная сыстэма - мікраскапічная парошынка-макулінка ў сусьвеце. У прыродзе, асабліва-ж у магутнасьці стыхіі, Бога бачыш. І мяркуеш тады пра ягоную веліч і сваю слабасьць..."

Гэтыя радкі - сьведчаньне духоўнай сілы Кастуся, вопыту і пэдагагічнага ўменьня. Простаю моваю ён павучае нас. Павучае не аднекуль зьверху, з вышыні сваіх дасягненьняў і знакамітасьці, а як роўны, крэўны беларус, які жыве побач і бачыць шлях выратаваньня праз Бога. Павучае не сухімі пастулятамі, а жывымі прыкладамі зямнога і свайго жыцьця. Ягоныя "Змагарныя дарогі" ня толькі памайстэрску напісаная кніга, якая ўвайшла ў сотню лепшых беларускіх твораў 20-га стагодзьдзя. Гэта - акадэмія лёсу беларускай нацыі, рукатворны помнік патрыятызму і духоўнай вытрываласьці.

Гады пасерабрыліся скроні Кастуся, алеж душа - тая-ж маладая, рухавая, узрушаная. Ці-ж ёй, гарэзе, нудзіцца за кратамі часу? Не паддаецца яна гадам, як нявінніца нялюбаму. Яна ў вечным пошуку, у вечнай працы. І чалавек, які зь ёю ў згодзе, працуе па-ранейшаму: настойліва, плённа і шмат, каб наблізіць мару і ступіць на вольную беларускую зямельку.

У кастусёвых лістах да мяне палымяныя жаданьні: "Малюся да Ўсявышняга, каб узнагародзіў нас і прагнаў з нашай зямлі тых, хто прыйшлі ад "лукавага", каб збылося аднаўленьне Беларускай Народнай Рэспублікі й поўніліся песьнямі, славячы Госпада, адноўленыя народам зганьбаваныя Сьвятыні!"

Адчуваючы мой душэўны боль, Кастусь гаіў парэзы роднымі словамі: "Даражэнькая Галіна, памятай, што маланка ня б'е па сухіх і гнілых карчах, яна б'е па верхвінах высокіх і магутных дрэваў..." Так проста прымушаў паверыць у свае сілы, падняць галаву і з замілаваньнем сустракаць чарговы Божы белы дзень:

Я зганьбаваную Сьвятыню,
Як мог, што сілаў аднаўляў.
На помач клікаў на чужыне,
Шляхі і вехі ўстанаўляў.
І блаславены Ўсявышні
Нас верай, сілай надзяліў, -
Народ наш на зямлі ня лішні!
Ён будзе жыць, як хваль прыліў.

У словах, ва ўмела падабраных радках і напісаных уласнаю рукою радкахёсьць своеасаблівы магнетызм, які заваророжвае шчырасьцю, прастатою і душэўнасьцю, пранізвае верай і ўсяляе надзею.

Кастусь суцяшае: "Галіна, даражэнькая, ня надта хвалюйся, што побач здрада... Мы пераможам, бо любоў, дабрата, пашана, адданасьць пакрыўджаным і нямоглым, суцэльная і шчырая праца для дабра нашай Бацькаўшчыны ва ўсіх галінах ейнага жыцьця - гэта зарука перамогі. І галоўнае: з намі Бог!"

Кастусь акрыляе праўдаю: "Трымайцеся! Ідзіце перамагаць, а не паміраць. І заўтра таксама ўзыдзе сонца! Нам наканавана: любіць, цярпець, пашыраць добрае, вечнае - каб ужо ніколі-ніколі не панавалі ў нас злыдні..."

Кастусь, прыроджаны аптыміст, заўсёды жыве з гумарам. Ягонае сакавітае слова прымушае сур'ёзна думаць і з палёгкаю вырашаць складанае. Але абавязова ісьці наперад, не спыняцца на паўдарозе, не пасаваць перад хамствам, уладным крыкам, цемрашальствам, здрадай...

*Я шчасьлівая, што на скрыжаванях Сусьвету мы з Кастусём не разьмінуліся.* Крочачы па жыцьці з адною мэтаю, але з розных бакоў вялікай плянэты, мы сустрэліся - дзьве кропелькі ў людзкім акіяне, два зярняткі аднаго поля, дзьве надламаныя галінкі аднаго дрэўца, два лёсы ў Божай прсторы... Мы не маглі не сустрэцца, бо нашыя душы пакуталі ў адной клетцы няволі, бо *нашыя думкі ляцелі ў адным* накірунку, мы гарэлі, каб даць хоць крышачку сьвятла іншым... А ў цяжкія хвіліны мы падтрымлівалі сябе словамі:

І заўтра таксама ўзыдзе сонца,
І будуць людзі есьці і піць,
І ніхто зь іх ня ўспомніць,
Як мы хацелі жыць...

Што-ж тычыцца сэнсу жыцьця, то ён у наступных радках:

Гляньце, вунь зярно і мякіна, -
Навука, як на сьвеце жыць...
Адзін жыве і сьлед пакіне,
Другі жыве, каб насьлядзіць.

Кожным днём свайго жыцьця, працы, намаганьняў, дабрачыннай і самаахвярнай дзейнасьці Кастусь пакідае свой адметны, глыбокі сьлед на гасьцінцы Часу.

*

Гэты невялікі допіс толькі невялічкая кропелька падзякі дарагому зямляку, Настаўніку і старэйшаму Сябру, майму паважанаму Татульку, які заўсёды выслухае, зразумее і падтрымае. Гэта толькі невялічкая макулінка маёй творчай працы, адная бачынка ў будучай кнізе "Дзёньнікаў", над якою я працую. Гэта даніна павагі і пацьверджаньне, што Кастуся памятаюць, любяць і чакаюць на радзіме.

Я віншую спадара Кастуся Акулу зь днём нараджэньня і жадаю:

Промняў, усьмешак і кветак бясконца,
Боскага сьвету й цяпла!
Каб шчасьце сьвяціла ў Ваша аконца
І каб на радзіму дарога вяла!

Здароў'я Вам, моцнага, як маразы ў Беларусі, жыцьця, прыгожага, як дзяўчаты на радзіме, а лёсу такога бясконцага, які бясконцы белы сьвет. Добрага Вам настрою, даражэнькі Кастусь, плёну ў працы й гумару ў творах. Шчасьця і апекі Божай. Каб жыла Беларусь!

***Галіна СУТУЛА,***
***зямлячка з Глыбокага***
***(Урыўкі з будучай кнігі "Дзёньнікі")***

## Вітаўт КІПЕЛЬ

# Ад мэтрыкі да некралёгу

### Успаміны

8-га верасьня 1996-га году. Ня раз даводзіцца чуць, што пара ўзяцца й за ўспаміны! Зора мне аб гэтым сказала ўпершыню бадай ці не дзясятак гадоў таму назад, г .зн. у 80-х гадох! Магчыма, што яно то і так, узяўшы пад увагу храналягічны век. Але, на жаль ці на шчасьце, чалавек (я!) ня чуецца старым, каб пісаць успаміны. Настрой яшчэ такі, што хочацца быць удзельнікам жыцьцёвага руху, а не сузіральнікам. Ходам думак, на мой пагляд, я яшчэ да 69-ці не дайшоў! Але дзеля "кволасьці памяці" варта тое-сёе прыпомніць.

Кожны чалавек, або, як сказаў бы Ант. Адамовіч, кожная асоба ўважае, што ягоны жыцьцёвы шлях - асаблівы, унікальны. У пэўнай меры яно так, бо кожны чалавек, кожная асоба перажывае за сваё жыцьцё нешта асаблівае, толькі яму дадзенае зь ягонымі эмоцыямі, успрыйманьнем. Таму кожныя ўспаміны - зусім не "пэрфэктны" дакумант, аднак маюць у сабе нешта адзінае - гэтай асобе ўласьцівае. У кожнага свая дарога ад мэтрыкі да нэкралёгу.

Найперш крыху агульных разважаньняў.

У маім жыцьцёвым шляху я акрэсьліваю некалькі выразных перыядаў. Перыяд дзяцінства-юнацтва, г. зн. ад часу, калі памятаю нейкія падзеі, асэнсоўваю - і да 1941-га году. 1941-ы, бязь ніякага сумневу, пераходны, бо пачалася вайна (для майго пакаленьня незабыўная дата 23-га чэрвеня), а па-другое, 3-га кастрычніка 1941-га году я папаў у іншы сьвет - сьвет Захаду, хоць у той час гэты Захад у абліччы нацыстоўскага жаўнера нічым не адрозьніваўся ад усходняга савецкага. Бяз сумневу, той заходні немецфашыст тады быў страшнейшы за "нашага" (хоць "нашым" савецкае я ніколі не ўважаў!) савецкага чырвонаармейца. Такім парадкам, першы этап майго жыцьцярысу - гэта Менск 1927 - Арол 1941 з розных прыпынкамі ў гэтым храналягічным адрэзку часу.

Другі этап - гэта гады вайны, 1941-1945. Гады выразна асобныя, халодныя, страшныя, якія, не памылюся, калі скажу, зь юнакоў і юначак зрабілі загартаваных дарослых, а для мяне асабіста сталіся пачаткам новае філязофіі, новага пагляду на жыцьцё - усё праз прызму беларуса-незалежніка. І перад вайною беларускасьць была краевугольным паглядам у маім тады дзіцячым сьветаглядзе: я цікавіўся, хто з выдатных футбалістаў быў беларусам, зьбіраў маркі з тэмаю БССР, сачыў, калі ў Маскве адбываліся розныя беларускія "дэкады" ды ведаў, што і кола блізкіх сяброў сям'і было беларускім - беларусаў нейкіх іншых, ня толькі "пашпартных". І тым ня менш я нічога ня ведаў пра беларускую гісторыю, дзяржаву. Гэтыя веды, а зь імі й беларускі дзяржаўніцкі пагляд я скрышталізаваў у беларускай школе ў часе вайны ў 1942-1944 гадох.

Перыяд трэці - гэта эміграцыя. Ад 1944-га. З рознымі этапамі: Нямеччына, Бэльгія (ці наагул - Заходняя Эўропа), ЗША, Канада - Амэрыка Паўночная.

І перыяд апошні, з 1991-га году - разам зь Беларусьсю.

Чым гэтыя ўспаміны, я хацеў-бы, вырозьніваліся між іншымі? Гэта тое, што я ад калыскі - літаральна - на ўсё глядзеў зь беларускага гледзішча. Я шукаў прысутнасьці беларусаў усюды, я ўсюды зважаў беларускасьць, мне хацелася, каб беларускасьць усюды была адзначаная. І я рабіў, што мог, каб яе адзначыць! Я пераважваў, калі яе не заўважалі, а яна была. Тым розьніца маіх успамінаў - што яны ад пачатку да канца - пагляд беларускае душы. Я жыў усё жыцьцё Беларусьсю.

Магчыма, гэтыя накіды лепш не называць успамінамі, а беларускімі эпізодамі на жыцьцёвым шляху. Выглядае так: жыцьцё ідзе - сям'я на гэтым шляху стаіць на першым месцы. А за тым ідзе "беларуская справа" - кантакты зь беларусамі, зь Беларусьсю.

Што рабіла "нацыянальна сьведамым"?
Сям'я - адназначна.
Асяродзьдзе - 1941-1945 гадоў.
І эміграцыя - толькі зь беларусамі!

***Ад Рэдакцыі: Праціяг успамінаў будзе надрукаваны ў Запісах БІНІМ, №28.***

# Лісты ў рэдакцыю

### Мае беларусы

У Аўстраліі я жыву ўжо некалькі гадоў. Перад гэтым я ніколі не плянавала, што паеду зь Беларусі й пачну будаваць сваё новае жыцьцё за мяжою, тым больш, што я ўжо не такая маладая. Але так здарылася. Я думаю, што апынулася тут выпадкова, хоць і лічыцца, што мы самыя выбіраем сваю дарогу, свой лёс. Але ніхто яшчэ дакладна не вызначыў: мы выбіраем лёс, ці ён выбірае нас.

Вельмі хутка пасьля свайго прыезду я пачала шукаць сваіх людзей - беларусаў. Ніколі не забуду маю першую сустрэчу зь беларускаю грамадою тут, у Сыднэі. Мяне прынялі надзвычай цёпла гэтыя, у пераважнасьці немаладыя ўжо, шмат пабачыўшыя і шмат перажыўшыя на сваім вяку людзі. Чымсьці зьдзівіць іх, напэўна, вельмі цяжка. Ды я і не зьбіралася.

Беларускай дыяспары мяне прадставіў сп. Міхась Лужынскі - нязьменны яе лідэр. Прывітаўшыся і сказаўшы некалькі словаў аб Беларусі, аб родных мясьцінах, я, памятаю, прачытала верш, напісаны маёю любімаю паэткаю і зямлячкаю Яўгеньняй Янішчыц, які пачынаецца такімі словамі:

Прыедзь у край мой ціхі,
Тут продкаў галасы,
Тут белыя бусьліхі
І мудрыя лясы...

Звычайна новага чалавека ў новым месцы сустракаюць ня толькі зь цікавасьцю, але і з асьцярогаю. Але трэба было бачыць, як засьвяціліся, пасьвятлелі й памаладзелі твары сівагаловых беларусаў, на іх вочы нагарнуліся сьлёзы - сьлёзы ўспамінаў. І ў кожнага сваіх. І зусім не галоўнае, што ў зале сядзелі людзі зусім розных эміграцыйных часоў. У тое імгненьне нас аб'ядноўвала штосьці большае, штосьці вельмі дарагое і нявыказнае да болю. Я думаю, гэта была любоў і пяшчота да роднай Беларусі, да яе мовы.

З таго часу я заўсёды хаджу на гэтыя надзвычай цёплыя і пахатняму ўтульныя сустрэчы. Усе сьвяткаваньні праходзяць у нашым Беларускім Клюбе ў Fairfield. На сьвяткаваньнях беларускіх гістарычных датаў я пачула аб такіх старонках зь гісторыі Беларусі, што ніколі раней ня чула, ні ў школе, ні ў унівэрсытэце, дзе вучылася. Нас вучылі зусім іншай гісторыі. Я ня бачу ў гэтым маёй віны. Як кажуць, так гістарычна склалася.

Цяпер мне хочацца сказаць пра яднаньне чалавечых сэрцаў, пра тых, хто тут, у Аўстраліі, ня страціў пачуцьцё чалавечай цеплыні й сардэчнасьці, хто ціха, сьціпла і шчыра, без усялякае надзеі на ўзнагароду, дапамагае тым, хто прыяжджае ў Аўстралію, каму цяжка рабіць першыя крокі, каб прыжыцца ў гэтай краіне.

Так здарылася і са мною. У гэтым лісьце я паспрабую хоць коратка распавесьці аб людзях, якія падалі мне руку дапамогі ў той неверагодна цяжкі для мяне час, калі я, ужо немаладая і самотная, апынулася ў складаным становішчы. Так часам здараецца, калі, як бездапаможнае малое дзіця, глядзіш на гэты сьвет са сьціснутым сэрцам і вачыма поўнымі сьлёз і ня ведаеш, што рабіць і як жыць. Нават у стане вялікай радасьці, а ня толькі адчаю, мы ня можам абысьціся безь людзей.

У той час мне дапамагалі розныя людзі, але вялікую падтрымку я мела і ад беларускай грамады ў Сыднэі. Сёньня для мяне гэтыя людзі вельмі блізкія і дарагія, тыя, хто вельмі тактоўна і чула адгукнуліся на мой боль.

Сп-ва Антухоў, Валянціна і Мікалай, - гэта тыя людзі, якія вельмі сардэчна сустракаюць, а потым і праважаюць амаль кожнага, хто прыяжджае за Беларусі ў Сыднэй па тых ці іншых справах і абавязках. І заўсёды дом сп-ва Антухоў гасьцінна адчынены. Людзі жывуць там па некалькі дзён, а то і тыдняў. Клапатлівая Валянціна - вельмі добрая гаспадыня, яна вельмі смачна гатуе і ніколі не рахуецца з часам, толькі-б задаволіць гасьцей. Сп. Антух заўсёды мае цікавую праграму для знаёмства зь цікавымі людзьмі, з горадам, з культураю і прыродаю Аўстраліі. Я вельмі ім удзячная, таму што не засталіся яны ўбаку і ад маіх асабістых праблемаў.

Хочацца падзякаваць праз газэту і сям'і Падгайскіх, Галіне і Яўгену. Яны мае землякі, родам з Палесься. Гэта вельмі інтэлігентная сям'я. Абое яны паходзяць зь сем'яў, дзе бацькі й дзяды былі сьвятарамі. З маладых гадоў сп. Падгайскі таксама прысьвяціў сябе служэньню Богу. Увесь вольны час ён ахвяруе прыходу праваслаўнай царквы, дзе працуе рэгентам. Ягоная жонка Галіна таксама дабрачынна выконвае многія абавязкі ў гэтай-жа царкве, куды прыходзяць беларусы. Сьвятар там таксама беларус Ігар Хлябіч. Ніколі не забуду той час, калі спн. Падгайская хадзіла ўсюды са мною і дапамагала ўладкоўваць справы ня толькі як перакладчыца, але і вельмі блізкі чалавек, які цябе добра разумее і спачувае. У той час я перанесла дзьве апэрацыі. І спн. Падгайская заўсёды праводзіла мяне да самай апэрацыйнай, а потым забірала са шпіталю. Я яе так і называю: маю другая мама.

На суседняй ад мяне вуліцы жыве беларус сп. Язэп Шкода, ужо немалады чалавек. Мы нават яшчэ і не былі знаёмыя, калі ён, пачуўшы пра мае цяжкасьці, захацеў мне дапамагчы матар'яльна. І вось мы ўжо некалькі гадоў, як суседзі й землякі, падтрымліваем сяброўскія адносіны, часта размаўляем, дзелімся навінамі аб Беларусі. Перанёсшы цяжкую апэрацыю на сэрцы й маючы слабое здароў'е сп. Шкода быў і застаецца шчырым беларусам і вялікім патрыётам сваёй Радзімы, заўсёды сочыць за падзеямі там і адным зь першых адгукаецца на заклікі аб дапамозе людзям ці арганізацыям на далёкай Бацькаўшчыне.

Яшчэ асабліва цёплыя словы мне хочацца выказаць у адрас кіраўніка нашага Беларускага Клюбу сп. Міхася Лужынскага. Мудры культурны, вельмі сьціплы чалавек, ён шмат бачыў і перажыў на сваём вяку, выгадаваў трох дзяцей, некалькі дзесяцігодзьдзяў узначальвае беларускае грамадзкае жыцьцё ў Сыднэі. Сп. Лужынскі - чалавек вялікай душы. Яшчэ ён вельмі добры дыплямат. Ніколі не перастану зьдзіўляцца ягонай цярплівасьці й уменьню выслухаць любога чалавека, памірыць людзей самых розных палітычных і жыцьцёвых поглядаў. Я думаю, сп. Лужынскага паважаюць усе беларусы, якія прыяжджалі ў Сыднэй у самыя розныя часы, таму і застаецца ён нязьменным лідэрам.

Нажаль, я не магу пералічыць імёны ўсіх людзей, хто дапамагаў мне, але я ўдзячная ўсім маім землякам. Зараз уяўляю іхныя ужо немаладыя, але вельмі прыемныя твары, іхныя, часьцей блакітныя, вочы, усіх тых, хто ў гэтай далёкай ад Беларусі краіне захавалі беларускую мову, беларускую культуру і любоў да сваёй сінявокай Беларусі.

***Яўгенія СУПРУНЮК***

### У Раду БАПЦ і газэту "Беларус"

У Кліўлендзе адбыўся сход парафіянаў, які зарганізавалі Вольга Макдэрмот і Галіна Кананчук. Сход праводзіўся ад імя царкоўнага камітэту, які страціў свае паўнамоцтвы, бо быў абраны больш за два гады таму і ў свой час быў экскамунікаваны. На сход сабралася каля 50 асобаў і было прынесена 18 упаўнаважаньняў ад людзей, якія ніколі ў царкву не прыходзяць. Шмат каму з тых, хто прыйшоў, дазволу на галасаваньне не далі (напрыклад Міхасю Белямуку). На пачатку меў прамову сп. Анатоль Лук'янчык, які заклікаў адыйсьці ад БАПЦ і супрацоўнічаць зь япіскапам Германасам, падаўшы гэты крок як найлепшы варыянт існаваньня кліўлендзкай парафіі.

Потым сп. Янка Ханенка прачытаў артыкул Статуту БАПЦ аб ліквідацыі парафіі й нагадаў, што гэткі адыход у другую юрысдыкцыю супярэчыць Статуту і зьяўляецца нелегальным. На гэта Галіна Кананчук адказала: "Мы не належым да БАПЦ, мы царква-сірата, якая згубіла япіскапа, таму Статуту не падпарадкоўваемся."

Меў кароткую прамову сп. Васіль Мельяновіч, які ўзгадаў, што парафія застаецца ў БАПЦ, і што на імя БАПЦ зарэгістравана бінга. Ён сказаў, што трэба захаваць беларускую аўтакефальную царкву і назваў пераход у іншую юрысдыкцыю здрадаю. Акрамя гэтага ён узгадаў аб аўтарытарным кіраўніцтве парафіі, аб тым, што царкоўны камітэт без дазволу парафіі распусьціў больш за 280 000 парафіяльных грошай на расейскага адваката, які абараняў не інтарэсы парафіі, а інтарэсы экскамунікаваных асобаў. Пратаколу сходу, які даваў-бы дазвол на такую трату няма.

Потым прамову меў сп. Васілеўскі, які заклікаў прыпыніць дыскусію і галасаваць. Выступы сп. сп. Радзюка і Раманюка былі за захаваньне БАПЦ. Без падліку асобаў, без удакладненьня ўпаўнаважаньняў, без абраньня падліковай камісіі Галіна Кананчук раздала аркушы паперы й папрасіла хуценька зрабіць адметкі. На лістках былі імёны япіскапа Германаса, япіскапа Аляксандра, Мітрапаліта Ізяслава і адной карпата-рускай парафіі.

Пасьля падліку галасоў было абвешчана, што большасьць (30 галасоў) выказалася за япіскапа Германаса, і тым самым выбар зроблены. Некалькі бінгаўскіх жанчынаў запляскалі ў далоні, і на гэтым сход скончыўся.

Такім чынам была зьліквідаваная беларуская парафія з маёмасьцю больш за 3 мільёны даляраў і больш як 50-гадовай гісторыяй. Вернікаў увялі ў зман з дапамогаю расейскага адваката Абакумава, якому заплацілі беларускімі грашыма, сказалі, што царква стала сіратою. Шкода і сумна.

Ці можа Рада БАПЦ зьвярнуцца да беларусаў замежжа і да ўладаў, каб прыпыніць разбурэньне беларускай духоўнасьці й раскраданьне маёмасьці?

***Парафіянін БАПЦ***

# Новыя кнігі ★ Рэцэнзіі

**Пітар Дафі. *"Браты Бельскія: Сапраўдная гісторыя трох асобаў, што не паддаліся нацыстам, уратавалі тысячу дзьвесьце гэбраяў і збудавалі вёску ў лесе".*** Харпер Колінс, Нью ¨рк, 2003.




Гэтая кніга вырасла з газэтнай публікацыі й ёсьць плёнам працы маладога амэрыканскага журналіста, незнаёмага з рэаліямі месца і рэаліямі часу тых падзеяў, пра якія апавядаецца ў кнізе. Гэтымі падзеямі ёсьць стварэньне падчас Другой сусьветнай вайны адмысловага гэбрайскага партызанскага атраду ў Налібоцкай пушчы й уратаваньне зь ягонаю дапамогаю значнай колькасьці гэбраяў з Наваградку, Ліды й ваколіцаў. Гэта таксама ня першая праца, што закранае пытаньне ўдзелу гэбраяў у партызанскім руху супраць нацыстаў і менавіта роля ў ім братоў Тувія, Зуся й Эшаела Бельскіх.

Разам з тым кніга - гэта першае масавае выданьне, што ў папулярным пераказе па-ангельску выяўляе досьвед беларускіх гэбраяў у часы Галакосту - зьнішчэньня гэбрайскага народу ў Другой сусьветнай вайне. Нягледзячы на шэраг навуковых манаграфіяў у гэтай галіне, узброены супраціў гэбраяў застаецца ў масавай сьвядомасьці, як на пост-савецкай прасторы так і ў Амэрыцы, неадпаведным складзенаму падчас вайной і пасьля яе стэрэатыпу гэбрая яе бязьвіннай ахвяры нацыстаў ды іхных памагатых, што фаталістычна прыймала наканаваньне лёсу. Менавіта ў Беларусі гэбраі ня толькі бралі ўдзел у агульных анты-нацыстскіх фармаваньнях, якія падпарадкоўваліся Саветам, але і ўтваралі свае адзінкі, пераважна дзеля цяжкасьцяў а нават небясьпекі знаходжаньня гэбраяў у агульных савецкіх партызанскіх адзінках. Вядомыя ў гэтай сувязі атрад Зорына на Меншчыне, Атласа ў ваколіцах Слоніма, Каплінскага ў ваколіцах Дзятлава, гэбрайская Аб'еднаная партызанская арганізацыя на Віленшчыне (Руднікі-Нарач). Савецкія ўлады не маглі цярпець існаваньне асобных незалежных аздзінак, і каб вытрываць змаганьне, гэбрайскія атрады фармальна прымалі загады агульнага савецкага партызанскага камандаваньня і бралі назвы кшталту "атрад імя Жукава", як група Бельскіх, што пачулі пра Жукава зь перадачаў савецкага радыё.

Асноўны ход падзеяў, апісаных у кнізе, такі: чатыры браты (адзін малалетні) з вялікай сям'і Бельскіх, што мела свой млын у ваколіцах Наваградка (Станкевічы), з прыходам немцаў трапілі ў гета ў Наваградку. Страціўшы шмат крэўных падчас нямецкіх акцыяў у гета, яны ўцяклі ў лес, здабылі зброю, наладзілі сувязь з савецкімі партызанамі. Сутыкнуўшыся з антысэмітызмам, пашыраным сярод партызанаў, тры старэйшыя браты Бельскія арганізавалі асобны атрад, і Тувія Бельскі, што меў вайсковы досьвед з польскіх часоў, стаў камандзірам. Атрад браў удзел у баявых акцыях супраць немцаў і калябарантаў, рабіў дыверсіі на чыгунцы й мастах. Да атраду далучаліся ўцекачы з гетаў, і пад канец вайны ён, нягледзячы на страты, налічваў больш тысячы чалавек гэбраяў. Тувія Бельскі, камандзір атраду, перад самым прыходам Саветаў наўмысна распусьціў атрад, пазбавіўшы сябраў атраду ад абавязковай мабілізацыі ў Чырвоную армію. Тым ня менш некаторыя трапілі туды, як адзін з братоў Бельскіх - Эшаел, які загінуў пад Кёнігзбэргам. Пасьля вайны Бельскія разам зь сем'ямі праз Польшчу і Вэнгрыю перабраліся ў Палестыну, дзе бралі ўдзел у вайне за незалежнасьць Ізраілю, а ў 1950-я перабраліся ў ЗША.

Кніга з большага напісаная па тых-жа крыніцах, што і значна грунтоўнейшая навуковая праца Нэхамы Тэц "Няскоранасьць: Партызаны Бельскія" (Выдавецтва Оксфардзкага ўнівэрсітэту, 1993): інтэрв'ю з сваякамі сям'і Бельскіх і непублікаванымі мэмуарамі Тувіі Бельскага, што захоўваюцца ў Інстытуце ІВО ў Нью Ёрку. Дарэчы, сярод іншых працаў Н. Тэц ёсьць кніга пра гэбраяў Міра падчас вайны і пра польскага гэбрая Освальда Руфайзана, які працаваў перакладчыкам у паліцыі й дапамог уратаваць шмат жыцьцяў. У кнізе Дафі шмат інфармацыі даецца пра беларусаў, якія дапамагалі ратаваць гэбраяў.

П. Дафі адзначае ў спасылках аб выкарыстаньні пры падрыхтоўцы сваёй кнігі працаў Я. Запрудніка "Беларусь на гістарычных ростанях" і Вітаўта й Зоры Кіпель "Беларуская дзяржаўнасьць". Таксама ўзгадваюцца інтэрвію з Барысом Рагулям (чэрвень 2002-га году), які даў аўтару ў карыстаньне свае недрукаваныя мэмуары "Разважаньні аб мінулым". Узгадваецца аб працы з дакумантамі ў архівах Беларусі. У канцы кнігі зьмешчана даволі шырокая бібліяграфія па пытаньні "гэбраі ў партызанах". Дарэчы, вельмі цікавы артыкул Нехамы Тэц (не згаданы Дафі) пра атрад Бельскага, "У партызанаў: лёс жанчын", зьмешчаны ў расейскім перакладзе ў кнізе "Жанчыны на ўскрайку Эўропы" (Женщины на краю Европы; рэд. А. Гапава), якая выйшала сёлета ў Цэнтры гендарных досьледаў пры Эўрапейскім Гуманітарным Унівэрсытэце ў Менску.

Акрамя тэмы гісторыі гэбраяў Беларусі, кніга Дафі, а яшчэ болей - кнігі Н. Тэц, Н. Халяўскага ды шэрагу іншых аўтараў, дае шмат інфармацыі пра беларусаў (якіх Дафі часта падзяляе на "палякаў" і "расейцаў" згодна з веравызнаньнем). Другая сусьветная вайна, што ў канцэнтраваным выглядзе выявіла нацыянальныя характары, высьвеціла найбольш базісныя нацыянальныя праблемы, менавіта - праблему нацыянальнай кансалідацыі, салідарнасьці. У той час калі , напрыклад, паляк дапамагаў паляку і гэбрай дапамагаў гэбраю, назалежна ад палітычных ды іншых рэчаў, беларусы не выяўлялі, за рэдкім выключэньнем, аніякай салідарнасьці. І праз гэта на сваёй зямлі фактычна апынуліся у канцы "біялягічнага ланцужка": немцы забівалі ўсіх - палякі забівалі немцаў і гэбраяў - савецкія забівалі немцаў, часам палякаў і часам гэбраяў - усе забівалі беларускіх сялянаў. Нават гэбраі, учорашнія ахвяры, уцекачы з гета - забівалі беларускіх сялянаў за адмову даць харч і за падазрэньне ў супрацоўніцтве зь немцамі. Гэбраі ня мелі іншага выйсьця як аб'яднацца па нацыянальнай прыкмеце і ўзяць зброю, пастанавіўшы мець у сваім лёсе права голасу. Беларусы не аб'ядналіся, зброі не ўзялі, правы на свой лёс перадаўшы іншым. У пэўнай форме, нажаль, гэтая зьява захоўваецца і сёньня.

У кнізе апісаныя шмат брутальных эпізодаў з дзейнасьці атраду Бельскага супраць нонкамбатантаў: напрыклад, вынішчэньне цэлай сям'і Белавус, спаленай жыўцом, адсячэньні галавы й павешаньні сялянаў, якіх лічылі "здраднікамі". Нажаль, сапраўдная гісторыя партызанкі ў Беларусі яшчэ чакае грунтоўных навуковых досьледаў, а нават чакае магчымасьці яе аб'ектыўнага разгляду, чаго сёньня ў Рэспубліцы Беларусь няма.

Праца П. Дафі, якая, дарэчы, утрымлівае агульную, хоць незусёды аб'ектыўную і дакладную, інфармацыю пра Беларусь, ёсьць несумненна карысная і кранаючая кніга. За бракам іншай інфармацыі пра Беларусь кнігі такога кшталту адыграюць вельмі істотную ролю ў інфармаваньні амэрыканскай публікі пра існаваньне Беларусі, пра яе жыхароў і гісторыю.

***Віталь ЗАЙКА***

## Сустрэча з Коласам

*Заканчэньне з бач. 9*

ту. Выхаваўчы працэс ад пачатку быў дэмакратычным, стваралася атмасфэра маральнага камфорту, даверу. У вучнях падтрымлівалася ініцыятыва, сьмеласьць ставіць любыя пытаньні. Дзякуючы першакласным выкладчыкам, дэмакратызму і распрацаванасьці праграмаў Ліцэй без перабольшаньня выйшаў на сусьветны ўзровень па якасьці адукацыі, за які ня сорамна і ў Эўропе і ў Злучаных Штатах, дзе на конкурсах і сэмінарах ліцэісты годна рэпрэзэнтавалі сваю ўстанову. І гэта ўсё дасягнута ня гледзячы на тое, што заробак выкладчыкаў быў меншы, чым ў астатніх гарадзкіх школах, у якіх да акладу дабаўляліся тры т.зв. "базавыя велічыні" (дадатак у выглядзе трох мінімальных зарплатаў).

Ліцэй, ягоная беларускамоўнасьць і ягоныя посьпехі пачалі муляць вочы чынавенству ад адукацыі й функцыянэрам рэжыму. Ліцэй неаднаразова спрабавалі пазбавіць памяшканьня, "зьліць", зьліквідаваць, бо і настаўніцкі калектыў, і вучні пачуваліся вольнымі, не ішлі ў фарватары афіцыйнай анты-нацыянальнай ідэалёгіі. У 1997-м годзе будынак хацела забраць т. зв. прэзыдэнцкая адміністрацыя, што наклала руку на лепшыя будынкі ў цэнтры Менску. Тады на абарону Ліцэю сталі вучні й бацькі, і ўлады не чакалі такой рашучасьці й арганізаванасьці. Быў дасягнуты кампраміс, у выніку якога сп. Колас з пасады дырэктара перайшоў на пасаду намесьніка, а дырэктарская пасада мусіла застацца "пэрманентна вакантнай". Узамен улады абяцалі пакінуць Ліцэй у спакоі. Ведаючы несумленную натуру сёнешніх уладаў, можна сказаць, што гэта цуд, як доўга Ліцэю было дазволена працаваць. І так праўдамі й няпраўдамі ўдалося дацягнуць да 2003-га году. "Мы баранілі й баронім навучэнцаў ад хлусьні, мы ня хочам, каб зь іх выхоўвалі рабоў, людзей без уласнага гонару і волі". На восеньскіх вакацыях усе школы атрымалі загад правесьці сэмінары пра ролю ідэалёгіі ў выхаваўчым працэсе, ідзе ціск дзеля пагалоўнага запісу вучняў у лукашэнкаўскі камсамол.

Затым сп. У. Колас у прыватнасьці сказаў: "Атрымалася так, што ўсе службовыя асобы рэжыму, зь якімі была дамова ў 1997-м годзе, ужо сыйшлі - няма Пашкевіча, няма Ціцянкова і Замяталіна. Новае кіраўніцтва адукацыі вырашыла паставіць дырэктара на пасаду, якая фармальна была вакантнай. Прыслалі асобу, якая паказала сябе няздольнай і неахвочай да паразуменьня з калектывам выкладчыкаў і навучэнцаў, і перш за ўсё - ня ведала беларускай мовы. І гэта ў АДЗІНАЙ беларускамоўнай навучальнай установе ў цэлай БЕЛАРУСІ! Калі Ліцэй запатрабаваў адазваць такую дырэктарку, былі насланыя адна за адной праверкі навучальнай і фінансавай дзейнасьці. Яны не знайшлі ніякіх парушэньняў, хоць шукалі, як вы можаце сабе ўявіць, надзвычай пільна. І пасьля, нягледзячы ні на што, выйшла пастанова аб ліквідацыі Ліцэю, як сказана ў ейным тэксьце: "у мэтах аптымізацыі сыстэмы навучальных установаў"! Уявіце сабе - ліквідаваць адную з найлепшых, і адзіную беларускамоўную, навучальную ўстанову "ў мэтах аптымізацыі". Навучэнцам улады прапанавалі ўладкаваньне ў любую іншую, самую прэстыжную, школу. Прапаноўвалі па-за конкурснае паступленьне ў ліцэй пры БДзУ (расейскамоўны), і ў сам БДзУ - толькі адступіся, толькі здрадзь. Але 34 чалавекі з 42 засталіся з Беларускім Нацыянальным Гуманітарным Ліцэем. Яны на маюць перспэктываў. Яны ня маюць атэстатаў. Для хлопцаў гэта азначае - войска, а сёньня ў Беларусі гэта не найлепшае месца для маладога і таленавітага чалавека. Але ў пляне маральным - гэта дасягненьне. Дзеці зрабіліся грамадзянамі, зрабіліся асобамі, і яны знойдуць у жыцьці свой шлях. А значыць, мы не дарэмна працавалі, не дарэмна клалі свае сілы.

Пасьля захопу будынку амонам улады пачалі імітацыю рамонту, які быццам спатрэбіўся дзеля "аварыйнага стану" пабудовы - звычайная, стаўшая завядзёнкай хлусьня. Цяпер будынак пусты, ніякіх працаў не вядзецца. Звольнілі нават бугальтараў і вахцёраў, каб і духу Ліцэю не пакінуць у тых сьценах. Але гэта не ўдалося і ня ўдасца.

Выкладчыкі таксама засталіся з Ліцэем. Яны ня маюць заробку, маюць "сапсаваныя" службовыя біяграфіі. Але яны застаюцца годнымі званьня настаўніка. І яны працягваюць працу.

Выкладчыкі й вучні кожны дзень выказваюць адданасьць беларускай мове, беларускай справе сваім штодзённым прыездам на вучобу, занятками па цесных кватэрах, захаваньнем аптымізму і ўзаемнай падтрымкай. Ліцэй жыве, хоць ён пазбаўлены будынку, бібліятэкі, навучальных сродкаў.

У падтрымку ліцэю выступаюць усе патрыёты Беларусі, самыя шырокія колы грамадзтва. Аб сваёй заклапочанасьці й патрымцы выказваліся й працягваюць сачыць за падзеямі палітыкі й урады суседніх краінаў - Польшчы, Летувы, Чэхіі, Нямеччыны, Славакіі. Мы маем нават сымпатыкаў у Расеі, хоць ейныя ўрадавыя колы ані слоўца не выказалі супраць брутальнага парушэньня права на адукацыю ў суседняй краіне-альянце."

Затым сп. Колас дэманстраваў відэастужку, зьнятую падчас захопу Ліцэю амонам, і сустрэчу ліцэістаў ля свайго будынку 1-га верасьня сёлета.

На стужцы адлюстраваны момант, калі ліцэісты даюць прысягу на вернасьць Ліцэю і агульнай справе.

З прывітальным словам да сп. Коласа выступіў сп. Вячаслаў Мішук, дачка якога скончыла Ліцэй некалькі год таму.

***Віталь ЗАЙКА***

## Альдона

*Заканчэньне з бач. 10*

ца ад помсты за тое, што яго асабісты лёс быў такім нешчасьлівым. І помсьціў ён за гэта сваёй нялюбай жонцы, якая была ахвярай палітычных гульняў у значна большай ступені, чым сам Казімір. А пакуль што палітыка неўспрыманьня жонкі прыводзіла толькі да разладу ў краіне. І менавіта Казімір, які пасьля стане вядомым менавіта сваёй палітыкай умацаваньня і цэнтралізацыі дзяржаўнай улады ў краіне, зараз фактычна няўхільна вёў яе да грамадзянскага неспакою. І зноў Альдона выратавала становішча. Яна не адмовілася ад каралеўскай кароны, але і не спрачалася зь Ядзьвігаю, не дазваляла, каб скандал выходзіў за межы палацу. І такім чынам, у рэшце скандал быў прыцішаны, а Альдона засталася каралевай. Пакуль дзьве каралевы высьвятлялі паміж сабою адносіны, Казімір, які фактычна і быў вінаваты ў неспакоі, наведваў корчмы і паводзіў сябе як звычайны пьяніца. За такія некаралеўскія паводзіны яму некалькі разоў выказваў сваё незадавальненьне касьцёл. А вось Альдона як раз атрымлівала ўсё большую і большую падтрымку з боку касьцёлу.

У 1335-м годзе Альдона нарадзіла другое дзіця. І зноў гэта была дзяўчынка Кунягунда. На гэты раз гнеў Казіміра быў настолькі вялікім, а цярпеньне Альдоны, відаць, таксама мела межы, што польская кароль і каралева разышліся назаўсёды. Безумоўна, разышліся яны чыста фізічна, не юрыдычна. Альдона разам з дзецьмі пераехала жыць у іншы палац. Але ў дзяржаўных дачыненьнях яны працягвалі заставацца дзейнымі каралём і каралевай. Магчыма, Казімір і хацеў-бы разысьціся з Альдонай назусім, каб мець права ажаніцца з іншай жанчынай, але касьцёл не дазволіў гэтага.

Альдоне заставалася жыць чатыры гады. Фактычна яна была жонкаю бяз мужа і каралеваю без караля. Але яна ніколі не выглядала на кінутую жонку. Тое, што адбывалася ў яе душы, заставалася схаваным ад чужога вока. Ніхто ніколі не чуў, каб яна скардзілася на свой лёс, на свайго мужа ці сьвякроў. Яна заўсёды заставалася добраю, спагадліваю, міласэрнаю. Па ўсёй краіне хадзілі легенды пра яе дабрачыннасьць. Многія з гэтых легендаў былі нават выдуманымі. Такім чынам народ выказваў спагаду да сваёй каралевы.

А каралева, лёс да якой чамусьці быў такім недобразычлівым, нечакана памірае. Памірае яна вясною, у траўні 1339-га года, калі ўсё цьвіце і хоча жыць. Альдона не хварэла, яна проста стамілася жыць. Памерла яна ціха, чалядніцы не адразу і заўважылі, што іх каралева ня дыхае. Думалі, што сьпіць. Каралеве Альдоне было толькі дваццаць дзевяць гадоў.

Лёс жорстка адпомсьціў каралю Казіміру III Вялікаму за зьдзекі над Альдонаю. На ім, на Казіміры, і скончыўся род некалі магутнага польскага роду Пястаў. Казімір будзе кіраваць Польшчай ажно да сваёй сьмерці ў 1370-м годзе. Пасьля ягонай сьмерці на пятнаццаць гадоў усталюецца гэтак званае "бяскрульле", калі за карону будуць спрачацца магнаты, феадалы, шляхта і прадстаўнікі каралеўскіх дамоў зь іншых краінаў. Нарэшце перамогу атрымае венгерскі каралеўскі дом, на польскі трон узыдзе ўнучка Ўладыслава Лакоткі і дачка венгерскага караля Людовіка Ядзьвіга Пяст, якой на той момант нават не споўніцца адзінаццаці гадоў. Яе дарослым мужам і каралём Польшчы стане Ягайла, князь Вялікага Княства Літоўскага.

*Лілія САЗАНАВЕЦ*

## Вольга БУРНОС
## (19.X.1933 - 8.XI.2003)



Нарадзілася Вольга Бурнос на палескай Беларусі ў вёсачцы Вядо Івацэвіцкага раёну ў сялянскай сям'і й была трэцяй сярод трох братоў і трох сясьцёр.

Адразу па прыезьдзе ў Аўстралію зь Нямеччыны, пажыўшы некалькі гадоў у горадзе Вайалла (штат Паўднёвая Аўстралія), Вольга, ці Соня, як яе тады называлі, пазнаёмілася з Міхасём Бурносам. Сяброўства перайшло ў глыбокае адчуваньне неабходнасьці жыць разам, і ў 1952-м годзе яны згулялі вясельле. Трошкі пазьней, пераехаўшы ў Адэлаіду, прынялі царкоўны шлюб, які адслужыў а. Беразоўскі. Нейкі час здымалі пакой ў сваіх знаёмых, а потым, сабраўшы грошы, купілі свой мураваны дом, у якім і пражылі ўсё сваё жыцьцё.

Менавіта тады Соня пачала ўдзельнічаць у беларускім нацыянальным жыцьці, асабліва ў канцэртах, якія тады арганізоўвалі сябры парафіі БАПЦ разам зь лідэрамі грамадзка-культурнага жыцьця з мэтаю збору грошай на будаўніцтва сваёй беларускай царквы ў Адэлаідзе. Тыя першыя канцэртныя воплескі не пакідалі яе ўсё астатняе жыцьцё.

Неўзабаве аб Вользе пачулі й беларусы Сыднэю зь Мэльбурнам. На 1-й Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі (1975, Мэльбурн) Вольга Бурнос зьвярнула на сябе ўвагу ўсіх прысутных чыстатою голасу і дэкляматарскім талентам. Тады яна чытала напісаны Янкам Ролсанам верш, які ён прысьвяціў той Сустрэчы. Пад кіраўніцтвам яе мужа адэляйдзкія харысткі пасьпяхова сьпявалі беларускія народныя песьні, якіх у іхным рэпэртуары было каля сотні. На 2-й Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі (1977, Сыднэй) мастацкі аўтарытэт Вольгі яшчэ больш замацаваўся. А да 3-й Сустрэчы Вольга ўжо падрыхтавала творы на сваю музыку.

Ад 1987-га году, калі Міхась Бурнос стаў настаяцелям царквы ў Адэляйдзе, усе сталі называць Соню Бурнос матушкай Вольгай. Працавітая і шчырая, яна ўзяла на свае плечы дагляд кветак, якіх было даволі шмат, ды шмат іншых справаў, якіх хапала каля царквы.

Вядомы беларускі лідэр сп. Акавіты заўважыў мне аднойчы: "Такіх беларусак, як Соня, мала. І іх трэба шукаць, а знайшоўшы, трымаць і не адпускаць..."

Ня толькі сваім голасам была вядомая Вольга сярод беларусаў Аўстраліі. Яна вельмі прыгожа і шмат вышывала, як для сябе, так і для многіх іншых беларускую нацыянальную вопратку, ручнікі, царкоўнае ўбранства.

Некалькі гадоў таму яна цяжка захварэла, але нават і тады працавала для беларускай грамады: сшыла новы бел-чырвона-белы сьцяг для Беларускага Аб'яднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі.

Матушку Вольгу пахавалі на праваслаўнай дзялянцы магілак Centennial Park 12-га лістапада 2003-га году. Абрад пахаваньня выканаў а. Яўген (Квасьнюк), настаяцель прыходу Ўкраінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы у Адэляйдзе. Слова ад царкоўнага камітэту беларускай царквы ў Адэляйдзе сказаў Мікалай Кандрусік. Ён выказаў глыбокае спачуваньне а. Міхасю Бурносу, сям'і спачыўшай. Таксама сп. Кандрусік прыпомніў тыя дні, у якія вернікі парафіі арганізоўвалі разам з матушкай Вольгай многія царкоўныя і грамадзкія імпрэзы, адзначыў яе вялікі ўнёсак у царкоўнае жыцьцё.

Нялёгка было гаварыць а. Міхасю, але, сабраўшыся зь сіламі, ён распавёў прысутным аб матушцы Вользе, жанчыне, зь якою дзяліў яны вясёлыя і цяжкія дні сумеснага, такога няпростага жыцьця. На заканчэньні ён прыпомніў, як у той час, калі ён спаў дома адзін, а матушка была ў шпіталі, яна разбудзіла яго сваім клічам - Міхась! Цяжкія прадчуваньні ахапілі яго, якія хутка падцьвердзіліся тэлефонным званком з шпіталю.

У Адэляйдзе стаяў сонечны, бязвоблачны дзень. Ціхія парываньні ветрыка разносілі над магілкамі сьпевы беларускага царкоўнага хору.

Ад імя кіраўніцтва Беларускага Аб'яднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі выказваю свае глыбокія спачуваньні а. Міхасю, родным і блізкім сьветлай памяці Вольгі Бурнос, усім тым, хто дзеліць зь сям'ёю Бурнос гэтую вялікую страту.

*Віктар КАВАЛЕЎСКІ*

## Людміла МАХНЮК
## (2.II.1932 - 25.XI.2003)



Люду Махнюк Бог абдарыў талентамі: яна мела прыгожы голас і здольнасьць да маляваньня. На працягу некалькіх дзесяцігодзьдзяў прыхаджане беларускай праваслаўнай царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры цешыліся вялікім царкоўным хорам, у якім гучэў Людзін звонкі сапрана. Сьпявала Люда і ў сьвецкіх беларускіх хорах. А наведнікі калектыўных мастацкіх выставак, што адбываліся кожнага сакавіка ў суседняй з царквою залі Беларуска-Амэрыканскага Грамадзкага Цэнтру, з прыемнасьцю аглядалі Людзіны малюнкі беларускіх краявідаў. Прываблівала яе да сябе і рэлігійная тэматыка. У капліцы імя адзігітры Смаленскае Божае Маці ў Бэлеры (беларускі цэнтар адпачынку ў штаце Нью-Ёрк) вісіць ейная выява Божае Маці. У памяткавым альбоме, у якім задакумэнтаваныя саўтрывэрскія мастацкія выстаўкі, зьмешчана выказваньне Люды Махнюк пра мастацтва. У гэтых словах адлюстраваная цікавая частка ейнага сьветагляду: "Мастацтва - гэта душа. Яна перадае гледачу супакой або трывогу, часам радасьць, сьмех, смутак, навейвае ўспаміны пра мінулае, пра далёкую Бацькаўшчыну, ейныя звычаі й легенды, перадае палітычныя і рэлігійныя пачуцьці".

У душы сваёй Люда насіла Бацькаўшчыну і ейныя традыцыі. Нарадзілася яна ў Скідзелі на Гарадзеншчыне ў сям'і праваслаўнага сьвятара. Ейны бацька а. Антон Каліноўскі быў сьведамым беларусам і дзеля гэтага польскія ўлады не давалі яму магчымасьці даўжэй пабыць на адным прыходзе. Месца жыхарства сям'і мянялася адно за адным: Скідзель, Мілейчыцы на Палесьсі, Валеўка каля Навагрудка. У 1942-м годзе ў Валеўцы а. Антон трагічна загінуў ад кулі ворагаў беларушчыны. Матушка Лідзія засталася ўдавою з трыма дзецьмі.

Людзіна мама была мастачкай, ейныя абразы ўзбагачалі выстаўкі на эміграцыі, упрыгожвалі беларускія цэрквы. У саўтрывэрскай царкве Сьв. Еўфрасіньні стаіць выканане ёю Расьпяцьце-Галгофа.

Люда, узгадаваная ў патрыятычнай сям'і, захавала глыбокую любасьць да ўсяго роднага. Прывязанасьць да свайго была замацаваная вучобай у беларускай школе, вышкаленьнем у беларускім скаўтынгу, удзелам у беларускіх хорах ды ў сужыцьці з мужам-беларусам Алегам Махнюком. Не дажыла яна адзін год да 50-х угодкаў жаніцтва.

Працавала Люда да выхаду на пэнсію ў бібліятэцы Ратгерскага ўнівэрсытэту. Жыцьцё сваё пражыла шчодра, ахвяроўваючы здольнасьці й для сям'і, і для грамадзтва. Апошнія некалькі гадоў хварэла, бываючы пад апекаю мужа й дзьвюх замужніх дачок, цешылася двума ўнукамі.

Абрад пахавіняў выканаў а. протапрасьвіцер Стаўрас, настаяцель прыходу Сьв. Еўфрасіньні Полацкай, красамоўна прыгадаўшы важную ролю ў жыцьці сьв. пам. Людмілы - жонкі, маці, бабулі, прыхаджанкі, сяброўкі, таленавітае й шчодрае асобы.

За памінальнымі сталамі ў Беларуска-Амэрыканскім Грамадзкім Цэнтры сабраліся сям'я, сябры, супрацоўнікі нябожчыцы. Словамі ўспаміну падзяліўся сп. Міхась Сенька, шматгадовы актыўны прыхаджанін царквы. Ён выказаў спачуваньні сям'і й сябрам нябожчыцы, у тым ліку дочкам Ноне Азарцы, ейнаму мужу Юрку і ўнукам Хрыстафору й Марку, Алісе Д'іКосма й мужу Франку, сястры Леаніле Татум ды брату Алегу Каліноўскаму. Цёплыя словы пра сьв. пам. Людмілу прагучэлі ў вершы, якія напісала й прадэклямавала сп-ня Віла Ляўчук.

Пахаваная нябожчыца на могільніку царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры. Вечная ёй памяць.

*(Я.З.)*

# Паравіны году

**Зьміцер Вайцюшкевіч**
**2003, GT-bank і інш.**



Эўропа 20-х гадоў мінулага стагодзьдзя. Кароткі міжваенны перапынак, кароткі рывок эканомікі, мастацтва... У модзе факстрот, нэаімпрэсыянізм, мадэрнізм. Пра кастрычніцкі пераварот у Расеі ведалі хіба з-за наплыву навеэміграцтаў. Імёны й творчасьць такіх кампазытараў таго часу, як Эрык Саці, Марыс Равэль, Клёд Дэбюсі пакінулі нязгаснае сьвятло ў душах многіх наступных пакаленьняў і паўплывалі на самы шырокі спэктр жанраў.

У дадзеным альбоме Зьміцера Вайцюшкевіча якраз і адчуваецца дух тае эпохі. Нават больш за тое: і назвай сваёй - "Паравіны году" - ён сягае да вызначальных традыцыяў тых часоў або найбольш уплывовых папярэднікаў (прыгадайце славуты цыкль Клёда Дэбюсі "Паравіны году").

З шырокай сольнай дыскаграфіі былога фронтмэну гурту "Kriwi" Зьміцера Вайцюшкевіча гэты альбом будзе, бадай, найлепшым паказьнікам нястомнага руху наперад у разьвіцьці артыста, бо ён быў прыняты публікаю нават з большым энтузыязмам, чым славутыя ягоныя "Баляды", песьня "Прыйдзі, мой каханы" імкліва скарыла ўсе беларускія гіт-парады на тэлевізыйных каналах і FM-станцыях.

Альбом "Паравіны году" цалкам базаваны на паэзіі славутага беларускага барда Алеся Камоцкага, і , па-шчырасьці, папярэднія зьвесткі пра яго ўзбянтэжылі шмат каго зь пільных дасьледчыкаў-музыколягаў. Дзьве такія калярытныя і розныя асобы ў адной абгортцы - што з гэтага атрымаецца?

Атрымалася супэр! Скатваньне ў лірыку каханьня былога сатырыка і прапаведніка Алеся Камоцкага апынулася натхняльным адкрыцьцём для эстэта Вайцюшкевіча. Гранічна ідэальнае спалучэньне выйшла, калі ажно першая спроба пазнаёміцца з вынікам натыкаецца на немагчымасьць адарвацца, і ты яшчэ ў краме слухаеш, слухаеш, слухаеш сакавітыя гукі "Piano", вірлівае танга "Пошукі адказаў", настальгію раманса "Ты прымусіла пець"...

Асабліва неверагодныя адкрыцьці спасьцігаеш тут, натыкаючыся на песьні добра знаёмыя. Напрыклад, "Раскажы мне пра дождж", чароўнай мэлёдыяй якое сам Алесь Камоцкі яшчэ дзесяць гадоў таму, у верасьні 1993-га году скарыў гіт-парад радыё "Liberty". Мэлёдыя пазнаецца лёгка, але ў Зьміцера Вайцюшкевіча праз віртуозныя аранжыроўкі чуецца зусім іншая музыка.

Дарэчы, аранжыроўкамі займаліся адмысловцы "WZOrkiestra", зь якім цяпер працуе Зьміцер Вайцюшкевіч. У ягоны склад уваходзяць Алег Івановіч (гітары), Ксэнія Мінчанка (скрыпка), Алесь Шувалаў (баян), Вячаслаў Сяргеенка (бас), Юрась Мартынаў (бубны), Андрэй Лабчэўскі (клявішныя), Зьміцер Ціхановіч (труба), Зьміцер Бударын (трамбон), Алесь Пузыня (скрыпка), Сяргей Раінчык (фартэпіяна).

Як і папярэднія альбомы Зьміцера Вайцюшкевіча, "Паравіны году" запісваліся ў студыі "Беларускія Песьняры" зь лютага па жнівень 2003-га году. Гукарэжысэры Барыс Далгіх і Сяргей Раінчык.

Асобным абзацам варта адзначыць мастацкую аздобу Дар'і Чарняўскай, якая гранічна дакладна перадае настрой, стылістыку і атмасфэру гэтага альбому. Зірнуўшы на вокладку і пяшчотныя віньеткі васьмістаронкавага буклету з тэкстамі, адразу становіцца зразумелым, каму адрасаваны гэты прадукт. Думаю, прыгажэйшай палове чалавецтва. Хоць і ствараў яго пераважна дужая палова чалавецтва. Во будзе ідэальны падарунак - ад нас вам! - да якога-небудзь жаночага сьвята або дня закаханых.

Зрэшты, ня толькі жанчыны будуць яго слухаць, бо зьмест альбому наўпрост зьвернуты й да мужчын. Вось, напрыклад, што вы робіце, калі чуеце ад любай: "Прыйдзі, мой каханы"? Аказваецца...

... хто не прыходзіць такою хвілінай,
Каб даць ёй магчымасьць прачнуцца жанчынай,
Той проста глухі, ці сьляпы, ці убогі,
Загіне ўбаку ад галоўнай дарогі.

Жанчынам гэты альбом прыемнасьць, а мужчынам - навука. Школа здаровых пачуцьцяў. Беларускі сэрыял кшталту "Багатыя таксама плачуць, а бедныя таксама кахаюць". А як выкладаецца тая навука прафэсыйна і адмыслова!

*Вітаўт МАРТЫНЕНКА*

**Каб замовіць гэты кампактдыск поштаю дашліце $12 на адрас рэдакцыі "Беларуса".**

---

**Аддзел БАЗА ў Нью Ёрку запрашае ўсіх на навагоднюю вечарыну, якая адбудзецца 31-га сьнежня 2003-га году а 10-й гадзіне ўвечары ў грамадзкай залі царквы Сьв. Кірылы Тураўскага на 401 Атлянтык авэню ў Брукліне.**
**ВАС ЧАКАЮЦЬ СМАЧНЫЯ СТРАВЫ, ДОБРЫЯ НАПОІ, ВЯСЁЛАЯ МУЗЫКА, ТАНЦЫ, ГУЛЬНІ, АТРАКЦЫЁНЫ, ПРЫЕМНЫЯ ЗНАЁМСТВЫ.**
**Кошт квітка $60. Сябрам БАЗА - $50. Дзецям да 12 гадоў уваход бясплатны, а падлеткам і студэнтам за палову кошту.**
**Месцы замаўляйце ў сп. Валеры Дворніка:**
***Valery Dvornik, 172 Mill Spring Rd., Manhasset, NY 11030 tel: (516) 627-6491***
**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на *Belarusan American Association.***

---

# Дапамога беларускай адукацыі

**Беларускамоўнай адукацыі вельмі патрэбная матар'яльная дапамога, каб даць адпор наступу з боку антыбеларускага рэжыму.**

Такая дапамога ўжо пачынае прыходзіць ад міжнародных і беларускіх установаў, арганізацыяў і ад грамадзтва дыяспары. У некаторых асяродках ужо пачалася акцыя збору ахвяраваньняў на гэтую мэту і пакуль што наступныя асобы згадзіліся дапамагаць штомесяца да канца школьнага году:

**Клііўленд**: адказна **Сяргей Раманюк** *тэл. 1-216-337-0632*

Тамара Белямук
Валя Яцэвіч
Марыя Ягоўдзік
Яўген Калядка
Таня Кананчук
Галіна Кананчук
Вера Каваленка
Воля Лукашэвіч
Янка Раковіч
Васіль Мельяновіч
Маня Патапенка
Хведар Паўлавец
Сяргей Раманюк
Каця Валюкевіч

**Нью Ёрк**: адказная **Таня Красоўская** *тэл. 1-718-8597201*

Праньціш Бартуль
Уладзімер Целехаў
Барыс Данілюк
Валеры Дворнік
Расьціслаў Гарошка
Мікалай Якубовіч
Таня Красоўская
Зьміцер Левіт
Віталь Міхноўскі
Уладзімер Машкаўсон
Вячаслаў Мішук
Таня Піліповіч
Алла Орса-Романо
Коля Романо
Павал Романо
Анатоль Тальянскі
Людміла Трапец
Віталь Зайка
Вера Запруднік

Установы й асобы, якія далі большыя аднаразовыя ахвяраваньні: Духавенства Сабору Сьв. К. Тураўскага ў Брукліне, Алеся Кіпель, Вітаўт Кіпель, Orsa Romano Cultural and Educational Foundation, Уладзімер Русак.

**Грамадзтва беларускай дыяспары заклікаецца да гэтай акцыі!!!**

Ахвяраваньні на гэтую мэту звольненыя ад падаткаў. Чэкі можна выпісваць на ўстанову, якая каардынуе акцыю дапамогі беларускай адукацыі:

***O. R. Cultural and Educational Foundation***

Яе адрас: ***172 Mill Spring Rd. Manhasset, NY 11030***

---

*Газэта "БЕЛАРУС" бясплатна надрукуе кароткія аб'явы некамэрцыйнага характару, віншаваньні, запрашэньні, спачуваньні ды іншн. Наконт разьмяшчэньня рэклямы кантактуйце рэдакцыю.*

*Шаноўныя чытачы! Дасылайце, калі ласка, калядныя віншаваньні, якія будуць надрукаваныя ў студзеньскім нумары газэты.*

*Таксама не забывайце, што надыходзіць час працягнуць падпіску на "Беларус" на наступны год.*

**АХВЯРАВАНЬНІ НА БІНіМ:**
**НА ВЫДАНЬНЕ СЛОЎНІКА:**

М. Дэмковіч ........50

**НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА" АХВЯРАВАЛІ:**

І. Каляда-Сьмірноў .........200
А. Махнюк ..............130
П. Алексы ...............40
П. Каян ................40
Т. Бусіер ...............30

**Заміж кветак на магілу сьв. пам. Людмілы Махнюк:**

Я. і Н. Запруднік ...........100

**Усім шчыры дзякуй!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
**Выдае штомесячна: БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІН-Е**
**Падпіска $30 на год.**
**Чэкі выпісвайце на BIELARUS**

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
**Published monthly by BELARUSAN AMERICAN ASS'N, Inc.**
**Subscription $30 yearly**
**Make checks payable to BIELARUS**

**Рэдагуе калегія.**
*Адказны рэдактар*
**Марат Клакоцкі**
*Падпіска*
**Сяргей Трыгубовіч**

*Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.*

***Передрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.***

© BIELARUS, 2003

**Адрас для допісаў і кантактаў:**
BIELARUS
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735
**E-mail:**
hazetabielarus@att.net
**Сусьветнае сеціва:**
www.bielarus.org

***Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.***